Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 9 (4655) 2 сакавіка 2012 г.

**Дарагія сябры!**

Ад імя Міністэрства культуры сардэчна віншую з 80-годдзем з дня заснавання газеты!

За гады плённай працы выданне "Літаратура і мастацтва" набыло папулярнасць і высокі аўтарытэт, стала неад'емнай часткай культурнага жыцця нашай краіны са сваёй шматлікай чытацкай аўдыторыяй.

Вам сапраўды ёсць чым ганарыцца. Свае першыя творы на старонках газеты публікавалі вядомыя і славутыя беларускія пісьменнікі — Іван Мележ, Іван Шамякін, Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч і іншыя.

Высокі прафесіяналізм, мастацкую каштоўнасць і актуальнасць вызначаюць матэрыялы, што друкуюцца на старонках газеты сёння. Відавочна, што газета непарыўна звязана з навізной і маштабнасцю сучаснасці, яе жыццё напоўнена новымі літаратурнымі пошукамі і знаходкамі. Менавіта таму на працягу доўгага часу "Літаратура і мастацтва" адыгрывае прыкметную асветніцкую ролю, дынамічна развіваецца і застаецца запатрабаванай.

Ваша газета папулярызуе лепшыя ўзоры нацыянальнай культуры і распаўсюджвае духоўныя каштоўнасці беларускага народа. Таму прыміце словы падзякі за шматгадовую адданую працу па падтрымцы і развіцці нацыянальнай літаратуры, мастацтва, беларускай культуры ўвогуле.

Жадаю вам новых здзяйсненняў і творчага натхнення на карысць нашай беларускай літаратуры і мастацтва.

**Павел ЛАТУШКА,**
**міністр культуры**
**Рэспублікі Беларусь**

# Юбілей, сагрэты цеплынёй

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ,**
**фота Кастуся Дробава**

**Напярэдадні юбілею ў рэдакцыю паступілі дзясяткі віншаванняў ад пісьменнікаў, журналістаў, літаратуразнаўцаў, якія пачыналі свой творчы шлях публікацыямі ў "ЛіМе". Шчырыя пажаданні мы атрымалі ад заснавальнікаў газеты, калег, грамадскіх літаратурна-краязнаўчых аб'яднанняў, нашых актыўных аўтараў.**

Да юбілею газеты была прымеркавана творчая сустрэча. Адкрываючы яе, галоўны рэдактар штотыднёвіка Таццяна Сівец падкрэсліла, што для газеты паняцця ўзросту не бывае. Газета жыве з народам, дзяржавай, яна — люстэрка літаратурных і грамадскіх падзей краіны.

Цёпла, шчыра, па-бацькоўску калектыў рэдакцыі, аўтарскі актыў павіншаваў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец. Ён, у прыватнасці, адзначыў:

— Дзейнасць рэдакцыі "ЛіМа" напоўнена пошукамі, у той жа час і традыцыі задзейнічаны ў асвятленні шматгранных творчых працэсаў. Газета папулярызуе лепшыя прыклады нацыянальнай культуры, духоўныя каштоўнасці беларускага народа. Менавіта на яе старонках упершыню былі апублікаваны некаторыя творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Івана Мележа, Васіля Быкава і іншых класікаў беларускай літаратуры.

Мікалай Іванавіч уручыў рэдакцыі газеты каштоўны падарунак, а супрацоўнікам і ветэранам — граматы СПБ.

Цёплыя, натхняльныя словы прагучалі з вуснаў першага намесніка дырэктара РВУ "Літаратура і Мастацтва" Алеся Бадака, намесніка галоўнага рэдактара газеты "Звязда" Таццяны Падаляк, загадчыка аддзела Мінскага гаркама прафсаюза работнікаў культуры Галіны Галіцкай. Ад імя калектываў літаратурных музеяў Беларусі штотыднёвік вітала Зінаіда Камароўская.

Павіншавалі газету яе сталыя чытачы.

"ЛіМ" шчыра дзякуе вам, сваім добрым і надзейным сябрам, за падтрымку!



***На здымку: Мікалай Чаргінец уручае прывітальны адрас галоўнаму рэдактару "ЛіМа" Таццяне Сівец.***

# Радзімы лірычны партрэт

**140 гадоў таму нарадзіўся народны мастак БССР і РСФСР, ганаровы акадэмік АН БССР, праўдзейны член Акадэміі мастацтваў СССР Вітольд Бялыніцкі-Біруля (1872 — 1957). Таленавіты беларус са старажытнага шляхецкага роду, прадаўжальнік рэалістычных традыцый рускай акадэмічнай школы жывапісу, арыгінальны, непаўторны пейзажыст, на ўсё жыццё ўражаны і натхнёны вобразамі роднага краю.**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

Ён прыйшоў у гэты свет на бялыніцкай зямлі, у сядзібе Крынкі, гадаваўся на ўлонні сціпла-прыўкраснай прыроды Магілёўшчыны, ва ўтульным атачэнні простых вясковых краявідаў. Вось толькі дата яго нараджэння падаецца містычнай: уявіце — 29 лютага! Дзень, які з'яўляецца ў нашым календары раз на чатыры гады, а на зімова-вясновым памежжы года звычайнага, не высакоснага, стварае людзям дзіўную праблему... Але гэтым разам без праблем, акурат 29 лютага, Нацыянальны мастацкі музей Беларусі зладзіў мемарыяльную вечарыну, прысвечаную нашаму выдатнаму земляку. Апроч круглай даты з дня яго нараджэння, сёлета адзначаюцца яшчэ дзве: 100-годдзе сядзібы-майстэрні пад назваю "Чайка", якую Вітольд Каятанавіч пабудаваў на зямлі, прыдбанай ва ўласнасць у колішняй Цвярской губерні, паблізу возера Удомля і якая, можна сказаць, зрабілася для яго "сядзібай муз", а таксама 30-годдзе Музея В. К. Бялыніцкага-Бірулі ў Магілёве, філіяла НММ Беларусі. Да знамянальных падзей прымяркоўваецца і новая кніга дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея Уладзіміра Пракапцова пра выбітнага жывапісца, выданне якой ужо чакаюць зацікаўленыя чытачы, знаёмыя з многімі публікацыямі, дакументальнымі матэрыяламі, работамі даследчыкаў і літаратараў на гэтую тэму. Чакаюць з прадчуваннем чарговых адкрыццяў.

Так, творчасць В. Бялыніцкага-Бірулі, як творчасць кожнага класіка, — гэта планета бясконцых адкрыццяў. Аднак яна ніколі не была для нас terra incognita. Імя В. Бялыніцкага-Бірулі не знікала з гісторыі айчыннай культуры, а яго самога не пакідала пачуццё настальгіі. Біёграфы сведчаць: 75-гадовы майстар, наведаўшы радзіму пасля больш як сарака гадоў разлукі, гаварыў, што ніколі не забываўся на такія родныя і блізкія сэрцу яе лясы, рэкі, азёры. Шчырым прызнаннем Вітольда Каятанавіча ў любові да свайго краю засталіся дзясяткі эцюдаў, зробленых тады ў наваколлі Мінска, ды створаны на іх аснове цыкл карцін, прысвечаных Беларусі. У 1948 годзе В. Бялыніцкі-Біруля зноў прыехаў у нашу сталіцу, выступіў на II з'ездзе мастакоў БССР, падкрэсліўшы значнасць для мастацкай творчасці лепшых нацыянальных традыцый роднага народа.

(Заканчэнне на стар. 19)

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прызначыў Сяргея Чыжыка намеснікам старшыні Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, а Сяргея Кіліна галоўным вучоным сакратаром.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка абвявіў падзяку калектыву музыкантаў Нацыянальнага акадэмічнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі Рэспублікі Беларусь за значны ўнёсак у развіццё нацыянальнай культуры.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з 80-годдзем народнага мастака Беларусі Івана Міско. “Мы высока цэнім Вас як выдатнага скульптара сучаснасці, чалавека з цвёрдай грамадзянскай пазіцыяй, які прысвяціў усяго сябе служэнню Беларусі”, — сказана ў віншаванні.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з юбілеем народную артыстку Расійскай Федэрацыі Веру Алентаву. “Ваш творчы лёс — прыклад надзвычай гарманічнага спалучэння яркага таленту, майстэрства і акцёрскай удачы”, — сказана ў віншаванні.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Расіі Мікалая Растаргуева з 55-годдзем. “На сучаснай эстрадзе Вы з'яўляецеся адным з нямногіх артыстаў, для якіх любоў да Айчыны, гонар і вернасць доўгу сталі асноўным сэнсам творчасці”, — адзначана ў віншаванні.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка на нарадзе па выніках правядзення фіналу Нацыянальнага тэлевізійнага музычнага праекта “Еўрафэст” заявіў пра падтасоўку яго вынікаў. “Сумна, што нам даводзіцца на ўзроўні Прэзідэнта займацца падобнымі пытаннямі”, — адзначыў Кіраўнік дзяржавы. Аднак ён выказаўся за прынцыповасць і справядлівасць. На “Еўрабачанне” ў Баку паедзе група Litesound, якая ў галасаванні слухачоў на дзве тысячы галасоў апярэдзіла спявачку Алену Ланскую. Супрацоўнікі “Белтэлерадыёкампаніі”, вінаватыя ў падтасоўцы фактаў, будуць звольнены. Шэраг адказных асоб атрымалі ад Прэзідэнта вымовы і папярэджанні.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў сувязі са смерцю народнай артысткі СССР Людмілы Касаткінай накіраваў спачуванні яе сыну Аляксею Коласаву: “Яе сыход з жыцця болем і сумам адгукнуўся ў нашых сэрцах”.

✔ Міністэрствам культуры Беларусі на пасяджэнні калегіі вылучаны суіскальнікі на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры. Названы імёны аўтараў цыкла манументальных прац “І памятае свет уратаваны” Уладзіміра Слабодчыкава і Ігара Марозава; спявачкі Ірыны Дарафеевай; баяніста Уладзіслава Плігаўкі; стваральнікаў спектакля Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы “Пінская шляхта”; аўтара дзіцячай кнігі “Сонечны кошык” Міколы Чарняўскага; аўтара серыі кніг “Сем цудаў Беларусі” Анатоля Бутэвіча; рэстаўратараў Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі.

✔ Нацыянальны акадэмічны народны хор Беларусі імя Г. Цітовіча даў канцэрт, прысвечаны 60-годдзю з дня заснавання калектыву ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі. Для святочнага выступлення былі адабраны нумары, якія ярка прадэманстравалі публіцы багаты беларускі фальклор і танец.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## Нас віншуюць

### Калектыў штотыднёвіка “ЛіМ” працягвае прымаць віншаванні і цёплыя словы калег, аднадумцаў, неабыякавых да лёсу беларускай літаратуры і культуры людзей.

**Нацыянальная кніжная палата Беларусі:**
Для такой газеты 80 гадоў — гэта сведчанне запатрабаванасці і аўтарытэту выдання сярод чытацкай аўдыторыі. Ваш калектыў — гэта сапраўдныя прафесіяналы, якія валодаюць вялікім вопытам работы і ўнікальнымі ведамі. Газету адрозніваюць не толькі цікавыя і змястоўныя матэрыялы, але і глыбокія інтэрв'ю, асветніцкая праца.
Выказваем вам шчырую падзяку за плённае супрацоўніцтва паміж нашымі ўстановамі ў сферы дзяржаўнай бібліяграфіі і ажыццяўленне сумеснага праекта “Кніжны свет”.

**Газета “Звязда”:**
Штотыднёвік “ЛіМ” заўсёды быў захавальнікам роднай мовы і нацыянальнай культуры, гісторыка-культурных каштоўнасцей, маральных ідэалаў народа. “ЛіМ” аб'ядноўвае творчую інтэлігенцыю краіны, працягвае і развівае лепшыя традыцыі прыгожага пісьменства.
Зычым усім супрацоўнікам рэдакцыі і чытачам “ЛіМа” заўсёднага творчага натхнення, добрага здароўя, аптымізму і дабрабыту, міру і шчасця, а газеце — пастаяннага руху наперад і нязменных поспехаў у творчай працы на карысць роднай Беларусі.

**Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр:**
Наколькі разнастайнае культурнае жыццё нашай краіны, настолькі поўна і шматгранна асвятляецца яно на старонках газеты “ЛіМ”. Мы вельмі ўдзячны вашаму цудоўнаму калектыву за цікавасць і ўвагу да нашай дзейнасці… На сённяшні дзень “ЛіМ” — наш сапраўдны сябра і добры партнёр, з якім вельмі прыемна супрацоўнічаць.
Мы ўпэўненыя, што наступныя гады прынясуць вашай газеце яшчэ больш цікавых ідэй, якія абавязкова ператворацца ў яркія матэрыялы розных жанраў. Хочам пажадаць вам ніколі не спачываць на лаўрах, а заўсёды імкнуцца да заваявання новых творчых вяршынь. Далейшага росквіту і поспехаў, дабрабыту і стабільнасці, здароўя і шчасця ўсім супрацоўнікам газеты “ЛіМ”!

**Беларускі славянскі камітэт:**
80-годдзе газеты “Літаратура і мастацтва” — сапраўднае свята для ўсіх, хто любіць сваю Радзіму Беларусь, родную мову, хто шануе нашы славянскія карані! “Літаратура і мастацтва” з нумара ў нумар кожным сваім словам дае чытачу асалоду пачуцця годнасці, заклікае да яднання беларускага грамадства з сусветным славянствам. Са святам вас, шаноўныя браты і сёстры! Поспехаў вам літаратурных!

**Выдавецтва “Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі”:**
Ад шчырага сэрца віншуем вас з 80-годдзем выхаду ў свет першага нумара газеты “Літаратура і мастацтва”. На працягу васьмі дзесяцігоддзяў ваша газета з'яўляецца летапісам культурнага жыцця Беларусі, адметнай школай майстэрства для некалькіх пакаленняў супрацоўнікаў і пазаштатных аўтараў.
“ЛіМ” — гэта гарманічнае, шматпланавае выданне, якое ствараецца на высокім прафесійным узроўні. Штотыднёвік карыстаецца попытам і любоўю сярод інтэлектуалаў нашай краіны. І гэта выбітны вынік вашай адказнай штодзённай працы. “ЛіМ” вылучаецца аналітычнасцю і простым душэўным стылем публікацый, шматпланавасцю і глабальнасцю ўзнімаемых тэм.

**Гомельская Гарадская цэнтральная бібліятэчная сістэма:**
Сардэчна віншуем калектыў “ЛіМа” з 80-годдзем выхаду ў свет першага нумара газеты! Жадаем вам цікавых падзей, вялікіх тыражоў і верных чытачоў!

**Да віншаванняў штотыднёвіку “ЛіМ” далучыліся таксама: Нацыянальная бібліятэка Беларусі, Мінскі гарадскі камітэт Беларускага прафсаюза работнікаў культуры, Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры, Літаратурны музей Максіма Багдановіча, Літаратурны музей Петруся Броўкі, Літаратурны музей Янкі Купалы, Літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа, Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі.**

## Стасункі



# Прывітанне з краіны Сонца

**У таджыкскім пасольстве ў Беларусі білет члена Саюза пісьменнікаў Таджыкістана быў уручаны старшыні бюро секцыі краязнаўства, старшыні Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Алесю Карлюкевічу.**

Максім ПРЫТЫКА

Падзея для развіцця беларуска-таджыкскіх літаратурных і культурных стасункаў зусім не выпадковая. Алесь Карлюкевіч — ініцыятар многіх перакладчыцкіх праектаў, здзейсненых дзеля пашырэння пазіцыі беларускай літаратуры ў Таджыкістане і наадварот — таджыкскай у Беларусі. З'яўляецца ўкладальнікам зборніка сучаснай беларускай прозы і паэзіі “Вячэрняе вогнішча”, што выйшаў у Душанбэ. На старонках розных таджыкскіх перыядычных выданняў друкаваліся артыкулы А. Карлюкевіча, прысвечаныя беларуска-таджыкскім сувязям. Двойчы ў Душанбэ выдавалася кніга беларускага пісьменніка “Дружба народаў — дружба літаратур” (напісана ў суаўтарстве з Ато Хамдамам). Шмат намаганняў Алесем Мікалаевічам прыкладзена дзеля таго, каб у Беларусі стала вядома імя рускага пісьменніка Таджыкістана, ураджэнца Віцебшчыны Леаніда Чыгрына. Пра творчасць гэтага гістарычнага раманіста напісаны дысертацыі, яго кнігі выдаюцца ў Японіі, Кітаі, Турцыі, Італіі, ЗША, Канадзе. Нядаўна дакументальную споведзь Леаніда Чыгрына пра ўласнае жыццё надрукаваў часопіс “Нёман”.

У апошнія гады прастора беларускай літаратуры ў Таджыкістане сапраўды пашырылася. У Душанбэ пабачылі свет кнігі прозы і паэзіі Г. Марчука, М. Мятліцкага, Ю. Сапажкова. Творы беларускіх паэтаў і празаікаў друкуюцца ў таджыкскіх газетах і часопісах. Застаецца спадзявацца, што мост беларуска-таджыкскага літаратурнага пабрацімства і далей будзе трываліцца, умацоўвацца. На тое ёсць усе падставы.

## Прэс-канферэнцыі

# Нагода для гонару

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**У межах Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі “Культурная спадчына: філасофскія, гістарычныя, юрыдычныя аспекты” ў Беларускім дзяржаўным музеі Вялікай Айчыннай вайны адбылася прэс-канферэнцыя “Культурная спадчына ў фарміраванні гістарычнай памяці”.**

Удзел у ёй узялі дырэктар музея Сяргей Азаронак, галоўны спецыяліст Міністэрства культуры Дзмітрый Шляхцін, рэктар Міжнароднага ўніверсітэта “МІТСО” Станіслаў Князеў, вядучы навуковы супрацоўнік РНДІ культурнай і прыроднай спадчыны імя Д. Ліхачова Вольга Лаўрэнава, прарэктар па навуковай працы БДУ культуры і мастацтваў Марына Мажэйка, а таксама старшыня аддзялення Міжнароднага цэнтра М.Рэрыха ў Беларусі Наталля Базылева. На сустрэчы з журналістамі гаварылі пра выніку канферэнцыі і пра такую важную праблему сучаснасці, як захаванне матэрыяльнай і нематэрыяльнай спадчыны беларусаў.

Стасункі з мінулым у кожнага народа складаюцца па-рознаму. Адны дзяржавы беражліва збіраюць усё, што дайшло да нашага часу з сівой даўніны. Іншыя перажываюць перыяды манкуртызму, знішчаючы дзеля палітычных ці то рэлігійных амбіцый помнікі архітэктуры, мастацтва, літаратуры сусветнага значэння. Беларусь неаднаразова аказвалася ў эпіцэнтры разбуральных падзей — войн, паўстанняў, рэвалюцый. Мы многае страцілі. Аднак адметнасцю XXI стагоддзя для нашай краіны стала планамернае аднаўленне напаўразбуранага, пошукі страчанага, захаванне ацалелага, новае адкрыццё забытага.

Прыгадваючы заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь, прынятыя ў апошнія дзесяцігоддзі, удзельнікі прэс-канферэнцыі заўважылі, што для многіх іншых краін такое стаўленне да гістарычнай памяці можа быць прыкладам. Рэстаўруюцца творы мастацтва, аднаўляюцца культурныя традыцыі беларускага народа, пераабсталёўваюцца музеі. І, самае галоўнае, выхоўваецца пакаленне, накіраванае на зберажэнне культурных каштоўнасцей. Беларусі ёсць чым ганарыцца. Выведзены з заняпаду Мірскі замак, які сёння для турыстаў з'яўляецца тварам Беларусі. Адноўлена амаль страчанае майстэрства вырабу беларускай дуды і ігры на ёй. Увайшоў у “залаты фонд” нематэрыяльнай спадчыны беларусаў народны абрад “Пахаванне стралы”. У Смаргоні ствараецца грандыёзны мемарыял — адзіны пакуль у свеце помнік падзеям Першай сусветнай вайны.

Такіх адраджэнцкіх прыкладаў цяпер шмат. Аднак спачываць на лаўрах — не час. Цэлы шэраг праблем яшчэ належыць вырашыць. Адна з іх — ахоўныя зоны вакол помнікаў архітэктуры. Другая — ператварэнне музеяў у сацыякультурныя цэнтры. Дарэчы, музейныя работнікі не чакаюць, пакуль наведвальнік завітае пад іх дахі, а самі ідуць да людзей. З лекцыямі і паказамі асобных экспанатаў, з цікавымі святочнымі, юбілейнымі і тэматычнымі мерапрыемствамі, з імкненнем і ініцыятывай.

Літабсягі

# У «Купалінку» — на свята

Мікола ЧАРНЯЎСКІ,
фота Кастуся Дробава

**Галоўныя рэдактары часопіса “Нёман” і газеты “Літаратура і мастацтва”, пісьменнікі Алесь Бадак і Таццяна Сівец, былі запрошаны ў якасці гасцей на чарговае пасяджэнне літаратурнай суполкі “Купалінка”, якая аб'ядноўвае 20 школьных літгурткоў Мінскага раёна.**



На літаратурныя пасяджэнні “Купалінкі”, якія ў апошні час заўсёды праходзяць у памяшканні Беларускага паэтычнага тэатра “Зьніч”, што ў Чырвоным касцёле, гурткоўцы часта запрашаюць пісьменнікаў. Гэта ўжо добрая традыцыя. Такія сустрэчы — сапраўдныя святы далучэння вучняў да таямніц паэтычнай творчасці і роднага слова, непаўторныя ўрокі тэорыі літаратуры. Толькі за апошні час у гасцях у сяброў “Купалінкі” пабывалі такія прызнаныя майстры мастацкага слова, як Раіса Баравікова, Мікола Мятліцкі, Міхась Пазнякоў, Мікола Маляўка, Уладзімір Мазго, Павел Саковіч, Алена Масла, Юлія Зарэцкая, Рагнед Малахоўскі. Цікава, што госці, якія ў большасці сваёй з'яўляюцца супрацоўнікамі РВУ “Літаратура і Мастацтва”, не толькі знаёміліся з творчасцю пачаткоўцаў, але і рабілі канкрэтныя прапановы, захады — лепшае з напісанага бралі з сабою, каб потым гэтыя творы маглі з'явіцца ў друку.

Надзвычай цікава прайшло і нядаўняе пасяджэнне. Выступаючы перад школьнікамі, Алесь Бадак і Таццяна Сівец знаёмілі іх са сваімі творамі, дзяліліся ўспамінамі пра першыя літаратурныя крокі, публікацыі ў друку, давалі парады, ацэнкі вершам пачаткоўцаў. Закрануўшы сакрэты творчасці, пытанне, адкуль бяруцца сюжэты твораў, іх задумы, Алесь Мікалаевіч расказаў, што падштурхнула яго ўзяцца за напісанне аповесці “Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца”. Аповесць гэтая адрасу ж знайшла сцяжынку да сэрцаў падлеткаў і цяпер уключана ў школьныя праграмы. А Таццяна Мікалаеўна сярод сяброў “Купалінкі” нечакана знайшла для “ЛіМа” новага аўтара: ёй спадабаліся вершы самахвалавіцкай настаўніцы Марыі Новікавай, якая з'яўляецца кіраўніком школьнага літаратурнага гуртка “Спадчына”.

Шмат у каго з купалінцаў пасля сустрэчы засталіся на ўспамін кнігі з аўтографамі гасцей, а ў тых — кветкі і, напэўна ж, цёплае незабыўнае пачуцце вяртання ў сваё школьнае пачаткоўства. А таксама спадзяванне, што зярняты любові да роднага слова, кінутыя імі ў сэрцы юных творцаў падчас сустрэчы, у недалёкім будучым дадуць прыкметныя ўсходы і ў нашай літаратуры з'явяцца новыя імёны.

***На здымку: вершы чытае Алесь Бадак.***

Артлінія

# Зоркі ў лабірынце

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота аўтара

**Рэспубліканская выстаўка работ лаўрэатаў, стыпендыятаў і дыпламантаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі адкрылася ў сталічнай мастацкай галерэі “Універсітэт культуры”. У яе адмысловым лабірынце творы маладых айчынных зорак жывапісу, дызайну, графікі, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога і фотамастацтва прабудуць да 13 сакавіка. Арганізатары праекта — Міністэрства культуры краіны, спецыяльны фонд Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі, Інстытут культуры Беларусі, БДУ культуры і мастацтваў.**



Госці вернісажа, сярод якіх былі намеснік старшыні Савета спецыяльнага фонду, намеснік міністра культуры Беларусі Тадэуш Стружэцкі ды старшыня экспертнамастацкай камісіі фонду, рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Міхал Баразна, звярнулі ўвагу на новыя тэндэнцыі ў фарміраванні традыцыйнай справаздачнай экспазіцыі, адзначылі высокі ўзровень прадстаўленых твораў. З афіцыйных выступленняў і кулуарных размоў высноўвалася думка, што моладзь дзякуючы фонду нават у найскладаных для творчай інтэлігенцыі эканамічных варунках адчувае падтрымку на дзяржаўным узроўні, а значыць — сваю запатрабаванасць.

Сёлетняя выстаўка дэманструе не толькі перспектыву развіцця традыцый беларускай школы выяўленчага мастацтва і годны прафесійны ўзровень яе спадкаемцаў, але і досыць адказнае, удумлівае стаўленне моладзі да самога сэнсу творчай дзейнасці. Зрэшты, і раней у стракатым сузор'і ўдзельнікаў гэтага штогадовага праекта вылучаліся асабліва яркія імёны (Алеся Скорабагатая, Вольга Мельнік, Ганна Конанава, Дзяніс Чубукоў, Павел Лявонаў), якія запаміналіся адразу, а потым прыцягвалі ўвагу на новых вернісажах. Вось і тут пазнаеш манеру кожнага з маладых майстроў, разглядаючы сакавіты “фарбапіс” Ганны Конанавай-Грыгалец, паглыбленасць ляўкасаў Вольгі Мельнік-Малахавай, эстэцкія сюжэты Аляксандра Даманава, характарнасць персанажаў фотамастака Міколы Купрыча. А побач — новае: псіхалагічны партрэт “Зіма” Вікторыі Шыдлоўскай, жывапісныя пошукі Кацярыны Шымановіч, Вольгі Кісялёвай, Паліны Корзун, “жывы”, аснашчаны механізмамі артаб'ект Аляксандра Балдакова, кампазіцыі з металу Паўла Малаткова, Івана Хамініча, Віктара Старухіна (уражвае філасофія яго “Нараджэння” — тонкі, падобны да вялікай лямпачкі, шкляны сасуд, замкнёны ў куб з кароткіх і колкіх сталёвых пруткоў).

“Адбор на выстаўку быў як ніколі строгі, — зазначае дырэктар галерэі Наталля Барсукова. — Таму і няма, як некалі здаралася, яўна вучнёўскіх малюнкаў. Тут работы толькі тых навучэнцаў, студэнтаў, магістрантаў (са славутых “Глебаўкі”, гімназіі-каледжа імя І. Ахрэмчыка, БДАМ, БДУКіМ), якія ўжо звязалі свой прафесійны лёс з творчасцю”.

***На здымку: Ганна Конанава-Грыгалец “Guajira Guantanamera” (2012, палатно, алей).***

Повязі

# Народная дыпламатыя ў Ратушы

**27 лютага адбыліся беларуска-расійскія творчыя сустрэчы. Яны распачаліся ў Мінскай гарадской ратушы, дзе прайшоў “круглы стол” з удзелам дзеячаў культуры і мастацтва Беларусі і Расіі. Вызначаліся агульныя погляды на развіццё кантактаў у сферы культуры.**

Ірына ТУЛУПАВА,
фота Кастуся Дробава



Адказваючы на пытанне пра мэты сустрэчы, спецыяльны прадстаўнік Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі па міжнародным культурным супрацоўніцтве, пасол па асобых даручэннях Міхаіл Швыдкой зазначыў: “Калі абмяркоўвалі стан расійска-беларускіх культурных стасункаў, то прыйшлі да высновы, што апошнім часам дыялог аслабеў. А менавіта — перасталі развівацца былыя пастаянныя кантакты”. Таму і задумаліся: чым жа напоўніць дэфіцыт адносін? Паводле сп. Швыдкога, расіяне могуць штосьці расказаць пра Янку Купалу і Якуба Коласа, пра Васіля Быкава і Стэфанію Станюту. Але пра сённяшнюю беларускую літаратуру і тэатр ведаюць няшмат. Ён таксама ўпэўнены, што двухмоўе, якое ёсць у Беларусі, палягчае стасункі і паміж асобнымі людзьмі, і ў рэалізацыі агульных праектаў. Міхаіл Швыдкой распавёў пра цікавую ідэю, якую ўдалося рэалізаваць ва Украіне. Сумеснымі намаганнямі былі выдадзеныя два тамы гісторыі Украіны: адзін з іх — гэта гісторыя краіны, выкладзеная ўкраінскімі аўтарамі на рускай мове, другі — гісторыя, выдадзеная расійскімі спецыялістамі на ўкраінскай мове.

Намеснік галоўнага рэдактара, куратар гуманітарнага блока “Российской газеты” Ядвіга Юферава нагадала таксама пра Барыса Пастарнака і выдавецтва “Время”, у якім выйшаў 8-томнік Васіля Быкава. Да таго ж, у Расіі ёсць выдатная грамада беларускіх студэнтаў творчых ВНУ. І са свайго боку прадстаўнікі Расіі гатовыя паспрыяць, каб сустрэчы гэтых студэнтаў праходзілі штогадова.

З беларускага боку намеснік старшыні гарадскага савета па справах культуры і мастацтва пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Анатоль Бутэвіч падкрэсліў, што менавіта народная культурная дыпламатыя неабходна для ўмацавання дзяржаўных праектаў. Да прыкладу, некалі беларускую літаратуру перакладалі найперш на рускую і праз яе — на іншыя мовы. Цяпер сітуацыя пагоршылася. І неабходна гаварыць пра праблемы перакладаў і перакладчыкаў. Разгортваючы дыскусію, М. Швыдкой зазначыў, што, у прыватнасці, у Расіі заснаваны Інстытут перакладу, але ён толькі пачынае дзейнічаць, і яму патрэбна падтрымка.

Гаварылася таксама пра больш цесныя стасункі ў галіне кінематаграфіі, тэатра, музыкі. Свае думкі выказалі галоўны дырыжор Нацыянальнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь Аляксандр Анісімаў, мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Мікалай Пінігін, аглядальнік газеты “СБ — Беларусь сегодня” Людміла Рублеўская. З расійскага боку — народная артыстка СССР Людміла Чурсіна, прадстаўнікі “Российской газеты” Павел Басінскі і Ганна Чарнега.

***На здымку: Людміла Чурсіна і Міхаіл Швыдкой падчас дыскусіі ў Ратушы.***

З-пад пяра

➤ Беларускім саюзам афіцэраў распачата акцыя “Кніга — крыніца ведаў. Вазьмі сабе за прыклад героя кнігі”. Акцыя, якая заключаецца ў зборы членамі саюза кніг з асабістых бібліятэк і перадачы іх у бібліятэкі ўстаноў адукацыі, воінскіх часцей, школ-інтэрнатаў, інтэрнатаў ветэранаў вайны і працы, а таксама — у прыёмныя сем'і, заклікана садзейнічаць прапагандзе кніжнага чытання. Таксама Саюз афіцэраў сумесна з установамі культуры воінскіх падраздзяленняў плануе правесці чытацкую канферэнцыю “Вобраз афіцэра-абаронцы Радзімы ў мастацкай літаратуры”. У плане культурных мерапрыемстваў на гэты год — кніжныя выстаўкі, сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, прэзентацыі.

**Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

➤ Згодна з прыгожай традыцыяй сталічная бібліятэка №18 правяла папулярную гульню “Каханне з першага погляду”, удзельнікамі якой, як заўжды, сталі курсанты Інстытута пагранічных войскаў Рэспублікі Беларусь і сталічныя студэнткі. Адметнасцю гэтага года стала тое, што пары, змагаючыся за перамогу, сярод іншых конкурсаў прынялі ўдзел і ў літаратурным. Маладыя людзі чыталі вершы беларускіх паэтаў пра каханне на роднай мове. У якасці падарунка ўдзельнікам мерапрыемства былі падрыхтаваны білеты ў сталічныя тэатры, а таксама выступленне паэткі-барда Таццяны Беланогай.

**Кацярына ЗВЕРАВА**

➤ Днём беларускага перакладу завяршылася святкаванне Тыдня роднай мовы на філфаку БДУ. І абмяркоўвалі студэнты і выкладчыкі ў гэты дзень такую важную тэму, як “Святое Евангелле і праблемы яго перакладу на беларускую мову”. Да ўдзелу ў гутарцы быў запрошаны старшыня Камісіі па перакладзе літургічных тэкстаў і рэлігійнай літаратуры, суаўтар “Слоўніка сучаснай беларускай мовы” і “Энцыклапедычнага слоўніка рэлігійнай лексікі беларускай мовы”, кандыдат гістарычных навук, магістр тэалогіі Уладзіслаў Завальнюк.

**Лізавета БАГАДЗЯЖ**

➤ У актавай зале Віцебскай духоўнай семінарыі адбылася тэатральная пастаноўка “Шырокая Масленіца”. Выступленні выкладчыкаў і навучэнцаў былі цікавымі, запамінальнымі і разнастайнымі: песні, вершы, прыпеўкі, гумарыстычныя сцэнкі не пакінулі раўнадушнымі нікога са шматлікіх гледачоў і заўважна ўзнялі ўсім настрой. На студэнцкае свята завітаў шаноўны госць — Праасвяшчэннейшы Пётр, епіскап Друцкі, вікарый Віцебскай епархіі. У завяршэнне вечара ўладыка падзякаваў усім, хто браў удзел у выступленні, а таксама прамовіў словы настаўлення семінарыстам.

**Алексій МАРКЕВІЧ**

РВУ “Літаратура і Мастацтва” выказвае шчырае спачуванне намесніку старшыні Мінскага абласнога аддзялення СПБ, пісьменніку Анатолю Уладзіміравічу Смалянку ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю ЖОНКІ.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае абласное аддзяленне СПБ выказваюць шчырае спачуванне намесніку старшыні Мінскага абласнога аддзялення СПБ, пісьменніку Анатолю Уладзіміравічу Смалянку ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю ЖОНКІ.

# Музейны каляндар

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Кастуся Дробава

**Прэзентацыя каталога “Аўтографы першага народнага паэта Беларусі Янкі Купалы” стала ўрачыстым пачаткам юбілейнага года Песняра. Што яшчэ запланавана на гэты год у Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы? Пра гэта наша гутарка з дырэктарам музея Аленай Ляшковіч.**

**— Алена Раманаўна, як рыхтуюцца супрацоўнікі музея да 130-годдзя класіка?**

— У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы работа па падрыхтоўцы да юбілейнага года пачалася яшчэ ў мінулым: стартавала грамадска-культурная акцыя “Чытаем Купалу разам”, мэта якой — звярнуць увагу грамадскасці на творчасць Песняра, прыцягнуць да яе новых прыхільнікаў. Імя Янкі Купалы — сімвал Беларусі, яно здольна аб’яднаць грамадства, усе пакаленні беларусаў як у нашай краіне, так і за мяжой. У акцыі бяруць удзел усе слаі грамадства, сацыяльных і ўзроставых груп: па ініцыятыве Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь плануецца ажыццявіць выданне дыска “Беларусь чытае Купалу і Коласа”, на якім запісы іх твораў: паэтаў чытаюць прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, органаў кіравання, дзеячы навукі, культуры, спорту.

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 25 кастрычніка 2011 года № 487 зацверджаны план мерапрыемстваў па правядзенні на тэрыторыі рэспублікі і за яе межамі культурных акцый з удзелам вядомых дзеячаў культуры, творчай і навуковай інтэлігенцыі, стварэнне тэматычных літаратурна-мастацкіх зборнікаў і дакументальна-публіцыстычных праграм па творах Янкі Купалы, правядзенне рэспубліканскага свята паэзіі, выданне факсімільнага асобніка кнігі Янкі Купалы “Шляхам жыцця”, кніг, прысвечаных яго жыццю і творчасці. Запланавана таксама добраўпарадкаванне тэрыторый гісторыка-культурных аб’ектаў, звязаных з жыццём і творчасцю паэта, правядзенне рамонту будынка музея Янкі Купалы і стварэнне ў ім новай экспазіцыі.

**—А чым не задавальняла існуючая экспазіцыя?**

— Экспазіцыя Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы створана ў 1976 г. паводле праекта мастака Эдуарда Агуновіча, яна існуе больш як 35 гадоў. За гэты час адбылося некалькі мадэрнізацый (1995, 2007). З’явіліся новыя раздзелы, што раскрылі малавядомыя старонкі дзейнасці паэта ў 1920 — 1940 гг. Да 125-гадовага юбілею паэта і 65-годдзя з дня яго смерці быў створаны новы тэматычны раздзел экспазіцыі “Жыццё і творчасць Янкі Купалы ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Таямніца смерці”.

Экспазіцыя не страціла сваёй навуковай вартасці, але на дадзены момант яна састарэла фізічна: гэта датычыць і экспазіцыйнага абсталявання, і поўнай адсутнасці выкарыстання новых мультымедыйных тэхналогій, што не адпавядае сучасным патрабаванням музейнай навукі і экспазіцыйнай практыкі. Наспела неабходнасць грунтоўных перамен.

На працягу 2010 — 2011 гадоў наш калектыў працаваў над навуковым праектам новай экспазіцыі, які ў кастрычніку 2011-га быў разгледжаны і зацверджаны Рэспубліканскім саветам па пытаннях музейнай справы.

Хачу падкрэсліць, што асноўнай мэтай новай экспазіцыі з’яўляецца паказ жыцця і творчасці першага народнага паэта Беларусі ў нацыянальным, еўрапейскім і сусветным кантэксце, ролі пісьменніка ў гісторыі літаратуры, культуры, станаўленні беларускай дзяржаўнасці. Галоўная ідэя — паказаць Янку Купалу як генія нацыянальнай літаратуры, паэта-прарока, паэта-філосафа, які сваёй творчасцю выхоўваў свядомасць беларускага народа, годна стасаваўся з еўрапейскім культурным асяроддзем.

У новай экспазіцыі ўпершыню будуць раскрыты тэма шляхецкага паходжання Янкі Купалы, пра што наша сённяшняя экспазіцыя толькі згадвае, будуць прадстаўлены архіўныя дакументы, якія сцвярджаюць прыналежнасць роду Луцэвічаў да шляхетнага саслоўя; тэма “Янка Купала — першы стваральнік санетаў у беларускай літаратуры”, бо менавіта Янка Купала, а не Максім Багдановіч з’яўляецца пачынальнікам санетапісання ў айчыннай літаратуры. З’явіцца ў экспазіцыі і старонка “Мінск — сталіца, гордасць наша… Родны горад паэта”. Янка Купала прыехаў у Мінск на сталае жыхарства ў 1919 годзе і жыў у сталіцы да чэрвеня 1941-га. У новай экспазіцыі, захаваўшы інтэр’еры кабінета і гасцёўні дома Купалы па вуліцы Кастрычніцкай, мы зможам расказаць пра грамадскае і культурнае жыццё горада 20 — 40-х гг. ХХ ст., акружэнне песняра. Гэта дазволіць прадставіць наведвальніку Янку Купалу не толькі як знакамітага паэта, але і як простага гараджаніна, гаспадара дома, бо ўсе ведаюць, што “дом пад таполяй” быў своеасаблівым салонам у даваенным Мінску, і ўсе, хто прыходзіў сюды, сведчылі: тут жылі шчырыя гасцінныя гаспадары. Яны дапамагалі ўсім — пісьменнікам і мастакам, музыкантам і журналістам, дзеячам культуры і простым людзям, якія звярталіся да іх.

З гэтай тэмай непарыўна звязана тэма “Стварэнне БССР. Купалаўская канцэпцыя дзяржаўнай незалежнасці Беларусі”, прысвечаная асэнсаванню ідэі незалежнасці роднай краіны ў творах паэта.

Яшчэ адна з цікавых тэм, якая ўпершыню ўводзіцца ў экспазіцыю, — “Стан і развіццё купалазнаўства ў ХХ — ХХІ стст. (у тым ліку ў замежжы і сярод беларускай эміграцыі). На сённяшні дзень здабыткі купалазнаўства — глыбінны пласт: ад першай рэцэнзіі У. Самойлы на зборнік Янкі Купалы “Жалейка” ў 1908 г. да Поўнага збору твораў у 9 т. (1995 — 2003 гг.) і каталога “Аўтографы першага народнага паэта Беларусі Янкі Купалы”.

У новай экспазіцыі плануецца адлюстраваць гісторыю стварэння музея Янкі Купалы і ролю ва ўшанаванні памяці творцы яго жонкі Уладзіславы Францаўны. Пастанова ўрада аб ушанаванні памяці паэта была падпісана літаральна праз некалькі дзён пасля яго смерці, а ўжо ў верасні 1945 года намаганнямі У. Луцэвіч адчынілася першая экспазіцыя. Па старонцы, па аркушы, па драбніцы менавіта яна збірала дарагія ўспаміны і будавала дом, які цяпер завецца Купалавым.

Гісторыя стварэння музея Янкі Купалы — гэта гісторыя нацыянальнай музейнай справы ў складаны час пасля вызвалення Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.



**— Што будзе стрыжнем мастацкага вобраза новай экспазіцыі?**

— Асноўны мастацкі вобраз, які пройдзе праз усю экспазіцыю, — вобраз шляхоў, што сімвалізуюць гісторыю сям’і Луцэвічаў, спрадвечнае жыццё беларусаў, шляхі паэта па Беларусі і да Беларусі, шляхі як імкненне Янкі Купалы ў будучыню, як спасціжэнне жыцця, як філасофскае асэнсаванне вечнай праўды быцця.

**— А як будуць ахоплены мерапрыемствамі іншыя гарады Беларусі і не толькі?**

— У нашых планах шмат цікавых культурна-адукацыйных і выставачных праектаў, якія пройдуць у музеях Мінскай, Гродзенскай, Гомельскай і Магілёўскай абласцей. Напрыканцы чэрвеня выстаўка з фондаў нашага музея будзе экспанавацца ў прадстаўніцтве Рэспублікі Беларусь у ААН. А на працягу года перасоўныя выстаўкі, прысвечаныя жыццю і творчасці Янкі Купалы, пройдуць у дыпламатычных прадстаўніцтвах Беларусі ў іншых краінах, перш за ўсё ў краінах-суседках — Літве, Латвіі, Украіне, Расіі, а таксама ў краінах, з якімі Беларусь традыцыйна звязваюць трывалыя сяброўскія стасункі.

У гэтым годзе адзначаецца яшчэ адна вельмі важная падзея — сто год са дня першай сустрэчы Янкі Купалы і Якуба Коласа, таму ў жніўні сумесная выстаўка музеяў Янкі Купалы і Якуба Коласа “Шляхам Купалы да Коласа” будзе экспанавацца ў Смольні, менавіта там, дзе ўпершыню адбылося асабістае знаёмства гэтых знакавых для Беларусі людзей.

Экспанаванне выстаўкі “Янка Купала і Якуб Колас — народныя Песняры Беларусі” плануецца і ў мемарыяльным музеі-запаведніку А.С.Пушкіна “Міхайлаўскае”. Паміж нашымі музеямі — шматгадовае сталае супрацоўніцтва.

Сумесны выставачны праект Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы і Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь прадставіць жыццё Купалавых твораў на тэатральных сцэнах. Яшчэ некалькі выставак — “Паэзія Купалавых мясцін”, “«Роднай нівы я мільённая часціна…». Янка Купала ў дыялогу культур” — падрыхтавана для экспанавання ў дыпламатычных прадстаўніцтвах Беларусі ў іншых краінах.

Традыцыйна шырока адзначаецца юбілей паэта ў Літве.

Мы марым пра пашырэнне геаграфіі міжнародных кантактаў з літаратурнымі музеямі. З дапамогай Пасольства Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь вядзём перамовы аб заключэнні пагаднення аб супрацоўніцтве са славацкім літаратурным Музеем Людавіта Штура ў горадзе Модра.

У жыцці і творчасці Янкі Купалы і Людавіта Штура шмат агульнага. Як славак Штур, так і беларус Купала былі “будзіцелямі” сваіх народаў, абараняючы іх правы на “пачэсны пасад між народамі”. У кастрычніку 1935 года Янка Купала ў складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў наведаў Модру. Калі ўлічыць, што ў тым годзе адзначалі 120-гадовы юбілей з дня нараджэння Людавіта Штура, магчыма, што тэма творчай спадчыны паэта і яго ролі ў славацкай і еўрапейскай літаратуры абмяркоўвалася пісьменнікамі — удзельнікамі двухбаковай сустрэчы.

**— Цікавыя праекты ў галіне навукова-даследчай дзейнасці таксама плануюцца?**

— Думаю, не будзе перабольшваннем сказаць, што літаратурны музей Янкі Купалы — своеасаблівы інстытут духоўнай культуры, які не толькі збірае і захоўвае спадчыну паэта, але і спрыяе выходу ў свет унікальных выданняў, звязаных з жыццём і дзейнасцю Янкі Купалы.

Мы ўжо згадвалі пра каталог “Аўтографы першага народнага паэта Беларусі Янкі Купалы”, што выйшаў напрыканцы 2011 года пры фінансавай падтрымцы Нацыянальнай Камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА. Яго электронная версія ўключае літаральна ўсю спадчыну паэта, што захоўваецца ў нашым музеі. На жаль, не ўсе рукапісы ёсць у музеі. Частка з прадстаўленых — копіі, арыгіналы якіх захоўваюцца ў замежных архівах, Беларускай бібліятэцы і музеі імя Францыска Скарыны ў Лондане. Упершыню апублікаваны копіі паэмы “Курган”, вершаў “Памяці Вінцука Марцінкевіча”, “Хаўруснікам”, “Роднае слова”, перададзеныя нам спадаром Аляксандрам Надсанам у 2010 годзе. Мы марым, каб арыгіналы купалаўскіх рукапісаў вярнуліся на радзіму.

Выданне — вельмі важны крок для папулярызацыі купалаўскай спадчыны ў глабальнай культурнай прасторы, бо творы Янкі Купалы — здабытак не толькі беларускай, але сусветнай культуры.

Да 130-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы супрацоўнікамі музея таксама падрыхтаваны да друку каталог “Фотаздымкі Янкі Купалы”, які змяшчае ўнікальныя фатаграфіі паэта, што захоўваюцца ў музеі, большасць з іх раней ніколі не публікавалася.

**— Якія яшчэ акцыі, святы і іншыя культурна-адукацыйныя мерапрыемствы рыхтуеце ў юбілейным годзе?**

— Перш за ўсё гэта традыцыйныя мерапрыемствы ў рамках Купалаўскіх дзён — свята паэзіі, песні і народных рамёстваў “З адною думкаю аб шчасці Беларусі…” на радзіме Янкі Купалы ў Вязынцы, гарадское свята паэзіі “Палымяные слова паэта” і ўскладанне кветак да помніка паэту ў Мінску, урачысты вечар, прысвечаны 130-гадоваму юбілею Песняра.

Апрача традыцыйных плануецца правядзенне конкурсу аўтарскай песні “Купалаўскія вакацыі”, маладзёжных культурна-адукацыйных праектаў “Купальская ноч у Купалавым доме”, “У музей з сябрамі. 5 музеяў за 5 дзён”, “Музейная пошта”, інтэрактыўнай гульні для розных катэгорый наведвальнікаў “У пошуках папараць-кветкі”.

Шмат мерапрыемстваў распрацавана ў маладзёжным фармаце, бо менавіта сярод моладзі мы бачым патэнцыяльных сяброў і паплечнікаў. Вельмі актыўна працуем з валанцёрамі — студэнтамі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, БДПУ імя Максіма Танка, Інстытута сучасных ведаў імя А.М. Шырокава, БДУ, БДУІРа.

У юбілейным годзе будзе мноства мерапрыемстваў па ўшанаванні памяці Янкі Купалы, але вельмі важна зразумець, што ўсё гэта трэба рабіць у першую чаргу для нас саміх. Хочацца ўзгадаць словы выдатнага беларускага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча: “Зрабіце гэта не для яго, бо лепшы помнік яму — нашы сэрцы і яго песні, што жывуць у іх. Зрабіце гэта не для яго, бо яго славу не ўзвялічаць помнікі. Зрабіце гэта для сябе, каб нас не вінавацілі ў няўдзячнасці, у дрэннай памяці, у адсутнасці вялікай павагі да лепшага свайго паэта, без якой не жывы кожны народ”.

Мне вельмі хочацца, каб менавіта гэтыя словы былі дэвізам усіх свят, імпрэз, акцый і выставак, якія пройдуць у юбілейным Купалавым годзе.

Партрэт на фоне кнігі

# Сціпласць і непрымірымасць

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Кастуся Дробава

**Паэт Уладзімір Мазго падобны да школьнага настаўніка — у лепшым разуменні гэтага слова. Ды ён і сапраўды мог бы настаўнічаць, бо скончыў некалі філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Жыццё склалася інакш — стаў журналістам і, урэшце, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Полымя". А настаўніцтва дзесьці ў глыбіні душы, відаць, усё ж такі засталося.**

Уладзімір Мінавіч — заўжды ўраўнаважаны і ўважлівы да суразмоўцы. Настолькі, што, нават даючы інтэрв'ю, спрабуе прымусіць інтэрв'юера гаварыць замест сябе. Яго сціпласць у наш час можа падацца нават ненатуральнай. Аднак для Уладзіміра Мазго, сапраўды, характэрная адсутнасць якога б там ні было любавання сабой і ўласнай творчасцю. Нават тымі творамі, якімі цалкам задаволены, якія ахвотна чытае на сустрэчах з публікай. Затое — трэба адзначыць гэтую рэдкую здольнасць — ён любіць паразважаць пра творчыя ўдачы калег-пісьменнікаў. Для яго заўжды існавалі аўтарытэты ў свеце літаратуры. І вышэйшым крытэрыем ацэнкі быў пісьменніцкі талент.

— Я рана пачаў чытаць, яшчэ да школы, — распавядае Уладзімір Мінавіч. — Дома была азбука, беларускі буквар. У першым класе ўжо запісаўся ў школьную бібліятэку.

**— Шмат чыталі не па праграме?**

— Мы прыслухоўваліся да настаўнікаў, што яны параяць, але гэта аказалася для мяне не галоўным. Я цалкам самастойна адкрыў для сябе Янку Маўра, Васіля Вітку, пазней — Уладзіміра Караткевіча. І пасля ўжо мэтанакіравана шукаў іх кнігі.

Сёння творы Уладзіміра Мазго можна пабачыць на старонках школьных падручнікаў. Для яго гэта — у першую чаргу вялікая адказнасць.

— Прозвішча літаратара ў падручніку прыцягвае ўвагу школьніка. Вельмі часта гэтак і адбываецца першае знаёмства з творчасцю паэта ці то празаіка. Таму калі твой твор змяшчаюць у падручніках — гэта ганарова і карысна для пісьменніка, сведчыць пра пэўныя дасягненні. Але пасля гэтага аўтар ужо не мае ніякага права на патуранне. Трымаць узровень альбо не пісаць больш наогул!

Слова "адказнасць" — даволі частае ў гутарцы Уладзіміра Мінавіча. Ён ускладае на пісьменніка адказнасць за кожнае слова, кожны сказ, кожную кніжку.

— Можа выйсці ў чалавека ўвогуле нядрэнная кніга, а некаторыя старонкі яе — нібыта іншай рукой ці ў



іншым стане напісаны. Безгустоўна, неахайна, нават бяздарна…

І з вуснаў Уладзіміра Мазго слова "бяздарнасць" гучыць нібыта самая грубая лаянка. Ён як супрацоўнік літаратурнага часопіса непрымірымы да бяздарных, графаманскіх твораў. І з болем адзначае, што ў апошні час такіх кніг з'яўляецца ўсё больш.

— Дзяржаўныя выдавецтвы ды такія прафесіяналы, як, напрыклад, наша "Літаратура і Мастацтва", трымаюць планку. Патрабаванні да рукапісаў досыць высокія. Але не ўсе выдаўцы настолькі прынцыповыя. І "распаўзаюцца" па краіне кнігі, выдадзеныя за кошт іх аўтараў-графаманаў. Сядаць за пісьмовы стол трэба толькі тады, калі ты ахоплены творчым гарэннем. Вядомы лозунг "Ні дня без радка" не падыходзіць. Творца можа не пісаць тыдзень, месяц, нават змоўкнуць на год, прыслухоўваючыся да сябе, — а пасля раптам стварыць шэдэўр. І пісаць пра "ўсё, што пажадаеце" сапраўдны майстра слова не возьмецца. Не надуманае, не выдуманае, а перажытае, выпакутаванае, прапушчанае праз душу, сэрца ён даверыць паперы. Толькі гэтак — інакш ты няшчыры!

**— Што перашкаджае сёння нашым пісьменнікам ствараць вартыя творы?**

Уладзімір Мінавіч задумваецца. І — адыходзіць ад абагульнення праблемы:

— Мне перашкаджае недахоп часу. Творца павінен ізалявацца, адасобіцца ад усяго. Калі ж чалавек па працы мусіць шмат чытаць, рэдагаваць, падрыхтоўваць чужыя тэксты — гэта замінае ў пэўнай ступені ствараць сваё.

Аднак, разважаючы далей пра практыку ўзвядзення пісьменніцтва ў ранг прафесіі, што само па сабе абумоўлівае стварэнне нейкага плана на творчасць, ён прызнаецца: па вызначаным плане, па папярэдняй дамоўленасці, колькі кніг у год, якога аб'ёму і зместу павінна быць здадзена, працаваць не змог бы. Яго кнігі ствараюцца толькі "па натхненні" і ў тэрміны, вызначаныя сэрцам.

Між іншым, Год кнігі для Уладзіміра Мазго распачаўся вельмі сімвалічна: перад самым Новым годам з'явіўся сігнальны экземпляр кнігі паэзіі і прозы "Сакавіны" — яна была падрыхтавана выдавецтвам "Чатыры чвэрці". У першыя дні 2012 года ў выдавецтве "Народная асвета" выйшла кніжка для дзяцей "Лепшыя сябры". Прэзентацыя яе адбылася на Міжнароднай кніжнай выстаўцы. А яшчэ зусім нядаўна выдавецтвам "Літаратура і Мастацтва" была выпушчана краязнаўча-гістарычная кніга "Нам засталася спадчына", адным з укладальнікаў якой з'яўляецца Уладзімір Мазго.

Пра ўсе творчыя дасягненні Уладзімір Мінавіч распавядае з уласцівай яму сціпласцю. А можа, такім і трэба быць пісьменніку?

**Вечарына «Матчын дарунак ад самай калыскі», прысвечаная Міжнароднаму дню роднай мовы, прайшла ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа.**



# Коласа чытаем разам

Дар'я ШОЦІК,
фота Кастуся Дробава

У Дом Коласа завіталі творчыя людзі, каб разам пачытаць паэму "Новая зямля": дырэктар Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі Аляксандр Лукашанец, намеснік Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей Уладзімір Ламека, дырэктар Дэпартамента па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі РБ Уладзімір Адамушка, народны мастак Беларусі Васіль Шаранговіч, галоўны дырэктар радыёстанцыі "Беларусь" Навум Гальпяровіч, галоўны рэдактар газеты "Літаратура і мастацтва" Таццяна Сівец, супрацоўнікі рэдакцыі часопіса "Маладосць" на чале з галоўным рэдактарам Сввяланай Дзянісавай.

Таксама на літаратурнай імпрэзе прысутнічалі члены Дабрачыннага савета музея: народная артыстка Беларусі Таццяна Мархель, старшыня Цэнтральнага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў культуры Наталля Аўдзеева, галоўны рэдактар часопіса "Нёман" Алесь Бадак, пісьменніца Раіса Баравікова, заслужаная артыстка Беларусі Ірына Дарафеева ды намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Беларуская думка" Сяргей Галоўка.

— Пра адносіны Якуба Коласа да стану беларускай мовы сведчыць яго апошні напісаны 25 мая 1956 года ліст у ЦК, які актуальны і сёння. У гэтым лісце падымаюцца пытанні пра выкарыстанне беларускай мовы на радыё, тэлебачанні, у тэатрах, у рэдакцыях, сярод інтэлігенцыі, сярод простых людзей, — заўважыла дырэктар музея Зінаіда Камароўская.

Гэтымі словамі Зінаіда Мікалаеўна яшчэ раз падкрэсліла невыпадковасць сустрэчы ў Коласавым доме ў Міжнародны дзень роднай мовы. Аляксандр Лукашанец у сваю чаргу зазначыў:

— Беларуская мова — высокаразвітая мова, якая і сёння з'яўляецца важнай часткай культуры. Таму хочацца пажадаць, каб яна стала штодзённым адзеннем кожнага беларуса. Напэўна, гэта будзе самае лепшае адзенне.

***На здымку: Таццяна Мархель чытае ўрывак з паэмы Якуба Коласа "Новая зямля".***

Глыбокае-2012

# Зямля бацькоў — зямля святая

Уладзімір ЗАЛУЖНЫ,
фота Кастуся Дробава

Багатая на таленты Глыбоччына. Што ні вёска — свае песні, свае музыкі і песняры. І свае адметныя традыцыі. Да нядаўняга часу вечарам на першы дзень Каляд "жанілі Цярэшку". Гэта народная аграрна-шлюбная гульня вельмі распаўсюджана на Віцебшчыне. Удзельнічае ў асноўным моладзь, але часта прыходзяць і сямейныя пары. Мела мерапрыемства і магічны сэнс: вяскоўцы імкнуліся загадзя паўплываць на тое, каб сям'я была моцнай, каб былі здаровымі бацькі і дзеці.

"Жанілі Цярэшку" і на праваслаўныя, і на каталіцкія Каляды. Хлопцы запрашалі равеснікаў з іншых вёсак. Дзяўчаты гатавалі закуску: прынасілі хлеб, свежае сала, скваркі, каўбасу, квашаную капусту, хрусты ўласнай выпечкі. Іх кавалеры клапаціліся пра пітво. Перад пачаткам вечарыны са старэйшых яе ўдзельнікаў выбіралі "маці" і "бацьку", якія вялі рэй. Гучала песня:

*Пайду я ў новы ток,*
*Знайду я курэй куток.*
*Ах вы, куры,*
*не скачыце,*
*Мы будзем*
*Цярэшку жаніці,*
*Сабе пары выбіраці.*
*Цярэшку гуляці…*

Трэба было хлопцаў і дзяўчат злучыць у пары, "пажаніць".

Песні, танцы, жарты, карагоды доўжыліся да позняй ночы. Па традыцыі "муж" павінен быў правесці "жонку" дадому. Вельмі часта здаралася, што такія сустрэчы перарасталі ў вялікае светлае каханне.

Дарэчы, у Глыбокім весь ужо шмат гадоў радуе сваім майстэрствам народны фальклорны тэатр "Цярэшка". І першай гульнёй, якая ўвайшла ў яго рэпертуар, стала "Жаніцьба Цярэшкі". Гэты самабытны калектыў — неаднаразовы дыпламант абласных і рэспубліканскіх аглядаў мастацкай самадзейнасці. Ён браў удзел у міжнародных фестывалях "Вянок Латгаліі", "Вянок дружбы", "Каляда" і іншых прэстыжных конкурсах.

Супрацоўнікі аддзела культуры райвыканкама, раённага Дома культуры захоўваюць апісанне народных гульняў "пікіта", "штандар", абрадаў радзін, вяселля. У іх беларускае слова выступае самабытна, пявуча, свеціцца ўсімі гранямі, не пакідае нікога раўнадушнымі.

У гэтым мы пераканаліся нядаўна, пабываўшы на свяце "Гуканне вясны", што адбылося ў ваколіцах возера Белае. Зранку тут дыміліся самаробныя печкі, на якіх руплівыя гаспадыні пяклі бліны, а мужчыны шчыравалі ля вялізных мангалаў, прыемны пах ад якіх настройваў кожнага на святочны лад. Вясну сустракалі песнямі і танцамі. Гасцей шчодра частавалі прысмакамі. А старшыня сельгаскааператыва "Залатая падкова" Анатоль Пачэпка прывёз пародзістых рысакоў, на якіх маглі ўволю накатацца ўсе жадаючыя.

Масленіцу глыбачане адзначылі з душой і размахам! І нам яна таксама запомнілася.



***На здымку: Масленіца без духмяных смачных бліноў — не Масленіца.***

**Газета "Літаратура і мастацтва" — інфармацыйны партнёр Свята беларускага пісьменства.**

Таццяна ШАМЯКІНА

# Пясняр Мінска

**Розніца паміж высокім мастацтвам слова і звычайнай белетрыстыкай — у даўгавечнасці першага. І няхай твор не ўвайшоў у школьныя праграмы і да яго не звяртаюцца пастаянна, а чытаюць зрэдку або вывучаюць праз значны адрэзак часу ў сувязі з юбілеем пісьменніка, але, калі раптам адкрываюць нешта для сябе каштоўнае і значнае, гавораць пра сапраўднасць літаратуры і таленавітасць пісьменніка. Гэтак адкрываецца нам, праз дзясяткі гадоў, адзін з папулярных пісьменнікаў пасляваеннай пары Уладзімір Карпаў.**

У. Карпава рэдка згадваюць у так званых крытычных "абоймах", у аглядах прыгожага пісьменства таго ці іншага перыяду. Магчыма, на тое былі і ёсць падставы не зусім літаратурнага кшталту, а хутчэй палітычна-ідэалагічнага. Яго аб'ёмістыя, нетаропкія, з вялікай колькасцю герояў раманы не для нашага мітуслівага жыцця. Але ёсць у творах Карпава тое надзвычай каштоўнае, што працягваецца з 40—50-х гадоў у цяперашні час — пачатак XXI стагоддзя: вобраз Мінска, любімага горада пісьменніка, горада, якому ён прысвяціў сваё жыццё і сваю творчасць. Сёння, у дні 100-годдзя з дня нараджэння майстра, варта згадаць яго кнігі, у прыватнасці, раман "За годам год".

Гарадскі пейзаж для літаратуры сярэдзіны XX ст., калі пісаўся раман, не такая ўжо частая з'ява, бо беларускія пісьменнікі традыцыйна, пры гэтым натхнёна і замілавана, апявалі пераважна вясковыя краявіды — для большасці родныя. Уладзімір Барысавіч у поўным сэнсе слова быў наватарам, пры тым, што стварэў не проста гарадскі пейзаж у літаратуразнаўчым сэнсе гэтага слова, а менавіта вобраз горада — вобраз у часе, вобраз, скіраваны ў будучае.

Мінск пасля Вялікай Айчыннай вайны савецкія людзі вымушаны былі адбудоўваць. Ішла нават гаворка пра перанос яго ў іншае месца. Дарэчы, не першы раз яго б пераносілі. Магчыма, як піша У. Карпаў, "*спачатку Мінск узнік не на берагах Свіслачы, а на рэчцы Менцы, за некалькі кіламетраў адсюль, дзе і да гэтага часу астаўся вялізны земляны вал з крутымі адхонамі і двума праходамі, у адным з якіх яшчэ можна пазнаць рэшткі пілонаў колішніх варот. Знішчаны некім тут горад, мусіць, і быў перанесены крыху на ўсход, на раку Свіслач…*" Ужо на новым месцы, у пачатку XI ст., Мінск-Менеск фарміруецца на Траецкай гары, якая была добра абаронена асаблівасцямі ландшафту — абкружана рэчкай, балотамі. "*Магчыма, горад і не адразу ўзнік на Траецкай гары, а пачаў расці непадалёк ад яе, дзе рака Няміга ўліваецца ў Свіслач і дзе дасюль асталіся сляды замчышча. На гэта месца, прынамсі, зазначаў і аўтар «Слова аб палку Ігаравым»…*" Дарэчы, назву аднаго са сваіх раманаў — "Нямігі крывавыя берагі" — У. Карпаў узяў таксама са "Слова пра паход Ігаравы", і яго раман — адзіны буйны твор у беларускай літаратуры XX ст., дзе так выразна ў загалоўку вылучана традыцыя з'яднання гісторыі і паэзіі. Пісьменнік упэўнены, што з іх адзінства ўзнікае тое, што ён назваў "душой горада". Пра гэта аўтар разважае неаднаразова, напрыклад: "*Гарады, як і людзі… Пра іх цяжка меркаваць толькі па знешнім выглядзе… таму, што ў іх таксама ёсць душа, характар. І гэтая душа, багатая і слаўная, іншы раз хаваецца пад самым сціплым абліччам*".

Філасофскія развагі і гістарычныя рэмінісцэнцыі — адзін са спосабаў стварэння вобраза горада. Гісторыю Мінска ўспамінае сам аўтар, ён ж цікавяцца яго героі. Ім, архітэктарам, будаўнікам, журналістам, прадстаўнікам улады, важна было зразумець душу горада, спасцігнуць яе праз яго гісторыю, каб будаваць на месцы (усё ж такі на месцы!) старога фактычна новы горад.

Раман "За годам год" складаецца з дзвюх кніг — "Сярод руін" і "На былых папялішчах". Назвы характэрныя. Няма ў айчыннай літаратуры празаічнага твора, акрамя рамана У. Карпава, які б пачынаўся з такой важнай для кожнага беларуса даты — 3 ліпеня, дня вызвалення Мінска ад нацысцкіх захопнікаў. "*Вызвалены горад ажыў адразу*" — першая фраза рамана. Жыхары вярталіся ў свабодны ад нямецкіх войскаў, але разбураны горад. Дзеянне першай кнігі рамана адбываецца на фоне руін, проста ў руінах, сутарэннях.

> *Са старонак рамана "За годам год" можам даведацца, як выспявалі задумы тых гарадскіх ансамбляў, сярод якіх мы ўжо жывём, якія можам штодзённа сузіраць і якімі варта ганарыцца. Нездарма цэнтральную частку праспекта Незалежнасці, якую будавалі якраз у першае пасляваеннае дзесяцігоддзе, вылучалі ў якасці кандыдата на ўключэнне ў Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.*

Раман У. Карпава дынамічна прасякнуты ў будучае, ён злучаў часы і пакаленні. Літаратурны твор занатаваў тое, што пазней стала гістарычнымі кодамі-знакамі ў іншых відах мастацтва. Напрыклад, кадры кінахронікі, у якіх з Дома ўрада скідваюць ненавісны фашысцкі герб.

І ўсё ж людзі вярталіся ў свой разбураны, але мілы горад, вярталіся з надзеяй, метафарай якой у рамане стала скульптура хлопчыка з лебедзем у фантане Тэатральнага сквера: "*У сініх начных змроках лебедзь у радасным парыванні, узмахнуўшы крыламі, рыхтаваўся ўзляцець, а хлопчык, гулліва абняўшы свайго неразлучнага прыяцеля, развітваўся з ім, а мо і прасіў, каб той узяў з сабою яго, бяскрылага*".

Горад пачалі адбудоўваць з першых дзён пасля вызвалення, хоць вайна яшчэ ішла, і нават не за мяжою, а на роднай зямлі. Амаль адразу героі рамана архітэктар Юркевіч і масквіч Міхайлаў намецілі праект будучага горада, які "*збіраліся будаваць на ідэі двух перакрыжаваных магістралей, адной з якіх была б Савецкая вуліца-праспект*".

Вось як ён выглядаў у марах і планах апантаных сваёй творчасцю беларускіх дойлідаў. Горад "*ляжаў, аперазаны зялёнай лясной паласою, на спакойнай раўніне, узгоркаватай толькі на берагах Свіслачы. На поўдзень і поўнач, на ўсход і захад ад яго, як промні, адыходзілі аўтастрады, чыгункі, дарогі. Ды і сам ён нагадваў нешта прамяністае. Крыж-на-крыж яго перасякалі дзве магістралі: вуліца, якая яшчэ не мела назвы і Савецкі праспект — галоўная вось архітэктурнай кампазіцыі*". Крыж — у аснове, сам план горада — нешта прамяністае, лебедзь — любімая птушка індаеўрапейцаў — галоўны сімвал. Усё гэта выглядае аптымістычна. У сярэдзіне 50-х гадоў, калі пісаўся раман, у час гераічны, але ж і вельмі прагматычны, пісьменнік сцвярджаў сваім творам паэтычнае, сакральнае стаўленне да роднага горада. Ён бачыўся сярод зеляніны — "горад-сад": "*Ад Садовай да моста падымем праспект на чатырышасць метраў… Злева, на нізіне ўздоўж рэчкі, высадзім новы парк. Справа падвядзем парк імя Горкага… Праспект пойдзе па зялёным масіве на ўзроўне крон…*"

Эмблемай горада сталі два высокія дамы на Прывакзальнай плошчы — велічны партал, уезд у горад. У год, калі пісаўся раман, адзін з іх быў ужо гатовы — "*вялікі, на цэлы квартал гмах з адзінаццаціпавярховай зубчастай вежаю*". У гэты ж час у Маскве ўжо былі пабудаваныя сем "высотак", якія, уласна, і вызначылі сілуэт сталіцы Расіі. Беларускія архітэктары таксама хацелі веліч народа і краіны ўвасобіць у вартых таго будынках, але не сталі капіраваць маскоўскія, якія "рыфмаваліся" з вежамі Крамля, а ўлічылі традыцыі нацыянальнай архітэктуры — зубчатыя данжоны нашых замкаў, прыкладам, Белай вежы.

Са старонак твора можам даведацца, як выспявалі задумы тых гарадскіх ансамбляў, сярод якіх мы ўжо жывём, якія можам штодзённа сузіраць і якімі варта ганарыцца. Нездарма цэнтральную частку праспекта Незалежнасці, якую будавалі якраз у першае пасляваеннае дзесяцігоддзе, вылучалі ў якасці кандыдата на ўключэнне ў Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.

У. Карпаў першы загаварыў пра неабходнасць уліку архітэктарамі грамадскай думкі, меркаванняў вучоных, пісьменнікаў, журналістаў. Адна з гераінь рамана, журналістка Валя, сцвярджала ў сваіх артыкулах: "*У жыцці людзей, у іх узаемаадносінах ёсць яшчэ шмат непрыгожага. Таму асабліва важна, каб горад быў прыгожы. Сваёю пекнатою ён павінен заклікаць людзей да лепшага, абуджаць у іх імкненне да хараства*". Сёння думка пісьменніка, выказаная гераіняй, пацверджана навукоўцамі розных краін, якія вывучалі ўплыў асяроддзя, у прыватнасці гарадской прасторы, на псіхіку чалавека.

Увогуле праекціроўшчыкі новага Мінска, нягледзячы на каласальную праблему з жыллём, усё ж дбалі пра эстэтыку больш, чым сённяшнія дойліды, літаральна задушаныя шматлікімі стандартамі. А ў той час ішла гаворка пра панэцці, пра якія цяпер нават і не згадваюць (а дарэмна!) — пра пачуццё, душу. Юркевіч, галоўны архітэктар Мінска, гаворыць, што для іх, дойлідаў, пачуццё "*асабліва важна. Матэрыял у нас, здаецца, такі непадатлівы — цэгла, дрэва, бетон, а ідзеш ад пачуцця. Яно асвятляе ўсё і нават дыктуе форму. Нават ідэя праз яго выяўляецца. Як у музыцы. Стары Гётэ сцвярджаў, што архітэктура — акамянелая музыка. Правільна!*" Валя дадае: "*У Янкі Купалы таксама ёсць нешта накшталт гэтага… Ён назваў адзін княжацкі замак полымем скамянелых сэрцаў*".

Гераіня нагадала пра адну трывалую традыцыю ў культуры — больш тонкае разуменне архітэктуры пісьменнікамі, чым нават самімі дойлідамі. Ці лепш сказаць, пісьменнікі ўмелі перавесці архітэктурную ідэю, занатаваную матэрыялам, у паэтычнае слова. Традыцыю літаратурнай класікі, што ідзе ад Гётэ, Гогаля і Купалы, плённа працягваў У. Карпаў. Горад — стрыжань сюжэта яго рамана.

У той час, бадай, больш вострa, чым сёння, стаяла пытанне пра класічныя, у тым ліку антычныя, рэнесансныя, традыцыі ў архітэктуры. У рамане пісьменнік разважае і нават дае даволі грунтоўную інфармацыю пра антычныя гарады. "*У антычным горадабудаўніцтве Валя пазнавала многае, што прыйшло і ў яе родны горад*". Сапраўды, цэнтральная магістраль, якая змяніла шмат назваў — Захар'еўская вуліца, Савецкая, праспект Сталіна, праспект Леніна, праспект Скарыны, праспект Незалежнасці — будавалася пасля Вялікай Айчыннай вайны з улікам класічных традыцый, і яна, бясспрэчна, вызначае ў цэлым воблік горада, робіць яго ясным, зразумелым, блізкім кожнаму яго жыхару.

Цяжка сустрэць чалавека, якому б не падабаўся Мінск. Такі рафінаваны знаўца сусветных цэнтраў гарадской цывілізацыі, як расійскі пісьменнік-эмігрант Пётр Вайль, ставіць Мінск у шэраг найбольш гарманічных гарадоў. Падобных у свеце мала, пабудаваных "*цалкам па адзіным плане: Пецярбург, Камсамольск-на-Амуры, Мінск*".

> *У жыцці людзей, у іх узаемаадносінах ёсць яшчэ шмат непрыгожага. Таму асабліва важна, каб горад быў прыгожы. Сваёю пекнатою ён павінен заклікаць людзей да лепшага, абуджаць у іх імкненне да хараства.*

Аднак ствараўся горад у спрэчках, у барацьбе думак і меркаванняў. Часам простыя людзі ўпікалі архітэктараў за шматлікія недахопы ў будаўніцтве. Так, на адной з нарад рабочы-ліцэйшчык падзяліўся сваім уражаннем пра кватэру, якая яму дасталася: "*Пакояў многа, калідораў хапае, а жыць няма дзе. Спальня, паверыце, у мяне трохкутнікам! Чатырнаццаць квадратных метраў, а двух ложкаў паставіць нельга. Я пытаўся ў архітэктара, што гэта яго прымусіла так зрабіць. Адказвае, што ансамбль. Той самы, які, дарэчы, не дрэнны… Ён, бачыце, пакоі да фасада прывязваў. А фасадам яму трэба было адгукнуцца на нешта. Ну, і адгукнуўся…*" Дарэчы, гэта ў самога Карпава была менавіта такая кватэра, якую апісаў яго персанаж у рамане, — на рагу вуліц Энгельса і Карла Маркса, 36, на пятым паверсе так званага "пісьменніцкага" дома. Мне ў маім дзяцінстве кватэра Карпавых, наадварот, здавалася надзвычай арыгінальнай і ўтульнай, але жыхары яе, безумоўна, адчувалі некаторую нязручнасць. Думка ж архітэктара, яго "прывязка", пра якую згадвае рабочы, зразумелая: дом стаў насупраць Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. А тэатр пастаўлены на скошаным рагу. Таму для сіметрыі і "пісьменніцкі" дом прыйшлося па вугле "зрэзаць". У той абсечанай кватэры і жыў У. Карпаў з сям'ёю. Затое з іх вокнаў адкрывалася шырокая панарама: Тэатр імя Янкі Купалы, Тэатральны сквер, будынак ЦК КПБ, танк на пастаменце, Акруговы дом афіцэраў. Гэта быў на той час адзін з самых абаяльных куткоў Мінска, заўсёды сонечны. Мы пераехалі ў дом разам з Карпавымі і шэрагам іншых вядомых пісьменнікаў (Янкам Брылём, Янкам Скрыганом, Пятром Глебкам, Васілём Віткам, Тарасам Хадкевічам і інш.) у 1954 годзе. Падчас нашага ўсялення вуліца ўжо амаль поўнасцю адналялася. Праўда, аўтамашын тады было вельмі мала, і мы, у тым ліку разам з дачкой Уладзіміра Карпава Людмілай, бегалі проста па праезджай частцы, гуляючы ў "казакоў-разбойнікаў".

У гады, калі пісаўся раман, яшчэ панаваў энтузіязм, гераічны дух, адчувалася інерцыя Перамогі, і на гэтым узлёце ствараўся наш прыгажун Мінск. Яго творцы глядзелі ў будучае. "*Архітэктар наогул шчаслівейшы за многіх… ён у заўтрашнім дні*". Але не меншым, а, можа, і большым празарліўцам, чым дойліды, аказаўся пісьменнік, перад унутраным зрокам якога паўставаў горад — такім, якім бачым яго сёння мы.

Дарэчы, і недахопы, і заганы будаўніцтва, гарадскога ўбранства аўтар рамана адчуваў надзвычай востра. Звяртаюць на сябе ўвагу яго выказванні адносна гіпсавых скульптур піянераў, спартсменаў: "*А са стандартных фігурак дыскаболаў і баскетбалістак, якіх і мы ўправіліся наставіць каля парку, карысці мала. А пры нашым клімаце асабліва. Зімой дык проста сорамна. Стаяць у адных трусіках. Босыя, белыя. На плячах снег. Навокал снег. Проста шкада бедных. Ад іх голага хараства мароз па спіне прабягае…*" Так пісьменнік смяяўся з чыноўніцкага глупства таго часу.

Такім чынам, вобраз горада ствараецца ў рамане самымі рознымі сродкамі: тут і аўтарскія апісанні, і экскурсы ў гісторыю, і спрэчкі персанажаў, прамоўніцкія публіцыстычныя пасажы, сімволіка, гумар. У. Карпаў ведаў Мінск як ніхто: ведаў як змагар за яго, ведаў як яго будаўнік, летапісец. Пасля выхаду рамана "За годам год" Карпаў стаў адным з суаўтараў інфармацыйна і ілюстрацыйна багатай кнігі "Мы раскажам пра Мінск".

...У кожным часе ёсць добрае і дрэннае. Не выключэнне і савецкі час, як, дарэчы, і наш — шмат добрага, але ёсць і благое. У пастаянным згадванні толькі дрэннага, да чаго нас ужо прывучылі, развіцця не адбываецца або ідзе яно аднабакова — толькі ў тэхнічным, тэхналагічным плане. Калі нацыя сябе паважае, яна павінна памятаць сваю гісторыю ў яе паўнаце, аб'ёмна. Мінчанам, ды і ўсім беларусам, варта заўсёды помніць натхнёнага песняра сталіцы — выдатнага беларускага пісьменніка Уладзіміра Карпава.

Анатоль ЗЭКАЎ

# Паміж агнём і стыннню

**Выдаць зборнік вершаў у 20 гадоў — сёння не праблема. І, знайшоўшы спонсара ці за сродкі бацькоў (яшчэ пакуль не за свае), выдаюць. Аднак ці кожны такі зборнік, у якога нярэдка непрафесійны рэдактар, а то сам жа аўтар — і рэдактар, і карэктар, можа называцца паэтычнай кнігай?**

Кніга маёй юнай зямлячкі Ганны Новік — з тых, што можа. Бо ў ёй — не па гадах аўтара сур'ёзна-дарослыя развагі пра жыццё, пра тое, што адбываецца з намі і вакол нас, што радуе і засмучае, хвалюе і непакоіць, тое, што спальвае сэрца і нясцерпна баліць. У кнізе не проста агонь, а, як засведчана ў яе назве, — "Сумёты агню".

Сама паэтэса тлумачыць гэтае, здавалася б, узаемавыключальнае спалучэнне двух слоў як чырвань апалай лістоты, жадаючы, "Каб выйшаў на брук злістападжаны горад // Сумёты агню разбіраць на букеты", а ў аднайменным вершы — канстатуючы: "азяблы кастрычніцкі верш // Грэўся ў яркіх, стракатых сумётах". Тым не менш не пакідае адчуванне, што падсвядома ў назве зборніка адлюстравана нешта большае, чым звычайная прыродная з'ява. І тут мне праглядваецца сімвалічная кантраснасць нашага зямнога жыцця, у якім цесна пераплятаюцца сумётная сцюжнасць і пякельны агонь. Што з гэтых дзвюх стыхій лепш, адназначна не скажаш: бывае, што холад апякае мацней, чым агонь, а здараецца, што і агонь можа добра астудзіць. І, пэўна, красамоўным пацвярджэннем таму — радок аднаго з асенніх вершаў Г. Новік, якім яна заяўляе: "Палымнею ад стыні".

Я невыпадкова так шмат увагі ўдзяліў назве кнігі, бо менавіта яна яскрава адлюстроўвае змест вершаў, дзе суседнічаюць і метэаралагічны холад, і палымянасць душы. Ды, бадай, і крэда сваё Г. Новік вызначыла ў скразным двухрадкоўі трыялета "Запавет": "Вазьмі асадку і пішы // Насупраць вятрам і змроку". Звяртаецца як бы да нейкай другой асобы, але тым часам — і, можа, нават у большай ступені — да самой сябе. Як і ў заключным вершы "Людзі": "Для ўсіх агнём не станеш. // ... Але пякельна хочаш".

Гераіня вершаў Г. Новік (чытай: яна сама) — асоба імпульсіўная, няўрымслівая, незаспакоеная, апантаная. Ёй не сядзіцца на месцы, хочацца бегчы "Збіраць каштаны і лісты // У восені халоднай // Са слотай гутарыць на ты...", "Фатаграфаваць краявіды на памяць, // З далоняў карміць рудахвостых вавёрак". Неўгамонна-летуценная сама, яна і іншых падбухторвае да актыўных дзеянняў:




*Давайце канатную*
*зладзім дарогу*
*Ад прыцемкаў шэрых*
*да ранішніх зорак...*

І падобных зваротаў-заклікаў у зборніку Г. Новік "Сумёты агню" нямала. Яна радуецца кожнаму дню, хвіліне, імгненню, захапляецца, гарэзіць. А ўрэшце, хіба можа быць інакшым настрой, калі табе толькі дваццаць і ўсё жыццё яшчэ наперадзе?

Выхопліваю гэтыя, на першы погляд, лозунгавы радкі з вершаў і разам з паэтэсай радуюся і сам, бо колькі выпадае чытаць паэтычных строф іншых 17 — 20-гадовых дэбютантаў, у якіх столькі песімізму і расчаравання, нібыта жыццё іх не на самым пачатку, а ўжо выйшла на фінішную прамую. Бывае, і пра каханне пішуць так, быццам ад расстання з любым (любай) раптоўна ўвесь свет абрынуўся, хоць ты ў пельку з галавой. І міжволі думаеш: эх, вярнуць бы мне вашы юныя гады! І што ж вы, цікава, заспяваеце ў мае?

У Ганны Новік нават халодная восень, з пранізлівымі вятрамі і працяжнымі абложнымі залевамі, — любімая часіна года, чыстая і светлая, што не магла не адзначыць у прадмове да кнігі крытык Марына Аммон, адносячы яе аўтара да асоб, здольных "да філасофска-эстэтычнага ўспрыняцця свету ў любых, нават самых неспрыяльных для таго ўмовах", бо паэтэса "спрабуе спасцігнуць наноў унутраны сэнс спрадвечных восеньскіх атрыбутаў — лістападу, імжы, смугі, халоднага вечара", "убачыць і перадаць з дапамогай вершаванага радка няўлоўную і зменлівую сутнасць прыроды".

*Я замалюю ў памяці імгненні:*
*Цяпельца. Спевы.*
*Камарыны рай.*
*І зораў таямнічае мігценне,* —

сцвярджае Г. Новік і тут жа просіць: "Ахіні мяне, восень, //Лістападам, дажджамі", каб, пэўна, пабачыць, як "З вільготных галінаў злятае пажар, // Мазаікай яркай на хвалях, асфальце. // Бы ў пральнай машыне, рыззё шэрых хмар // Выкручвае ранак...", або "Назбіраць спалымнелых лістоў — // О спрадвечны кастрычніцкі клопат!"

Паэтэса імкнецца адным-двума штрыхамі намаляваць запамінальную карціну, у чым і сама прызнаецца: "Я пэндзаль абмакну ў туман, // Пазычу фарбы у лістоты". Каб не быць галаслоўным, прывяду без каментарыяў толькі некалькі радкоў: "Дождж пацеры шэпча. Ружанцам бясконцым // Апошняе лісце на слізкіх галінах. // Здаецца, у вырай зляцела і сонца // За клінам самотным, за жураўлінargм", "У скверы здзічэлым шчэ вухаюць совы, // А першыя промні ў расе зазвінелі // На дыялекце забытае мовы".

Дарэчы, пра мову. Гэта пра яе, родную, беларускую, верш Г. Новік "Мова", які хацелася б працытаваць цалкам:

*Распляжылі. Патрушчылі.*
*Знявечылі. Забыліся.*
*Аскепкі неўміручыя*
*Усё-ткі зліцца сіляцца.*

*Пакуль не могуць. Множацца*
*І ў сэрцы колюць дзідамі.*
*Аж покуль*
*дыхаць можацца,*
*Не забывай радзімую.*

Як тут не прыгадаць хрэстаматыйны багушэвіцкі запавет: "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!" І верыцца: не памром, пакуль у айчынную літаратуру будуць прыходзіць такія нацыянальна свядомыя паэты.

Клопат пра родную мову для яе — гэта яшчэ і клопат пра Беларусь: "...ты і я — мы павінны // Сачыць, каб не зніклі бясслынна // Анёлы над нашай Радзімай".

Валодае паэтэса і гумарыстычным дарам. Так, у яе набытак можна смела занесці іранічныя вершы "Абстракцыя", "Турманскае", "Чытаючы Хадановіча", "...Падвяду прыгожа бровы...", "...На цішыню ўвялі тарыф..." і нават пародыю на Хведара Гурыновіча "Смаката".

Ці ўсё так гладка і бездакорна ў кнізе Ганны Новік "Сумёты агню"? Безумоўна, не, як, прынамсі, і ў кожным паэтычным зборніку маладога аўтара. Паэтэса не пазбегла моўных хібаў. Асабліва не пашанцавала націску, які яна, дагаджаючы рытміцы радка, часам ставіць не на тым складзе: "Прывід самотны ліхтары // На сцішаных алеях будзіць", "Храбусціць пад коламі жарства" (каб, пэўна, зрыфмаваць са словам "спадарства"). Відавочна, па гэтай жа прычыне аўтар ужывае няправільную форму дзеяслова "поўнілісь" замест "поўніліся" ("Думкі поўнілісь змучаным жалем"), як і "складвалі" ў значэнні "складалі" ("...чайкі складвалі санеты"). Граматычна нявывераны і такі паэтычны радок, як "Да досвітку гадзін з тры будзе", і зусім вулічна-грубаваты "Муза зноў кудысь звалілася". Наўрад ці апраўдана і ўжыванне ў сур'ёзным вершы размоўна-студэнцкага жаргону — "універ" у значэнні "ўніверсітэт" ("Ногі вядуць да універу"). Няпроста ўявіць мне і тое, як можна "месяца слухаць выццё". А калі чытаю "Затанчыць на халсціне дождж", то хочацца, каб ён, калі казаць па-беларуску, танчыў усё ж па "палатне".

Але гэта, так бы мовіць, выдаткі, якіх пры больш пільнай увазе з боку рэдактара можна было б і пазбегнуць. І хаця вока ці слых і спатыкаюцца на іх, ураджанне ад кнігі, па вялікім рахунку, яны не псуюць. І кажу пра іх хіба таму, каб і сама паэтэса ў далейшым больш патрабавальна ставілася да слова, а значыць — і да самой сябе. Тым больш што Ганна Новік — толькі на пачатку літаратурнага шляху. І я веру, што з кожнай паэтычнай прыступкай яе крок будзе станавіцца ўсё больш цвёрдым і больш упэўненым, а голас не згубіцца ў шматгалосым хоры парнаскіх калег-сучаснікаў.

Наталля КАЗАПАЛЯНСКАЯ

# «Натуральныя страты»

**Уявіце сабе такую карціну: Заходняя Сібір, з аднаго боку — рака Об, з другога — бясконцыя тарфяныя балоты, паміж імі — невялікі кавалак сушы даўжынёй у паўтара кіламетра, шырынёй — яшчэ менш. На гэты кавалак у сакавіку 1933 года былі высаджаны восемсот сорак пяць чалавек — "дэкласаваны" элемент з Мінска, Масквы і Ленінграда: інтэлігенцыя, вернікі, крымінальнікі і бяздомныя.**

У хуткім часе нават і ў АДПУ зразумелі, што гэтае месца зусім не прыдатнае для жыцця. Хацелі вярнуць этап. Але ж высветлілася, што да таго берага падыходзіць не Об, а яе затока, а яна летам не судаходная. Таму ўсе восемсот сорак пяць чалавек былі спісаныя на натуральныя страты.

Затое наступныя два этапы накіравалі ў іншае месца, значна лепшае. Пра іх лёс захаваліся звесткі: з 4900 сасланых да 12 чэрвеня памерлі ўжо 1174 чалавекі, а праз месяц лік тых, хто выжыў, ішоў на дзясяткі. Першы выпадак людажэрства быў зафіксаваны на трэці дзень. І гэта ў лепшым месцы. Што тады казаць пра першы этап?

Яго лёс паспрабаваў рэканструяваць Мікалай Гаўрылаў у сваёй аповесці "Разорвать тишину", якая выйшла асобнай кнігай у 2011 годзе ў "Выдавецтве Дзмітрыя Харчанкі" з дазволу выдавецкага савета Беларускага Экзархата.

Галоўныя героі кнігі — мінскі доктар Аляксей Ізмайлаў, яго жонка Вера і іх дванаццацігадовы сын Санька. Аднойчы Веру выклікалі ў ДПУ, дзе паведамілі, што яе высылаюць у Іркуцкую вобласць за тое, што яе брат асуджаны на 10 гадоў па артыкуле "шкодніцтва". Аляксею прапанавалі развесціся з жонкай: "Сейчас это быстро, прямо отсюда зашли в ЗАГС, и всё. В таком случае ребёнок остаётся с отцом". Цяжка сказаць, што б зрабіла сям'я, калі б дакладна ведала, што з ёй будзе. Можа, хаця б сына пакінулі якім сваякам. Але здараджваць было не ў натуры гэтых людзей, да таго ж, ім і ў страшным сне не магло прысніцца тое, што з ёй у хуткім часе адбудзецца. І Аляксей сказаў: "Вместе не пропадём. Снимем где-нибудь угол, работу найду. Врач везде нужен, люди и в Сибири болеют. Соберём деньги и купим дом — настоящий, с русской печкой, с колодцем-журавлём, или квартиру, ещё лучше этой". З такімі меркаваннямі сям'я выправілася ў дарогу. Аднак канечны пункт іх падарожжа аказаўся зусім іншым: "…на рассвете люди увидели на вершине холма только трухлявые останки бревенчатых стен, две разрушенные каменные печи, чью-то могилу, торчащие из камыша почерневшие сваи причала, да ещё реку, небо и болото. Больше ничего в их маленькой вселенной не было".

Доўгі час людзі знаходзіліся ў здранцвенні, ім здавалася, што гэта нейкая памылка, што хутка прыйдуць баржы і забяруць іх назад: "Никому не могло придти в голову, что можно вот так, запросто, оставить и забыть в болотах несколько сотен человек".

Большая частка высланых была абсалютна не падрыхтаваная да такога месца жыхарства: "…у людей не было ничего: ни инструментов, ни тёплой одежды, ни одеял, у них не было даже спичек, чтобы развести костёр. Их привезли сюда в том, в чём забрали, в лучшем случае давая на сборы два часа".

У хуткім часе ў пасяленні пачалі здарацца разбоі, забойствы, людажэрствы, каталізатарам чаму сталі паводзіны крымінальнікаў. Сям'я Ізмайлавых, зразумеўшы, што выжыць у гэтым месцы шанцаў няма, вырашыла прабірацца па балотах да тайгі, да якога-небудзь паселішча. З імі выправіліся ў дарогу яшчэ тры чалавекі.

Галодныя, знямоджаныя, не ведаючы броду, правальваючыся па пояс у ледзяную ваду, баючыся трапіць у дрыгву — так даводзілася рабіць кожны крок. Прайшлі вёрст дваццаць, пасля зараснікі трысця скончыліся: "…А впереди до горизонта просматривалась рыжеватая безжизненная равнина торфяников, с редкими чахлыми деревьями, мхом и чёрной водой между кочками". Па такой дарозе трэба было прайсці яшчэ трыццаць вёрст.

Адзін са спадарожнікаў патануў у дрыгве, яшчэ адна жанчына памерла, астатніх Аляксей Ізмайлаў давёў да цвёрдай глебы. Праўда, пасля ад знясіленасці памёр і сам.

А што пасяленне? Зіма ў тых шыротах пачынаецца рана. Ужо ў верасні бываюць маразы, мятуць завірухі. Але да гэтага часу ніхто не дажыў. Праз год прыехала камісія.

"Почти повсюду комиссия находила оттаявшие от снега и льда человеческие останки. Время и лисы сделали их неузнаваемыми…"

Камісія склала пратакол пра няўдалую спробу засваення аддаленых зямель Заходняй Сібіры, спісала ўсіх загінуўшых на натуральныя страты і з'ехала.

Кнігу Мікалая Гаўрылава на праваслаўнай каляднай выстаўцы дала мне пісьменніца Наталля Касцючэнка і сказала: "Пачытай. Будзеш уражана". Тады я яшчэ падумала, што тэма сталінскіх рэпрэсій больш мяне ўразіць не можа. Гэта калісьці, на пачатку дзевяностых, я была не ўражаная нават, а ашаломленая кнігамі, газетнымі і часопіснымі публікацыямі, тэлепраграмамі (памятаю, у мяне быў літаральна шок ад аднаго толькі пераліку катаванняў у "Архіпелагу ГУЛагу" А. Салжаніцына). Пасля таго, думала я, уразіць мяне нешта больш не можа. Аказваецца, можа. Як і жахлівая здагадка аўтара: "Прошлое поколение помнит, как после Великой Отечественной войны на улицах и рынках городов победившей страны было полно инвалидов. Слепые, безрукие и безногие, с обшитой кожей штанами, на своих щитках-каталках, с привязанными обрубками ног, они, передвигаясь, как крабы, под ногами идущих, долго не давали народу забыть о правде войны.

А потом инвалиды вдруг куда-то исчезли. Разом. Со всех городов. Спросите у своих дедушек — они подтвердят. Есть несколько косвенных источников, которые утверждают, что всех бездомных калек, по примеру поселенья у устья Назино, отправили на какой-то северный остров и там забыли…" Будзем спадзявацца, што гэта не так. Але калі раптам пацвердзіцца? Увогуле, хіба зверствы, якія ўчыняліся ў той час літаральна да ўсіх слаёў насельніцтва, сведчаць пра якія-небудзь парэшткі сумлення і чалавечнасці ўлад?

Аповесць М. Гаўрылава ў мастацкім плане мае і больш, і менш моцныя старонкі. Але галоўная яе каштоўнасць у тым, што яна праліва святло на яшчэ адзін трагічны эпізод савецкай гісторыі.



Навум Гальпяровіч

## «Мой Полацк — мой Ерусалім...»

* * *

*По Мінску мае полацкія сны,*
*Нібы анёлы светлыя, лунаюць.*
*Праходзіць час, імклівa дні мінаюць,*
*Ды не мінаюць, покуль ёсць яны.*

*Мяне ён не пакінуў, горад мой,*
*Хаця аднойчы я яго пакінуў,*
*І ў светлы дзень,*
*і ў шарую гадзіну*
*Адзіным сябрам ён заўжды са мной.*

*І ў ціхіх мроях, і ў самотных снах,*
*Як абярэгі ад бяды і гора,*
*Заўжды са мною вечная Дзвіна,*
*Крынічка ля Сафійскага сабора.*

* * *

*З табой мы ціха пабядуем,*
*З табой салодка памаўчым...*
*Я зведаў ісціну святую:*
*Мой Полацк — мой Ерусалім.*

*А як мне жыць было інакай,*
*Бо тут ляжаць мае бацькі.*
*Яны маёй сцяною плачу*
*Тут застануцца на вякі.*

*Бо тут Сафійкі вежы-рукі*
*У атачэнні дужых дрэў.*
*І тут я словам беларускім*
*Аднойчы моцна захварэў.*

*Махае клён галінкай голай,*
*Калі сюды прыеду зноў*
*У мой спрадвечны ціхі горад —*
*Адзін з сівых яго сыноў.*

* * *

*Вельмі пакутна і доўга ішоў*
*Я па сцяжынах, па бруку, па полі*
*Да Палаты, да самотных крыжоў,*
*Быццам да волі, і быццам да долі.*

*Недзе смыліла пакутна віна,*
*Недзе грахі не давалі спакою,*
*Ды ні мана, ні бяда, ні вайна*
*Не панавалі над вечнай ракою.*

*Толькі нябёсы і толькі крыжы,*
*Сонца прамень, што пранізвае шэрань,*
*Быццам навекі загадвалі жыць*
*Ціхаю праўдай і светлаю верай.*

## Пяскі

**Ва ўрочышчы Пяскі на беразе Палаты фашысты ў гады Вялікай Айчыннай вайны расстралялі каля 150000 вязняў гета, партызан, падпольшчыкаў, ваеннапалонных**

*Адыходзяць людзі і вякі*
*З палатоўскай жоўтаю вадой,*
*Але крык з урочышча Пяскі*
*Зноў лунае над маёй зямлёй.*

*Тысяч вязняў тут ад бальшака*
*Назаўжды спыніўся гулкі крок,*
*Ды тырчыць малечая рука*
*І на волю рвецца праз пясок.*

*Колькі раз трывожна па начах,*
*Калі ціхі горад мірна спіць,*
*Галасы будзілі палачан*
*Немым крыкам: “Мы хацелі жыць”.*

*І таму над ціхай Палатой*
*У зацятай ценькай цішыні*
*Сталі на адвечны свой пастой*
*Памяці сівыя камяні.*

*І журботны манастырскі звон*
*У душы звініць, нібы струна,*
*Быццам абудзіць зноў хоча ён*
*Галасы, што звернуты да нас.*

## Фрэскі

**У Спаса-Прэабражэнскай царкве Еўфрасіннеўскага манастыра раскрыліся ўсе фрэскі XII стагоддзя**

*Цэркаўка. Чую таемныя зыкі,*
*Так што на момант сціскаецца дых —*
*Проста са сцен углядаюцца Лікі.*
*Светлыя лікі далёкіх святых.*

*Быццам сівыя стагоддзі ўваскрэслі,*
*Быццам вярнуўся*
*ад вечнасці час:*
*Яркія, нібы з пэндзаля, фрэскі*
*Мудра і мірна*
*ўглядаюцца ў нас.*

*Ранак над светам, празрысты і сіні,*
*Рвецца праз морак трывог і пакут*
*Фрэскі і лікі святой Еўфрасінні*
*Зноў бласлаўляюць полацкі люд.*



Фота Аксаны Беленькай



Яна Явіч

## Учора, сёння і калі-небудзь

### *Паэма-алегорыя*

**I**

*Ну што рабіць з сабою*
*на адзіноце,*
*калі неба замкнёнае*
*свінцом хмар,*
*калі — смутак,*
*калі — змрок,*
*калі — цемра?..*
*Ланцуг пазітыўных думак —*
*як сродак ад абсалютнай*
*дэпрэсіі*
*ці — ад бяссоння.*
*Месяц — поўны*
*(натхнення),*
*падобны да колца лімона*
*ці сырнага круга.*
*Трэба чытаць Кафку,*
*каб падалей ад гастраноміі,*
*ці — Пруста,*
*каб бліжэй да высокага.*

**II**

*Дождж…*
*Кроплі — для сэрца,*
*паўхвіліны*
*для скарыстання*
*адзінай магчымасці*
*палёту (вяртання)*
*да чатырох стыхій:*
*вада — ватэрлініі*
*на тваёй далоні,*
*аазіс у пустыні*
*непаразумення;*
*агонь — сонца*
*часоў караля-Сонца*
*ці, яшчэ глыбей,*
*першыя вогнішчы —*
*Юравічы і Бердыж;*
*зямля — глеба*
*пад ласкаю селяніна*
*ці — асфальт у кветках,*
*намаляваных крэйдай;*
*паветра — кісларод.*
*Жыццядайны.*
*Атмасфера*
*для жыцця і творчасці.*

**III**

*Абуджаю роздумам*
*спешчаную свядомасць:*
*гэта ж трэба — за пару крокаў*
*да шчасця*
*не пакахаць (ці разлюбіць),*
*забіўшы ў сабе тое…*
*стваральнае…*
*І ўвогуле —*
*размазваць адну (!) фарбу*
*па адзіным (!) аркушы,*
*а ўрэшце пакінуць, каб высахла,*
*адклаўшы на “калі-небудзь потым”*
*такую ідэю —*
*свежую…*

**IV**

*Ды заўтра ўвогуле*
*можа наступіць вясна,*
*і гэтую задуму*
*заменіць іншая*
*ці — мадыфікаваная.*
*Яшчэ прытоеная*
*ў нетрах штодзённых фантазій.*
*Да часу, пакуль прачнецца*
*крыніца натхнення*
*і запульсуе ў тваёй галаве:*
*трэба думаць,*
*пакуль не нашкодзіў сабе,*
*ці сябрам, ці знаёмым,*
*пакуль засталася ў цябе*
*хоць бы кропля сумлення…*

**V**

*Дзень. Каляндар.*
*Закрэсліваю лічбы*
*ў чаканні нечага*
*лепшага,*
*яшчэ больш вартага*
*ўсё таго ж*
*роздуму.*
*Дрыготкім ветразем,*
*напятым у напрамку*
*ветру,*
*расправіць крылы*
*і з хуткасцю святла*
*ўзляцець да неба,*
*калі з сабою*
*на адзіноце…*



Святлана Абдулаева

## Зімовая вішня

*Я ўсё прыму,*
*што мне пашле Ўсявышні:*
*Тугу-маркоту і настрой узнёслы,*
*І тое, што жыву зімовай вішняй,*
*І што мае адгаманілі вёсны.*
*Ацэнку дам з пазіцый чорна-белых*
*Аднолькавай раскошы і нястачы,*
*Каб распачаць пасля будоўлю смела —*
*Будоўлю Шчасця на мурах няўдачы.*
*Я ўсё прыму,*
*што мне пашле Ўсявышні:*
*Цярновымі і лёгкімі шляхамі*
*Прайду ў надзеі,*
*што мой лёс — нялішні*
*Тут, на зямлі, паміж усімі вамі...*

* * *

*Дзінькаюць сініцы за акном,*
*Бэзу куст аблюбавалі зранку.*
*Лёгка развітаўшыся са сном —*
*Я рукой адсоўваю фіранку.*
*Падае на вуліцы капеж…*
*Тае снег ад пацалункаў сонца…*
*І ляціць… ляціць хвілін картэж*
*Па сваіх калонах у бясконцасць.*
*Новы дзень —*
*ты той жа паштальён,*
*Прынясі мне добрыя навіны!*
*У цябе іх можа быць — мільён!*
*Мне хаця б з дзясятка — палавіну!*

* * *

*Гучыць старэнькі патэфон.*
*Шкада, былое ён не верне...*
*Адно туга мінулых дзён*
*У сэрцы прарастае зернем.*
*Іграй, іграй, саксафаніст!*
*Усе балады Адзіноты!*
*Не замаўкай... на жоўты ліст*
*Асенні дождж запіша ноты...*

## Пасейце дабро...

*Пасейце дабро не шкадуючы сіл,*
*Як сеюць зярняты у полі, —*
*Хай радасцю ззяе душы небасхіл,*
*Хай сэрца не ведае болю.*
*Пасейце дабро*
*цёплым сонечным днём,*
*Пасейце, калі й завірухі —*
*І будзеце вы жыватворным агнём*
*Саграэты ад роспачы-скрухі...*
*Пасейце дабро, калі падае град,*
*Калі над зямлёю — туманы,*
*І вернецца ў дом ваш яно акурат*
*І ляжа бальзамам на раны.*

## Гарадок

*Мне ўспамінаецца маленькі гарадок*
*З завулкамі ў кветніках прыгожых...*
*Туды я трапіла нібыта незнарок,*
*Аднак бясспрэчна,*
*што па волі Божай.*
*Быў падвячорак... Клёна сілуэт*
*З царквою побач белай — на пагорку.*
*І той... здаецца, мне гучыць услед*
*Гармонік звонкі... на чужым падворку...*

* * *

*У лёгкіх фіранках заблытаўся вецер,*
*Крануўшы разьбу аканіц...*
*Акацыі белай звісаюць суквецці*
*Накшталт дарагіх завушніц.*
*Аздоблена неба ўсё безліччу зорак —*
*Прастора з адных таямніц.*
*Спявае салоўка... Малдаўская хора*
*Ўзгадалася мне да драбніц.*

# Светлы бок цьмянага вобраза

**Калі ў Германіі пабачыў свет раман Міхаэля Кумпфмюлера “Смак жыцця”, усе адчулі палёгку. Бо гэтая кніга — пра апошні год жыцця і каханне Франца Кафкі да Доры Дыямант. Раней, да выхаду рамана, Кафка ўспрымаўся як цьмяны вобраз, вечна няшчасны халасцяк. Натуральна, у сваёй кнізе аўтар гэта цалкам не парушыў, але крыху “падправіў”, дадаў адценне тонкага, інтымнага стаўлення. Яшчэ да выхаду кнігі яе задуму ўспрымалі скептычна: як увогуле можна пісаць пра Кафку! Але, на шчасце, крытыка не апраўдалася. На сустрэчы з аўтарам, што прайшла ў Інстытуце імя Гётэ ў Мінску, чытачам стала вядома, што Міхаэль Кумпфмюлер любіць пісаць кнігі ў кавярнях, ён актыўны ў палітыцы, мае траіх дзяцей і жанаты са знакамітай пісьменніцай. Але, натуральна, гутарылі яшчэ пра многае…**

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота Аляксандра Назарчука**



## Пра ідэю і яе рэалізацыю

— Раманы Франца Кафкі я пачаў чытаць вельмі рана, год у 17 — 18, пасля таго, як пазнаёміўся з творамі Карла Мая. Творы Кафкі — вельмі яркае ўражанне, тады ж былі і мае першыя спробы пісаць. Занатаваў свае ўражанні, гэта быў у некаторай ступені эпігонскі твор, і няўдалы. Але я заўсёды ведаў, што некалі вярнуся да Кафкі. І сапраўды, ужо ў сталым узросце ўспомніў яго гісторыю, апошняе каханне, апошнюю прыгоду… Тады сам не ведаў, што атрымаецца з маёй задумы, але я люблю пісаць такія творы. Гэта раман пра каханне і смерць... І я хацеў у некаторай ступені абараніць Кафку і Дору Дыямант і развеяць той вобраз няшчаснага мастака, які пра яго склаўся. Больш за тое, у Доры Дыямант не вельмі добрая рэпутацыя сярод літаратуразнаўцаў. Яе асуджаюць за тое, што яна па жаданні Кафкі спаліла некаторыя лісты пісьменніка яшчэ пры яго жыцці. Ды і самога пісьменніка асуджалі за сувязь з ёй, бо Дора была простай жанчынай.

І вось, калі я пісаў гэтую кнігу, вырашыў, што не буду згадваць прозвішча Кафка, а толькі імя, бо з прозвішчам звязаныя нядобрыя асацыяцыі, і яшчэ вырашыў, што напішу раман у цяперашнім часе, бо інакш было б надта цяжка. Але ўвесь час працы над ім я быў вельмі шчаслівым чалавекам.

## Пра выдумку і біяграфічнасць

— Асновай кожнага рамана павінны быць нейкія пустыя месцы. Калі б усё было вядома, то не трэба было б пісаць кнігу. Няма дзённікаў таго часу, няма перапіскі. Але з лістоў Кафкі да сям’і, знаёмых можна рэканструяваць, як выглядала гэтая гісторыя. Я не ведаю, што адбывалася ўнутры адносін, але ёсць адзін факт, які пацвярджае моц пачуццяў. Яны пазнаёміліся на курорце Мюрыц на Балтыйскім моры ў 1923 годзе. Правялі там мала часу, але вырашылі, што паедуць разам у Берлін да Доры Дыямант. Тое, што такое важнае рашэнне было прынята за кароткі час, для мяне значыць шмат: гэта сапраўднае каханне. Усе вобразы, апісаныя ў рамане, аўтэнтычныя, за выключэннем двух сяброў Доры Дыямант. Адносіны паміж галоўнымі героямі выдуманыя, але гэта магло б быць праўдай… Яны правялі разам усяго 48 тыдняў, калі іх падзяліць на 4, то атрымаецца 12. 12 тыдняў — у месцы, дзе пазнаёміліся, апошнія 12 — розныя санаторыі, Аўстрыя, і 24 тыдні пасярэдзіне — іх жыццё ў Берліне. Але гэты час праходзіць вельмі хутка, і пра яго распавядаецца хутчэй... Як сказаў пра кнігу адзін крытык — і гэта мне вельмі спадабалася, — “Так усе хацелі б памерці”.

Я стараўся пісаць так, быццам нічога не ведаў пра Кафку, натуральна, у рамане знойдуцца і вядомыя факты пра яго: складаныя адносіны з бацькамі, адзінота, ды тут старыя звесткі адкрываюцца па-новаму. Хацеў і вывесці правільную адлегласць да галоўнага героя, наколькі блізка я магу падысці і наколькі вялікую дыстанцыю мушу трымаць. Наблізіцца да Доры было нашмат лягчэй, Кафка — больш складаная фігура.

## Пра рэалістычнае і сентыментальнае

— Калі я пішу, для мяне важна чуць галасы. Канечне, няма ўжо голасу Кафкі, але калі чытаю яго лісты, бачу некалькі пасланняў. Адно з іх — гэта чалавек, які чакае, што яго жыццё скончыцца, але спадзяецца на нешта новае. Каханне не будуецца на дыялогах. Гэта бачанне свайго партнёра, і таму няважна, што Дора не ведала кніг Кафкі, пачала іх чытаць толькі пасля яго смерці. У адносінах яны знаходзяцца на адным узроўні, сустракаюцца як мужчына і жанчына, хоць і маюць розны ўзрост. Аднак усё роўна гэта дуэт. У некаторых сцэнах яны размаўляюць. Але гэта маленькія жэсты, крокі, першы позірк, потым — крок, які развіваецца ў штосьці большае.

Дваццаць год таму ў Германіі сярод рэдактараў, крытыкаў была дыскусія. І прафесіяналы прыйшлі да высновы, што нямецкія літаратары свае творы павінны пісаць больш рэалістычна. Я лічу сябе рэалістам. Але літаратура як падсістэма культуры мае і забаўляльную функцыю, ды ў першую чаргу дзякуючы літаратурным тэкстам чытач лепш пазнае свой час і гісторыю. І калі я павінен рабіць выбар паміж сабою і светам, весці аповед ад першай ці ад трэцяй асобы, то я выбіраю свет. Але гэта не выключае таго, што ў кожны мой тэкст пэўным чынам уваходзіць уласны досвед.

## *У падтрымку чытання*



**Вячаслаў Статкевіч, артыст Беларускай дзяржаўнай філармоніі:**

### «Увесь час мяне цікавіла паэзія»

**Вольга НОРЫНА**

Самай першай кнігай у мяне быў, канечне, буквар. Я нарадзіўся на хутары ў вёсцы Рэпнікі Лідскага раёна. Можаце сабе ўявіць: электрычнасці не было, газніца, і вечарамі пры ёй вывучаў літары, чытаў па складах.

Чытаў шмат. З любімых аўтараў назаву Янку Брыля, Уладзіміра Караткевіча, Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Танка. Увесь час мяне цікавіла паэзія. (У мінулым годзе Вячаслаў адзначаны граматай СПБ за стварэнне музычна-паэтычнага спектакля па творах М. Багдановіча “У краіне светлай…” — **В. Н.**)

З апошняга прачытанага прапаную зборнік вершаў “За краем зямлі” украінскага кінарэжысёра Віктара Кавальчука. Аўтар сорак гадоў аддаў прафесійнай рэжысуры кіно, але з 1995 года яго натхняе муза паэзіі. На рахунку В. Кавальчука чатыры зборнікі вершаў і 150 песень.

## *Прэзентацыя*

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

# Няпісаны закон для вандроўнікаў

Да святкавання Міжнароднага дня роднай мовы прымеркаваў прэзентацыю сваёй кнігі “Белая Жанчына” пісьменнік Дзмітрый Пятровіч. Бард і паэт, супрацоўнік газеты “Звязда”, ён гэтым разам выступіў у якасці празаіка, а галоўнае — шчырага прапагандыста беларускага слова. У выкананні Дзмітрыя прагучалі песні на вершы Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча, Міколы Шабовіча. Адбылася і прэм’ера — на словы паэтэсы Вольгі Норынай у перакладзе Міколы Шабовіча Дзмітрый выканаў “Рамáнс”. (Сама Вольга расказала



старшакласнікам пра сваю кнігу “Гарадская трава”, што, дарэчы, як і кніга “Белая Жанчына” Д. Пятровіча, пабачыла свет у мінскім выдавецтве “Чатыры чвэрці”).

“Колішніх настаўнікаў не бывае”, — сцвярджае Дзмітрый Леанідавіч. І гэта насамрэч так. Ён пабудаваў сустрэчу са школьнікамі ў мінскай гарадской публічнай бібліятэцы № 20 менавіта як урок, час ад часу “выклікаючы” вучняў: прасіў нагадаць, юбілеі якіх славутых пісьменнікаў мы святкуем у гэтым годзе, называў прозвішчы сучасных літаратараў і прапаноўваў хлопчыкам і дзяўчынкам падымаць рукі, калі яны чыталі іх творы. У імправізаваны ўрок ахвотна ўключыліся настаўнікі і прысутныя бібліятэкары на чале з загадчыцай Святланай Чабатар.

Аповесць, што дала назву зборніку Д. Пятровіча, расказвае пра людзей рэдкага хобі — спелеолагаў. Аднаму з іх з’явіўся прывід Белай Жанчыны — веснік хуткай смерці. Хто выклікаў яго? Які цяжар на сэрцы шмат гадоў носіць герой? Ці спраўдзяцца прыкметы? Вострасюжэтны твор трымае ў напружанні да апошняй старонкі. Не пакінуць абыякавымі ўчынкі герояў аповесці “Джэк”, у якой, па словах аўтара, дакументальная аснова. У зборнік “Белая жанчына” ўвайшлі такія апавяданні, як “Мара”, “Ружа”, “Вартоўня” і іншыя, прысвечаныя падзеям нядаўняга і далёкага мінулага. Трагедыю 2011 года ў мінскім метро Д. Пятровіч перадае ад імя франтавіка-штрафбатаўца (апавяданне “Цана крыві”). Запэўнівае, што і сёння нас абараняюць святыя ахоўнікі (апавяданне “Анёлы”), а сапраўднаму каханню спрыяе лёс (“Ружа”). З вялікай любоўю расказвае пра роднае Заслаўе ў эсэ “Горад майго сэрца”. Аб’ядноўвае ўсе творы пазіцыя аўтара — размову з чытачом ён вядзе згодна з няпісаным законам вандроўніка: споведзь падарожніку павінна быць шчырай.

Хочацца спадзявацца, што ў такой сустрэчы з роднай мовай будзе праца — моладзь адчула, што творы класікаў вельмі актуальна гучаць па сёння, і тыя, хто спрабуе свае сілы як музыкант і паэт, звернуцца да іх па-за межамі школьнай праграмы. Безумоўна, будуць запатрабаваны ў бібліятэкараў кнігі, пра якія чыталі вучні ад самога аўтара.




# Нара

## Апавяданне

Быў пачатак красавіка, снег амаль усюды растаў, на прыгрэве ўжо дзюбіліся з зямлі раннія мнагалетнікі. Ля будынка інтэрната для маласямейных за апошнія суткі-двое знікла з вачэй ці не апошняя, убітая за зіму, пачарнелая снежная гурбіна.

Мы прайшлі міма вахты і на рыпучым ліфце падняліся на патрэбны паверх. Тут, у кабінцы з падслепаватай лямпай дзённага святла, мне чамусьці прыйшло ў галаву, што чалавецтва вынайшла ліфт занадта рана, "навырост", бо яшчэ да гэтага часу не навучылася ім карыстацца, — усё, што можна было ададраць, выкруціць, зламаць, было ададрана, выкручана, зламана і спалена. Адчуваўся ўстойлівы, едкі пах гарэлага пластыку. Знізу і зверху нешта скрыгатала, рыпела, кабіна ўвесь час торгалася. Ці варта апісваць пашарпаныя дзверы ў агульны для некалькіх кватэр пярэдні пакой, таксама агульную кухню з пахам прыгарэлай яечні і прагорклага кефіру?.. Жанчыны засакаталі, абняліся. Я уладкаваў сваё і жончына паліто на скрыні ля ўвахода. У пакоі таксама трымаўся цяжкі, застарэлы дух.

Цяпер быў час агледзецца, пакуль гаспадыня разбіралася з духоўкаю на кухні, а гаспадар бегаў у магазін. "Можна было і раней паклапаціцца, — зірнуў я на жонку. — А то госць на парог, а гаспадар з хаты". — "Паспееш яшчэ наклюкацца, — не падтрымала Таццяна. — Вялікі пан знайшоўся".

Пакой рабіў уражанне паўсклепа, хоць і знаходзіўся на пятым паверсе. Даводзілася ў жыцці пабачыць — нават і пажыць — цесныя студэнцкія "пеналы", "сляпыя", без акон, у восем метраў катушкі для маладых сем'яў у тым жа студэнцкім інтэрнаце, ды ці мала яшчэ чаго. А гэта быў пакой-нара. Тры чвэрці плошчы, а можа і больш, займалі нераспакаваныя грувасткія скрыні з мэбляй. Навошта збіраць "сценкі" і "горкі" — імкнуўся я зразумець логіку гаспадароў, — калі ўсё часова, калі ўсё адно давядзецца раскручваць, губляць час. Які сэнс здымаць коўдру пылу на скрынях, калі ён ізноў сядзе?.. Толькі пераганяць з месца на месца. Зрэшты, стаялі тут і дзве старамодныя шафы, якімі карысталіся, дарэшты дабітыя — не будзе шкада пакідаць, калі дадуць новую кватэру.

Праз некаторы час на парозе з'явіўся гаспадар. Гэта быў малады, сярэдняга росту мужчына з доўгімі, як у музыканта, пафарбаванымі ў нейкі ржавы колер валасамі, надзвычай худы, вузкагруды, сутулаваты, з наколкамі на пальцах і перадплеччы. На смуглаватым твары выпіралі скулы, шчацінілася барада няпэўнай формы і колеру. Апрануты ён быў у патрапаныя джынсы і выгаралую — як кажуць, на ўсе выпадкі жыцця — майку.

— Генік, — назваўся гаспадар, падаючы руку. Я ледзьве не ўскрыкнуў, настолькі моцна — а галоўнае, нечакана — сціснуў ён маю далонь. Генік адразу прыняўся за звыклую, як можна было здагадацца, для яго работу. Адным рухам ён ухапіў і паставіў на сярэдзіну пакоя дзве табурэткі, кінуў на кожную заношаныя, тлустыя анучы. Зверху паклаў "стальніцу" — разбухлы і перакрыўлены ліст ДВП. Аднак канструкцыя ўсё ж "ігрáла", і Генік некалькі разоў здымаў ліст, доўгімі худымі пальцамі мусоліў анучы, то распраўляючы іх, а то збіваючы комам. Нарэшце застаўся задаволены, прыцмокнуў языком. "Стол" ён заслаў выцертай да палатнянай асновы цыратай. Крэслаў аказалася толькі два, для гасцей, астатнія замяніла падсунутая скрыня. Я адчуў, як паволі знікае апетыт. "Чорт бы цябе ўзяў, не мог раней усё зладаваць, абавязкова трэба перад носам з анучамі квэцацца, — абурыўся ў думках, хоць і не лічыў сябе гідлівым.

— Так можна і галодным застацца". А тут яшчэ Генік, нібы спецыяльна:

— Рукі паадбіваць!.. За што толькі грошы плацяць адміністратарам у нашым гастраноме. Мышы па нагах бегаюць. Ледзь выбраў пачак рысу непагрызены. Што ні вазьму — сыплецца, але ж не ў супермаркет ісці… Ну то давайце ўжо вып'ем, раз намерыліся.

Не чакаючы, пакуль усядуцца, Генік набулькаў у аб'ёмістыя шклянкі гарэлкі і са смакам перакуліў першы, выставіўшы худы кадык.

— Так і жывём, — шумна выдыхнуў павесялелы, задаволены ці смакам выпітага, ці тым, што нікога не давялося ўгаворваць. Адразу ж наліў па другой.

— Мы дамаседы, нікуды не ходзім, — уступіла ў размову Галіна. — Ён да свайго ложка табурэтку прыставіць з цацкамі і напільнікамі, я на сваім падаб'ю пад галаву падушку і дэтэктывы чытаю. Так і жывём, — паўтарыла мужава.

Жанчыны хутка знайшлі тэму для размовы — абедзве знаходзіліся пад уражаннем ад моднай на той час "Марыяны". Генік "завіс" на нейкай сваёй думцы, а я ўсё намагаўся здагадацца, кім мог быць гэты чалавек. На вялікага інтэлектуала не цягне, бачна з парога. З рабочых?.. Таксама наўрад ці. І яшчэ падумалася: не наш ён, не з паляшуцкага краю. Пасмеў бы толькі паказацца ў такім выглядзе на людзях.

Застолле працягвалася. Паступова забыліся анучы, перасталі раздражняць запыленыя скрыні з мэбляй. У Галіны разгарнуліся плечы, прыемна заружавеліся шчокі, на якіх абазначаліся сімпатычныя ямачкі. "І трапіла ж гэтаму глісту такое багацце, — падумалася пасля чарговай, выпітай па маёй прапанове за гаспадыню, чаркі. — Як той мангольскі хан (скуласты Генік нечым і напамінаў нашчадкаў Тахтамыша), заграбастаў прыгожую жанчыну і трымае. І застрашыў, можна здагадацца. Так і ёсць… Свежы сіняк адзін і другі раз выбіўся з-пад шлейкі летняй сукенкі. А слова скажа — адразу на мужа косіцца: ці не прагневала чым".

Неўзабаве высветлілася і Генікава спецыяльнасць. Галіна атэставала мужа як умельца на ўсе рукі, які змог бы і верталёт зрабіць, і падводную лодку, была б такая магчымасць. "Шкада, не магу ўгаварыць далей вучыцца", — пажалілася яна і тут жа пашкадавала. — "Кату пад хвост тваю навуку! — загарэўся Генік. — У нас майстар мае дзве адукацыі, а запытайся пра што — дуб. Чарцёж не можа прачытаць".

Пасля першага застольнага раўнда мы з Генікам выйшлі перакурыць на агульную кухню. Зрабіўшы некалькі зацяжак, ён дастаў з шуфляды шпульку з шаўковымі ніткамі.

— Парваць зможаш? — бліснуў вачыма Генік, расціраючы касцістыя пальцы.

— Не ведаю, — адказаў я няўпэўнена.

Рваць шнуры не было ніякага жадання. Але што зробіш. Госць, як кажуць, нявольнік. Атрымлівалася нешта накшталт цяперашняй "Званай вячэры": хочаш не хочаш — забаўляйся. Было зразумела, што Генікам кіравала звычайнае імкненне вылучыцца, паказаць перад нейкім там інтэлігентам свой спрыт. Я не парваў і дзве столкі, моцна парэзаўся. Генік адолеў спачатку шэсць, а пасля і ўсе восем, неяк па-асабліваму намотваючы ніткі на свае доўгія, худыя пальцы.

— Неверагодна! — зрабіў я камплімент.

— Яшчэ ніхто не паўтарыў, — задаволена заўважыў Генік і ўсміхнуўся аднымі вуснамі. — Галоўнае тут — рывок. Рэзка, вельмі рэзка. Глядзі…

Мы зноў вярнуліся да стала. Жанчыны сядзелі, закінуўшы галовы, і ўглядаліся ў люстру. Таццяна войкала, і не выключалася, што вечарам будзе ў які раз напомнена, з якога месца ў сапраўднага гаспадара не павінны расці рукі.

— Бяры прыклад, павучыся, — не хавала захаплення жонка. — А то да чаго ні дакніся — усё валіцца, усё наперакасяк.

— Надзейна, роўна павешана, — згадзіўся я, добра разумеючы, што не гэта маецца на ўвазе.

— Дурань ці прыкідваешся?.. Генадзь сам зрабіў люстру, сваімі рукамі. Разумееш ты, сам! Ніводнай капейкі не патраціў. І якую люстру!

— Здагадайся, з чаго? — ажно свяціўся вынаходнік.

— Адразу і не скажаш. Нейкія трубачкі.

— Правільна, трубачкі з прылад для пералівання крыві. Мая ў бальніцы працуе. Даў загад — нацягала.

— Нядрэнна, можа быць… — не падзяліў я жончынага захаплення. Люстра і напраўду асабліва не ўражвала, але на той час і такую купіць было цяжка.

Жонка глянула коса.

— Гэта пакуль што пробны варыянт, — паспяшаўся растлумачыць Генік. — Тут яна і застанецца. Для новай кватэры я задумаў іншую.

Генік з захапленнем пачаў маляваць тупым канцом відэльца на цыраце праект трохузроўневай люстры, якая будзе сама запальвацца, калі адчыняць дзверы ў пакой. Паводле праекта, накал павінен рэгулявацца сам па сабе, у залежнасці ад асвятлення.

— Ды што люстра!.. — гаспадар ажыўляўся ўсё больш. — Усе дзверы ў мяне будуць адчыняцца аўтаматычна, шафы і крэслы я буду перасоўваць адным пальцам...

Праз некаторы час агульная, "сямейная", гарэлка была дапіта, і Генік, пакорпаўшыся ў адной з незлічоных скрынь, дастаў "сваю", асабістую, пра што і папярэдзіў жонку, не звяртаючы аніякай увагі на гасцей...

"Генікава" гарэлка ішла тугавата. Апошнія навіны былі абмеркаваны, усе добра-такі прытаміліся. А мяне ўвесь час не пакідала прадчуванне, што гаспадару не церпіцца напаследак здзівіць яшчэ нечым. Ён час ад часу паціраў далоні, нарэшце падняўся, падышоў да шафы і ўрачыста дастаў адтуль… кальчугу. Такія раней даводзілася бачыць адно толькі ў гістарычных фільмах.

— Бро-не-жы-лет! — пафасна вымавіў Генік у адказ на маё нямое пытанне.

Кальчуга сапраўды ўражвала.

— Дзевятнаццаць кілаграмаў і дзвесце грамаў агульная вага. Роўным лікам дваццаць тысяч гравераў пайшло, — Генік не хаваў захаплення сваім дзецішчам. — Усе яны са сталі самай высокай якасці, вытрымліваюць неверагодную нагрузку (была названа і марка сталі).

— А дзе ж столькі назбіраць можна? — пацікавіўся я.

— Навошта збіраць?.. Я ж слесарам лічуся, наладчыкам. А на працы не возьмеш — дома не гаспадар. Разумны чалавек сказаў.

Я прыкінуў: калі кожны дзень нарошчваць кальчугу на дваццаць "вочак", то спатрэбіцца тысяча дзён, каб яе закончыць. Больш як два гады! Кольца да кольца, ланцужок да ланцужка. Перад гэтым жа кожны гравер неабходна яшчэ ачысціць ад мазуту, адпаліраваць, засцерагчы ад карозіі (кальчуга адсвечвала прыглушаным сталёвым бляскам). А колькі цярпення і настырнасці неабходна, каб разагнуць і сагнуць кожнае вочка, "сшываючы" яго з іншым. На маё пытанне "Як?" майстар не без задавальнення заначыў:

— Не праблема, калі рукі… не граблі, — зыркнуў спачатку на мяне, пасля перавёў позірк на Таццяну, пэўна, чакаючы яе пахвалы. — Усё не так проста, як можа здацца. — Генік набіваў цану "бронежылету", нібы я збіраўся купіць у яго гэтую вельмі неабходную ў гаспадарцы рэч. Ён з падрабязнасцямі, "па-кніжнаму" выклаў усю тэхналогію.

— Паўтысячы долараў мне за яго двойчы прапаноўвалі, але я дулю паказаў. Няма дурных, — закончыў канструктар.

— І што, любы ўдар вытрымае? — запытаў я недаверліва.

Генік пакрыўдзіўся:

— І лома, і сякеры. Я не кажу пра нож.

Ён сцягнуў з плеч паношаную майку, акуратна зняў кальчугу з металічнай, сваёй работы вешалкі і расклаў на ложку. Пасля гэтага стаў на калені, выцягнуў рукі, сагнуўся і ўлез голым рабрыстым целам у яе нутро.

Ён сціснуў нож у левай руцэ, пакруціў кісцю, нібы нешта раздумваючы, пасля ў імгненне вока перакінуў нож у правую руку, гікнуў і рэзка, што ёсць сілы ўдарыў сябе ў жывот.

У чыстым выглядзе эксперымент не ўдаўся: праз "кальчугу" выступілі некалькі кропель крыві. Жанчыны закрычалі, а Генік, убачыўшы кроў, як звар'яцеў і з яшчэ большай сілай біў сябе нажом у жывот і грудзі. Біў, пакуль не стаміўся. Толькі тады ён выцер кончык нажа аб джынсы і паклаў на край "стальніцы". Галіна, бледная як палатно, без слоў узяла нож і аднесла на кухню, далей ад вачэй. Генік тым часам зняў — гэтак жа цырымонна, як і надзяваў — свой "бронежылет". Увесь жывот мужчыны быў у сіняках, месцамі выступілі кропелькі крыві. Генік акуратна павесіў "бронежылет" у шафу і толькі пасля гэтага дазволіў жонцы памазаць ранкі ёдам.

— Добры нож, таксама маёй работы, — Генік нібы апраўдваў адмеціны на целе. — Не пашчарбіўся нават.

Гаспадар, як нічога не здарылася, сеў да стала, наліў поўную шклянку "сваёй" гарэлкі і выпіў, нікога не запрашаючы.

Пара было збірацца дамоў.

* * *

Наступны раз я сустрэў Геніка гадоў мо праз пяць у піўным бары, куды завярнуў па дарозе са сваіх "градак". Выпілі, разгаварыліся. Выявілася, што маладая сям'я толькі што атрымала новую кватэру, але рэалізоўваць нядаўнія праекты ў гаспадара не было аніякай ахвоты. "Два пакоі, — у словах мужчыны не было радасці, — але тая ж нара: агульная плошча ўсяго на сем метраў большая. У нас усё як і раней".

Тады ж пад чарку Генік абмовіўся, што нарэшце знайшоў такі варты яго кваліфікацыі спосаб зарабляць грошы.

— Яны ўсе яшчэ слінай захлынуцца, калі пабачаць мой катэдж, — гарэў ён. — Агароджа з натуральнага каменя, два паверхі, зімні сад, басейн, камеры назірання, — усё гэта абавязкова будзе.

— Наладзіце серыйны выпуск бронежылетаў? — спытаў я асцярожна.

— Таксама скажаш! Гэта ж не было чым рукі заняць, а на што-небудзь вартае розуму не хапіла. Цяпер пажыў, пабачыў… Не сядзець жа да смерці ў дваццацімятровай нары!

— Чым жа цяпер заняты?

— Ёсць тут… Адным словам, дзельца праварочваю адно. У долю, прабач, узяць не магу — інтэлігенцыя, а мне рукастыя трэба.

Праўду сказаць, я не меў аніякага жадання ісці да каго-небудзь у кампаньёны. Журналісцкая праца хоць не давала вялікага прыбытку, але мне падабалася.

— Зойдзем да мяне, пасядзім якую гадзіну, — прапанаваў Генік.

— Не крыўдуй, другім разам, — кінуў я.

— Ну, як ведаеш, глядзі сам. Другім разам, калі ўсё пойдзе гладка, я запрашу цябе ў свой дом, — як пра нешта запаветнае паведаміў Генік. — Цяпер сцены заканчваю, думаю да зімы накрыць. І з маладой жонкай пазнаёмлю: навошта цягнуць старыя транты ў новую хату! Хопіць ёй і таго, што мае.

* * *

Як стала вядома з крымінальных навін, Генік папаўся на тым, што збываў… пісталеты уласнай канструкцыі. Нешта крадком тачыў на рабочым месцы ў цэху, нешта выпілваў у гаражы. Камерцыя каштавала вынаходніку-самавуку восем гадоў з канфіскацыяй маёмасці — тых самых нераспакаваных скрыняў.

А "бронежылет" нейкім чынам дачакаўся свайго гаспадара. І стаў прычынай трагедыі. Генік у чарговы раз дэманстраваў яго надзейнасць новым знаёмым — хацеў прадаць, застаўшыся без капейкі. Хто яго ведае, чаму так здарылася, што лязо адточанага нажа глыбока засела між рэбраў мужчыны. Яшчэ больш рэзкім стаў удар? А мо той дзясятак крадзеных гравераў, якія не вытрымалі ўдар, аказаўся бракаваным? Ці то вінаваты ва ўсім час? Ёсць жа, кажуць, у канструктараў такое паняцце, як стомленасць металу.

# Акорды натхнення

Галія ФАТЫХАВА,
фота Кастуся Дробава



**Іван Пратасеня, адзін са старэйшых айчынных майстроў акварэльнага жанру, нарадзіўся на Случчыне, у вёсцы Старцавічы (цяпер Знамя). Скончыўшы Мінскае мастацкае вучылішча, працягваў адукацыю ў Маскоўскім паліграфічным інстытуце. Прафесійная дасведчанасць, начытанасць, цікавасць да беларускай гісторыі спрыялі яго супрацоўніцтву з выдавецтвамі, часопісамі, паспяховаму творчаму развіццю. Нядаўна Івану Міхайлавічу споўнілася 80 гадоў, і сваю знамянальную дату ён адзначыў персанальнай выстаўкай "Акорды майго натхнення" ў сталічным Палацы мастацтва.**

Прыхільнікі творчасці І. Пратасені ведаюць: ён актыўна працуе, удзельнічае ў выстаўках і не перастае здзіўляць новымі адкрыццямі менавіта ў акварэлі, якой адданы ўсё жыццё, у якой дасягнуў найвышэйшага майстэрства сярод калег. Мастак стварыў у гэтай тэхніцы непаўторныя разнапланавыя кампазіцыі, напісаныя ў лепшых рэалістычных традыцыях, з выразным асабістым падыходам да раскрыцця тэмы. Каля 90 твораў розных гадоў — захаваных у музейных фондах і зусім нядаўніх, з майстэрні І. Пратасені, — увайшлі ў яго персанальную экспазіцыю, прасякнутую духам любові да роднай зямлі. Захапленне прыгажосцю і гармоніяй чалавека і прыроды заўсёды прысутнічае ў яго карцінах, і самае галоўнае — мастак умее таленавіта гэта перадаць.

Меладычнасць адчуваецца ў пейзажах "Ваколіцы Раўбіч", "Кураслеп зацвіў", "Два дрэвы на тым беразе", "На ўшацких азёрах", "Белыя росы". Карціна-сімвал "Адвечнае" ўзрушвае мажорнай экспрэсіяй, яркай мастацкай вобразнасцю, адлюстроўваючы вечную тэму барацьбы: пад шпаркім рухам хмар ды імклівым ветрам гнуцца тонкія дрэўцы, а насустрач, выпрастаўшы свае дужыя крылы, ляціць белы бусел… І лірычныя белыя буслы ў вышыні на карціне "Рэха" нясуць святло, аптымізм і радасць.





Мастак настолькі авалодаў тэхнічнымі складанасцямі акварэльнага пісьма, што партрэты, створаныя ім, выклікаюць здзіўленне нават у спанатраных калег. Асаблівай увагі заслугоўваюць увасобленыя І. Пратасенем славутыя постаці зямлі беларускай: Кірыла Тураўскі, Еўфрасіння Полацкая, Францыск Скарына, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Янка Купала, Якуб Колас, Паўлюк Трус, Іван Мележ, іншыя людзі, якія ствараюць славу Радзіме. На вернісажы ўвагу наведвальнікаў прыцягвалі, напрыклад, такія работы, як "Набат 1863. Кастусь Каліноўскі і Марыся", "Максім Багдановіч і Зоська Верас у Мінску ў 1916 г.", "Паўлюк Трус", "Думы Цёткі".

Адметны вялікім псіхалагізмам, унутранай напружанасцю трыпціх "Сюіта чароўнай ночы", напісаны ў 2005 г. спецыяльна для літаратурнага свята "Каласавіны" на матыў верша Якуба Коласа "Ноч". Тонкі лірык і пранікнёны псіхолаг, Іван Пратасеня "перачытаў" паэтычныя радкі, перадаў таямніцу ночы дзівоснай і непаўторнай тэхнікай, адчуўшы колер стану прыроды, пэўна, так, як адчуваў стан прыроды сам пясняр. Помніцца, раней у Слуцкай галерэі мастацтваў (дарэчы, Іван Міхайлавіч падарыў ёй 30 сваіх работ), ён паказаў свае творы ў жанры кампазіцыйнага партрэта: "Янка Купала і Якуб Колас", "Развітанне Якуба Коласа і Янкі Купалы 27 чэрвеня 1941 года ў Ляўках" (у аснову гэтай акварэлі пакладзены канкрэтныя гістарычныя падзеі першых дзён вайны). Мастак выканаў таксама тэматычны патрэт, адлюстраваўшы факт знаходжання Якуба Коласа ў Слуцку ў 1923 годзе і ўзяўшы за назву для гэтай акварэлі словы з ліста паэта да яго жонкі Марыі: "Тут беларускі дух…". Ёсць у І. Пратасені і пейзажы, прысвечаныя роднаму краю паэта: "Над Нёманам", "Хата ў Акінчыцах". А да 120-годдзя Максіма Багдановіча майстар напісаў "Вечар у Ракуцёўшчыне", "Споведзь паэта", "Адвечны кліч", "Максім Багдановіч і Зоська", "А сэрца ўсё імкнецца да бацькоўскага дома", "Над галавой — дубоў павець", "Помніць Максім і Чырвоны касцёл".

Вызначальнае месца ў яго творчасці займаюць сюжэтна-тэматычныя кампазіцыі "Прашчурам маім са Случчыны", "Як у Слуцку сустракалі Пасланца з поля бою","Вяселле ў Падгор'і", "Бацькоўскі дом" , "Мелодыя роднага краю", "Случчына мая, мае бацькі", "Спеюць антонаўкі. Роздум", "Памяці ветэрана" (прысвячэнне брату — абаронцы Севастопаля), "Памінальная малітва землякам — ахвярам вайны". А створаныя апошнім часам лірычныя і эпічныя пейзажы складваюцца ў калейдаскоп прыгожых мясцін роднай Беларусі, успрымаюцца як песня-прызнанне ў любові да Бацькаўшчыны.

Мастак кажа: "Для мяне акварэльны жывапіс — гэта асноўны сродак для ўвасаблення сваіх задум, сваіх сюжэтаў у шырокім дыяпазоне тэматычных і пластычных ідэй. Я стараюся падпарадкаваць гэтую складаную і капрызлівую тэхніку і рэалістычным сюжэтам, і партрэтам, і пейзажам… Хачу, каб маё натхненне, маё хваляванне, мая любоў да Радзімы ўзбагачалі, праз мае творы ў акварэлі, душы і сэрцы гледачоў, рабілі іх прыгажэйшымі і дабрэйшымі".

***На здымках: Іван Пратасеня "Аўтапартрэт"; "Дарога да возера Лясное"; "Спеюць антонаўкі. Роздум".***

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА

Маладыя выканаўцы з Беларусі ды Расіі выступілі ў канцэрце "Таласы вясны", які адбыўся ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі. У Мінск завіталі артысты Маладзёжнай опернай праграмы Вялікага тэатра Расіі (мастацкі кіраўнік — Дзмітрый Удовін): вакалісты Ангеліна Нікітчанка, Ульяна Аляксюк, Святлана Касьян, Барыс Рудак, а таксама піяніст Кірыла Кузьмін. Нашу краіну прадставілі саліcты-спевакі НАВТ оперы і балета Беларусі Крысценція Стасенка, Ілья Сільчукоў (канцэртмайстар Таццяна Молакава) і лаўрэаты спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі піяніст Аляксандр Музыкантаў, флейтыстка Юлія Шчасновіч, дыпламант міжнародных конкурсаў Надзея Маторная (фартэпіяна). У якасці спецыяльнага госця ў праекце ўдзельнічала народная артыстка СССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР Людміла Чурсіна. Гучалі арыі з опер заходнееўрапейскіх і рускіх кампазітараў, інструментальныя творы П. Чайкоўскага, Г. Гарэлавай. Канцэрт ладзіўся пры падтрымцы Міністэрства культуры нашай краіны, Міністэрства культуры Расійскай Федэрацыі і Міжнароднага культурнага цэнтра (Масква).

Выстаўку творчасці галоўнага мастака Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача Ларысы Рулёвай наладзіў Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі. Аглядаючы экспазіцыю, міжволі прыгадваеш па-творчы разнастайны шлях выпускніцы колішняга БДТМІ (цяпер Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў). Яна была запрошаная на працу ў ансамбль "Харошкі", дзе стваралама адметныя канцэртныя строі, адначасова афармляла спектаклі ТЮГа, потым перайшла працаваць туды ў якасці мастака-пастаноўшчыка і з часам стала галоўным мастаком. Ларыса Рулёва ўзяла ўдзел у падрыхтоўцы больш як 150 спектакляў, яе сцэнаграфія неаднаразова прызнавалася лепшай і атрымлівала ўзнагароды на міжнародных фестывалях і конкурсах. "Маўглі", "Кот у ботах", "Сястра мая Русалачка", "Дарога на Віфлеем" у ТЮГу; "Беласнежка і сем гномаў", "Рамэа і Джульета" на Коласаўскай сцэне; "Жорж Дандэн" у сталіцы Малдовы, "Жанчына ў народным сходзе" ў расійскім МХАТ, работы для тэатраў Украіны і Латвіі... За кожнай назвай — выразны візуальны вобраз тэатральнага твора.

Лаўрэаты міжнародных конкурсаў прадставяць заўтра ў Малой зале сталічнай філармоніі праграму "Цудоўная мандаліна". Творы Ё. С. Баха, Р. Калача, Я. Куважары, К. Фуджы, П.Чаморы, І.Фралова прагучаць у выкананні Сабінэ Марзэ-Вале (мандаліна, Францыя) ды нашых музыкантаў: мандаліністкі Наталлі Корсак, гітарыста Яўгена Грыдзюшкі, піяніста Аркадзя Чубрыка.

На пытанне: "Што новага ў Парыжы, спадар Перлін?.." адкажа аднайменная імпрэза, запланаваная на заўтрашні вечар у Вялікай зале Белдзяржфілармоніі. Яна прысвячаецца юбілею знанага ў міжнародным музычным свеце заслужанага артыста Беларусі, віяланчэліста, педагога, арганізатара і мастацкага кіраўніка Струннага аркестра Рэспубліканскага каледжа пры БДАМ — Уладзіміра Перліна. Сярод удзельнікаў канцэрта — французскія музыканты Жэром Перно, Бруно Філіп (абодва — віяланчэль), Жэром Дзюкро (фартэпіяна), знакаміты малады беларускі віяланчэліст Іван Карызна, сённяшнія вучні класа У. Перліна.

# Акрыленыя музыкай радкі

Сяргей ГАЛОЎКА,
кіраўнік народнага мужчынскага вакальнага ансамбля прафесараў і дацэнтаў БДЭУ, заслужаны работнік культуры Беларусі, прафесар

**Вечар памяці беларускага кампазітара Мар'яна Наско, прымеркаваны да 80-годдзя з дня яго нараджэння, адбыўся ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Кампазітар-лірык, рамантык, ён праявіў сябе найбольш яскрава ў галіне вакальнай музыкі. Высокае майстэрства Мар'яна Наско раскрылася ў патрыятычнай тэме — у песнях пра Беларусь, пра родную зямлю, што і пацвердзіла канцэртная праграма.**

У вечарыне бралі ўдзел вядомыя салісты-прафесіяналы, знакамітыя артысты і калектывы мастацкай самадзейнасці, члены сям'і Наско.

Сярод выканаўцаў — Мужчынскі хор Палаца культуры Мінскага аўтазавода (кіраўнік Антон Літоўка); Жаночы вакальны ансамбль БДУ культуры і мастацтваў (кіраўнік Ірына Грамовіч); жаночы вакальны ансамбль "Элегія" (кіраўнік Валянціна Салаўёва). Рамансы М. Наско "Я не ведаў, хто ты" на вершы М. Танка і "Як я хадзіў да дзяўчыны" на словы Э. Валасевіча праспяваў Уладзімір Курак (партыя фартэпіяна — Наталля Чыжова), а "Восеньскі раманс" на вершы В. Зуёнка — Святлана Даражок (партыя фартэпіяна — Лілія Грыневіч).

Непаўторная аўтарская інтанацыя, уласцівая ўсім творам М. Наско, надае шчырасць такім опусам, як Беларусь любімая на векі", "Беларусь — вяснянка", "Родная зямля" на словы А. Вольскага; "Табе, Беларусь" на словы В. Лукшы; "Родная Беларусь" на тэкст Г. Пятрэнкі, "Беларусь мая сінявокая" на вершы У. Карызны і іншыя.

Як вядома, у Мар'яна Наско два малодшыя браты, Эміль і Станіслаў, — таксама кампазітары, скончылі Беларускую дзяржаўную кансерваторыю. Родам яны з Пастаўшчыны, самабытнага азёрнага краю.

Я ганаруся тым, што быў знаёмы з вядомым, незвычайна таленавітым кампазітарам-самародкам Мар'янам Наско ўжо з таго часу, калі ён, як і я, быў студэнтам Мінскага музычнага вучылішча імя М. І. Глінкі. Сустрэчы ў студэнцкіх аўдыторыях пры яго ўдзеле ўражвалі творчай непаўторнасцю: Мар'ян з незвычайнымі сваімі здольнасцямі як піяніст, а потым і як кампазітар збіраў вакол сябе студэнтаў розных курсаў і зачароўваў новай музыкай.

Між іншым, першая яго песня нарадзілася на словы Якуба Коласа — "Жыве між нас геній". Разам з аўтарам мы выканалі яе на пленуме Саюза кампазітараў БССР. Песня была прынята з невялікімі заўвагамі (прынамсі, наконт вельмі доўгага ўступу). Мар'ян пагадзіўся, але песню сваю не выпраўляў.

Чаму я пішу пра гэта? Таму, што я меў гонар быць першым яе выканаўцам. На працягу многіх дзесяцігоддзяў вядомая песня Мар'яна Наско выконвалася прафесійнымі і самадзейнымі калектывамі краіны. І праз гэты песенны дэбют кампазітар знайшоў сваю дарогу на ўсё жыццё.

# Радзімы лірычны партрэт



(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

Прайшоўшы Кіеўскую школу малявання М. Мурашкі, Маскоўскае вучылішча жывапісу, скульптуры і дойлідства, зведаўшы ўплывы С. Каровіна, В. Паленава, І. Левітана, прычыніўшыся да дзейнасці расійскага Таварыства перасоўных мастацкіх выставак, В. Бялыніцкі-Біруля ў 1918 годзе арганізаваў разам з сябрамі-калегамі Аляксандрам Марававым, Абрамам Архіпавым ды Васілём Раждзественскім Вольныя дзяржаўныя мастацкія майстэрні. Гэтая школа творчасці месцілася на сядзібе "Чайка" (па-савецку — дачы), і тут да 1921 года ладзіліся заняткі для мясцовых юных талентаў. Потым, падхоплены ветрам імклівых татальных перамен, В. Бялыніцкі-Біруля пачаў падарожнічаць па Савецкім Саюзе, з уласцівым яму лірызмам адлюстроўваючы на палатне матывы новага і незвычайнага: будаўніцтва саўгасаў, прамысловых гігантаў, жыцця вясковай камуны і працаўнікоў Запаляр'я. У час Вялікай Айчыннай вайны ён шукаў уласны падыход да патрыятычнай тэмы, маляваў драўляныя шэдэўры рускага культавага дойлідства, суровы і аптымістычны стан прыроды. Не абмінаў ён у сваёй пейзажнай творчасці памятныя мясціны, звязаныя з жыццём вядомых асоб: Л. Талстога, А. Пушкіна, П. Чайкоўскага, У. Леніна... З неадменным натхненнем апяваў у фарбах "Чайку" над возерам Удомля. І праз усё жыццё гэты нястомны мастак, народжаны ў містычны дзень апошняга зімовага месяца, пранёс асаблівае захапленне светлым вобразам вясны. Нават назву адной з яго самых апошніх работ, датаваных 1957 годам, поўніць радасны дух: "Вясна ідзе".

Своеасаблівым мастацкім сімвалам някідкага беларускага краявіда, выразнікам тыповага нацыянальнага стылю і візіткай пейзажнага жывапісу В. Бялыніцкага-Бірулі нярэдка лічаць яго "Зімовы сон". Пяшчотны блакітна-шэрабэзавы каларыт ціхай месяцавай ночы; самотны храм на заснежаным пагорку; застылае галлё танкаствольных дрэваў... Хрэстаматыйная для сённяшніх знаўцаў мастацтва карціна была створана ў 1911 г. і праз год адзначана бронзавым медалём на міжнароднай выстаўцы ў Барселоне. І гэты медаль, і многія ўнікальныя асабістыя рэчы Вітольда Каятанавіча, сярод якіх мастакоўскія прылады, фотаздымкі, дакументальныя матэрыялы, лісты ад І. Рэпіна, захоўваюцца ў Музеі В.К.Бялыніцкага-Бірулі ў Магілёве.



Двухпавярховы асабняк, архітэктурны помнік, узведзены тут тры стагоддзі таму, стаў салідным захавальнікам дыхтоўнага мастацка-мемарыяльнага збору і своеасаблівай заменай дома-музея, які мог бы паўстаць у Крынках, калі б там ацалела роднае гняздо мастака. У магілёўскай скарбніцы ёсць і ладная калекцыя яго твораў — больш як сотня: закончаныя палотны, мініяцюрныя замалёўкі. Каля трыццаці яго работ захоўваецца ў Бялыніцкім раённым мастацкім музеі, якому нададзена імя знакамітага земляка. Іх адметна дапаўняюць работы з традыцыйных міжнародных і раённых пленэраў "Вобраз Радзімы ў выяўленчым мастацтве", прысвечаных памяці В. К. Бялыніцкага-Бірулі. Значную долю яго творчай спадчыны — каля 460 палотнаў з тысячы ўлічаных — мае Нацыянальны мастацкі музей Беларусі. Іх збірала незабыўны дырэктар галоўнай мастацкай скарбніцы краіны Алена Аладава. Большую частку гэтай калекцыі яна набыла пасля смерці мастака, у яго ўдавы. Алена Аляксееўна Бялыніцкая-Біруля зрабіла і неацэнны падарунак беларусам, перадаўшы многія рэчы з удомельскай сядзібы-майстэрні Вітольда Каятанавіча, дакументы і фота з хатняга архіва, што склалі аснову мемарыяльнай экспазіцыі музея ў Магілёве.

А жывапісныя выявы самога мастака, партрэты яго сямейнікаў? Гэта асобная, афарбаваная эстэтычнымі ўражаннямі, дадатковымі эмоцыямі, старонка ўспамінаў! Ёсць на гэтай старонцы адметнае імя: Аляксандр Мараваў. Ураджэнец Украіны, малады мастак, ён у 1902 г. упершыню прыехаў пісаць карціны ў Гарусава — маёнтак Н. Аракчэевай — ды суседнія вёскі ў наваколлі возера Удомля. Там, на цвярской зямлі, зблізіўся з В. Бялыніцкім-Бірулем. Напісаў яго партрэт і карціну "Сябры", на якой увасобіў дачку сябра Любачку: тая прысела на канапу разам з сабакам. У 1918 — 1921 гадах, як тут ужо гаварылася, А. Маравaў з В.Бялыніцкім-Бірулем, А.Архіпавым ды В.Раждзественскім удзельнічаў у арганізацыі Вольных дзяржаўных мастацкіх майстэрняў на дачы "Чайка" і выкладаў там.

Партрэт В. Бялыніцкага-Бірулі, створаны А.Марававым, экспанаваўся залетась на вялікай рэтраспектыўнай выстаўцы твораў з калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі — у суседстве з некалькімі работамі нашага класіка. Але ж каб убачыць пейзажы беларускага майстра, не трэба чакаць юбілейных нагод. Яго творы прадстаўлены ў пастаяннай экспазіцыі "Мастацтва Беларусі XIX — першай чвэрці XX стагоддзя". Вядома, гэта малая частка творчай спадчыны В.Бялыніцкага-Бірулі, але яна яскрава люструе радкі з ненадрукаваных успамінаў Вітольда Каятанавіча: "Маё жыццё з дзяцінства заўсёды звязана з прыродай. У ёй і з ёю я бачыў сэнс жыцця". А ў яго шчырых пранікнёных пейзажах — лірычны партрэт незабытай радзімы...

***На здымках: Вітольд Бялыніцкі-Біруля "Вясной павеяла" (палатно на кардоне, алей, 1945); жывапісны партрэт майстра, створаны Аляксандрам Марававым (палатно, алей, 1908).***

***Фота аўтара***

# Аншлаг па-заслаўску

**Упершыню гэтае свята прыйшло на заслаўскую зямлю ў пачатку 2001 года і сталася першым беларускім фестывалем новага тысячагоддзя. Цяпер музычна-асветніцкі фэст, які ладзіцца ў Заслаўі Нацыянальным акадэмічным канцэртным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам яго маэстра Міхаіла Фінберга пры падтрымцы мясцовых, мінскіх абласных і раённых улад, — штогадовы праект, папулярны ў месцічаў і неад'емны ад іх жыцця. Сёлетняе свята музыкі "Заслаўе-2012" адкрыла знамянальны для аркестра год (заслужаны калектыў адзначае свае 25). Адметнай атрымалася і праграма насычанага падзеямі фестывальнага дня.**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота Віктара Кавалёва**

**Няўжо гэтак бывае?** Раніца, школа — і аншлаг! Так, для Заслаўскай дзіцячай школы мастацтваў — гэта фестывальная традыцыя. У межах свята тут зноў ладзіўся конкурс навучэнцаў ДМШ Міншчыны "Заслаўскі сшытак" — спаборніцтва на лепшае выкананне беларускага інструментальнага твора. Хваляваліся дзеці, педагогі, бацькі: з Клецка, Стоўбцаў, Барысава, Маладзечна, Фаніпаля, Мар'інай Горкі, Мачулішчаў, Салігорска, Лошніцы, Слуцка... Самыя працавітыя і таленавітыя выйшлі ў пераможцы або атрымалі дыпломы 2-й і 3-й ступеней. Задача, вядома, не ў тым, каб яны сталі прафесійнымі музыкантамі. Усе канкурсанты разам з педагогамі ўжо дасягнулі галоўнага: яны паспяхова і натхнёна выконваюць беларускі рэпертуар. Калі такая неабыякавасць юных выканаўцаў да сваёй нацыянальнай інтанацыі, да роднага гукасвету будзе заахвочвацца і падтрымлівацца надалей, гэта паспрыяе не толькі росквіту агульнай музычнай культуры ў Беларусі, але і выхаванню высокадухоўных патрыётаў, адукаванай моладзі. Падсумоўваючы вынікі спаборніцтва, мастацкі кіраўнік фестывалю М.Фінберг падзякаваў настаўнікам усіх школ-удзельніц за вялікую шчырую працу, вельмі важную для будучыні нашай краіны, і асобна адзначыў дырэктара Заслаўскай ДШМ Валерыя Шкурскага, які разам са сваім таленавітым педагагічным калектывам стварыў на фестывалі сапраўды цёплую творчую атмасферу.





**З праграмай** беларускай музыкі XX ст. выступіў Ансамбль флейтыстаў Нацыянальнага канцэртнага аркестра. Пра беларускую музычную спадчыну распавяла навуковы кіраўнік фестывалю Вольга Дадзіёмава. Адкрылася мастацкая выстаўка, якая таксама выклікала аншлаг і нават вясёлы ажыятаж у школьным вестыбюлі... І надышоў час цэнтральнай імпрэзы свята — канцэрта пад рубрыкай "Выдатныя ўзоры беларускай сімфанічнай музыкі XX стагоддзя". Гэта была прэм'ера і прысвячалася яна 100-годдзю з дня нараджэння заслужанага дзеяча мастацтваў БССР кампазітара Льва Абеліёвіча. У другой палове мінулага стагоддзя яго камерная і сімфанічная музыка часта выконвалася ў філармоніі, гучала ў радыёканцэртах. Кампазітара ведалі ў твар не толькі калегі. На яго пачціва глядзелі многія музыканты: светлы розум, разнабаковыя веды, выдатная адукацыя, строгія прафесійныя крытэры, жыццёвая мудрасць, добрае сэрца... Ураджэнца Вільні, варшаўскага студэнта Л. Абеліёвіча ад гітлераўскага генацыду на пачатку Другой сусветнай вайны ўратавала Беларусь, куды ён трапіў у 1939-м, пераправіўшыся праз польска-савецкую мяжу. Тут працягваў адукацыю, быў мабілізаваны ў войска, пасля вайны актыўна займаўся творчасцю.



На жаль, 100-годдзе з дня нараджэння майстра не мела розгаласу ў музычным жыцці сталіцы. Толькі "малая філармонія" пад кіраўніцтвам М. Фінберга парупілася пра юбілейную манаграфічную праграму. З густам складзеная, дынамічная, яна ўпрыгожыла заслаўскі фэст. Музыка Л. Абеліёвіча, напісаная для розных выканальніцкіх складаў, набыла новае жыццё, свежую тэмбравую афарбоўку праз далікатную працу аранжыроўшчыкаў Г. Гедыльтара, Г. Забары, А. Шпянёва. Ансамбль кларнетыстаў уразіў вытанчаным пункцірам "Гавота", густымі арганнымі абертонамі мініяцюрнай "Арыі", жанравай скарамоўкай "Фугі". Флейтысты — поліфанічнымі карункамі "Скерца". Трубачы — неўтаймоўнай гарэзлівасцю іскрынак "Танца". Струнны аркестр — па-тэатральнаму выразнай вобразнасцю некалькіх канцэртных п'ес, дзе вылучалася сола першай скрыпкі Святланы Іванюковіч.

Фэст "Заслаўе-2012" завяршыўся вялікім святочным канцэртам пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. У выкананні Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра і яго салістаў гучалі папулярныя эстрадныя песні. І зноў — аншлаг.

***На здымках: артыст Струннага аркестра, кантрабасіст-віртуоз Дзмітрый Саўчык; ансамбль трубачоў "Інтрада".***



# Кожны разумее па-свойму

## Руская класіка на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага

**Наша сталічная публіка дзякуючы мэтанакіраванай творчасці тэатра імя М. Горкага ўсё часцей "перачытвае" рускую класіку. За апошняе дзесяцігоддзе тут з'явіліся спектаклі паводле твораў М. Горкага , А. Пушкіна, А. Чэхава, М. Гогаля, А. Грыбаедава, М. Булгакава, Ф. Дастаеўскага, П. Грыгор'ева, П. Фёдарава.**

**Кацярына ВАРОНІНА,**
**фота Аляксандра Дзмітрыева**

"Дзядзечкаў сон" Ф. Дастаеўскага належыць да лепшых сатырыка-выкрывальных твораў рускай і сусветнай літаратуры XIX стагоддзя. Яго пастаноўка ў рэжысуры М. Абрамава вызначылася кампактнасцю кампазіцыі, імклівым развіццём падзей, завостранасцю сюжэтных сітуацый і разнастайнасцю сцэнічных характарыстык дзейных асоб, і гэта ўсё было зарукай глядацкага поспеху. Аднак прыхаваныя рэзервы зместу аповесці, стылістычныя асаблівасці не атрымалі пераканаўчага раскрыцця. Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага вялікую ўвагу адводзіў у сваім спектаклі акцёрскай ігры. Дарэчы, яго прэм'ера была прымеркавана да юбілею Вольгі Клебановіч, і менавіта гэтая актрыса "злавіла галоўны нерв вобраза — захапленне барацьбой, д'ябальская энергія, "уладалюбівы" дух. Князь (артыст А. Ткачонак) шчыра спрабуе рассмяшыць гледача, трактуе сваю ролю як вадэвільную. Сарыентаваны на вадэвіль, відаць, быў і сам рэжысёр, таму драматычнае зерне літаратурнай першакрыніцы засталося за межамі спектакля.

Адметны зварот тэатра да творчасці М. Гогаля адбыўся ў 2009 г., калі адзначалася 200-годдзе з дня нараджэння класіка. Рэжысёр В. Еранькова ўвасобіла пастаноўку камедыі "Жаніцьба", засярodзіўшыся на распрацоўцы непаўторных характараў персанажаў, выводзячы на сцэну чараду непаўторных мужчынскіх вобразаў — жаніхоў — і скарыстоўваючы адпаведны варыянт аўтарскай назвы: "Жаніх".

Актуальным у кантэксце сучаснага жыцця з'яўляецца сатырычная камедыя ў 2-х дзеях "Вяселле Крачынскага" паводле п'есы А. Сухаво-Кабыліна (рэжысёр М. Кавальчык). Дом галоўнага героя Крачынскага (А.Ткачонак) — гэта арандаваны пакой, у якім ёсць толькі гола-бедны ложак, дзве вешалкі, два чамаданы. Відавочная прыкмета пастаянных пераездаў гаспадара, якім кіруе хітры разлік і ў галаве якога толькі клопат пра асабістую выгаду, дзеля якой ён не пагрэбаваў бы становішчам альфонса. Падчас размовы Крачынскага з хаўруснікам Расплюевым (У. Шэлестаў) гадзіннікавы механізм на задніку сцэны, успрымаецца сімвалічным напамінам пра тое, як звязаны грошы і час. І зноў прага да нажывы, да асабістага ўзбагачэння. Яшчэ адзін сцэнаграфічны атрыбутсімвал — карты. Галоўны герой — Гулец з вялікай літары — успрымаецца абсалютна сучасным персанажам: такія фанатычныя людзі, якія страчваюць розум у азартнай гульні, у сённяшнім жыцці — не рэдкасць.

"Эўрыка!" — радасна крычыць Крачынскі. Значыць, ён знайшоў выйсце са свайго крэдытнага тупіку і, як заўсёды, — за кошт іншага. Ізноў добры настрой у галоўнага героя спектакля, ізноў запрацаваў гадзіннікавы механізм, ізноў хлусня, крывадушнасць…



Сапраўдны тэатральны падарунак пры канцы 2011 года зрабіў публіцы рэжысёр С. Кавальчык. Упершыню на горкаўскай сцэне ён паставіў "камедыю ў вершах" — хрэстаматыйны твор "Гора ад розуму" А. Грыбаедава. Адпаведна класіку, у спектаклі вытрымана адзінства дзеяння, у цэнтры якога — любоўны трохкутнік: Чацкі — Соф'я — Малчалін. З першага акта спектакля ўвага гледача скіроўваецца на Чацкага. Акцёр-дэбютант А. Бельскі ў ролі Чацкага выпісвае "выкрунтасы і крэндзелі" на сцэне: герой малады, яркі, напоўнены жыццёвай энергіяй, добрымі эмоцыямі і жаданнямі. Але каханая Соф'я (І. Савянкова) вельмі халодна сустракае Аляксандра Андрэевіча. Галоўны герой пачынае шукаць прычыну такіх неспадзявана халодных адносін да сябе. Зацягнутасць і нават панылаcць дзеяння ў першым акце можна растлумачыць хіба што павагай рэжысёра-пастаноўшчыка да тэксту А. Грыбаедава. Ажыўляе відовішча толькі Чацкі.

Другі ж акт напоўнены перажываннямі і чаканнямі, каханнем і слязьмі, падманам і плёткамі. На балі ў палацы Паўла Апанасавіча Фамусава (Р. Янкоўскі) з'яўляецца мноства разнапланавых персанажаў. Кожны цікавы і ўнікальны сваім характарам. Графіня бабуля Хруміна (Н. Чамадурава) ціхенька займаецца сваёй справай і абсалютна не чуе навакольнага смеху і плётак. Смешны і прыдуркаваты стары князь Тугавухаўскі (А. Дударэнка). Вобраз мажны, упэўнены у сабе графіні Хлёставай стварае В. Клебановіч. Запамінальныя шасцёра маладых князёўн — гарэзлівых і жыццярадасных. Пачуццёва і мілагучна выконвае, на захапленне ўсім гасцям дома Фамусавых і на карысць уласнай рэпутацыі, свой раманс Малчалін (У. Глотаў).

Аднак спакваля ў вясёлую атмасферу ўторгваюцца звады і непаразуменне. Чутка пра вар'яцтва Чацкага кожным успрымаецца як рэальнасць. Красамоўства яго маналогаў яшчэ больш уводзіць у зман усіх навакольных, з якіх ніхто не хоча бачыць праўды.

Дзеянне спектакля заканчваецца каля дома Фамусавых. Але галоўны герой пастаноўкі не пакідае Маскву, у адрозненне ад персанажа камедыі А. Грыбаедава. Рэжысёр С. Кавальчык свядома выводзіць сваіх герояў на дарогу. Гэта наводзіць гледачоў на роздум. Здаецца, што асноўная ўвага ў спектаклі накіраваная на тэму кахання, а не на сацыяльныя аспекты, якімі вызначаецца твор А. Грыбаедава. Што ж, актуальнасць класікі кожны можа разумець і трактаваць па-свойму.

***На здымках: сцэны са спектакляў "Гора ад розуму" і "Вяселле Крачынскага".***

# Самы вялікі энтузіяст

**Пайшоў у іншы свет Мікола Фёдаравіч Макарцоў. Пражыў 63 гады і 22 дні. Было ў яго ненатольнае жаданне працаваць, тварыць, але не вытрымала сэрца.**



Рэжысёр, кіраўнік-арганізатар, фалькларыст, Мікола — так яго ў вочы і за вочы звалі — заняў у беларускай культуры немалое і вельмі адметнае месца. Была агромністая цяга да ўсяго народнага. Найперш у творах Янкі Купалы і Якуба Коласа знаходзіў адпаведныя свайму пошуку сітуацыі, вобразы і ўвасабляў іх на сцэне. Дасягненнем сталася і арганізацыя народнага тэатра "Жалейка", які даўёў да прафесійнага ўзроўню. Створаны на гэтай аснове тэатр праіснаваў нядоўга, адно прамільгнуў знічкай на небасхіле, але пакінуў яркі след. Своеасаблівa збіраў Мікола фальклорнае мастацтва па палескіх вёсках, накіроўваўся да бабулек — носьбітаў і захавальніц народнага, традыцыйнага. Сам сялянскі хлопец, звыклы да рознай працы, Мікола адной бабульцы скосіць паўмежак, другой насячэ дроў, трэцяй яшчэ чым дапаможа. І яны перад такім свойскім чалавекам раскрываліся, расказвалі і тэатральна паказвалі тое, як было раней. А Мікола запамінаў, запісваў, каб потым увасобіць у літаратурных і сцэнічных творах. Гэта дзеялася да чарнобыльскай катастрофы, пасля якой пазнікалі тыя вёскі.

Калі надышоў час аднаўлення, надання новага жыцця традыцыйным народным святам, Мікола Макарцоў быў у шэрагу першых і самым вялікім энтузіястам. Арганізоўваў і ставіў тураўскае ды іншыя Купаллі, "Гуканне вясны" ў Жыткавічах, "Гасціны Галубка" ў Баранавічах. Адметная якасць створаных ім імпрэз тая, што шматмерны вобраз беларуса паказваўся ў святочных абставінах. Адна з самых значных пастановак паводле ўласнай сцэнізацыі так і называецца: "Беларус гуляе". Людзі жартавалі, уволю весяліліся. І нікому іншаму ў такой меры, як Міколу, не ўдалося ўвасобіць вобраз беларуса ў святочную часіну.

Усё адно як адчуваючы хуткаплыннасць жыцця, Мікола Макарцоў спяшаўся. Ва ўсім. І многае паспеў ахапіць, здзейсніць. Дзякуючы яму вобраз беларуса ўспрымаецца сёння істотна багацейшым.

**Анатоль САБАЛЕЎСКІ**

## У святле рампы

• 16 сакавіка на сцэне Рэспубліканскага Палаца культуры прафсаюзаў адбудзецца прэм'ерны паказ спектакля Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы "Людзі на балоце" па творах Івана Мележа. Дзве першыя часткі з палескай хронікі на сцэне ўвасобіў рэжысёр і аўтар інсцэніроўкі Аляксандр Гарцуеў. У 1966 годзе Васіль і Ганна ўжо выходзілі на Купалаўскую сцэну (спектакль "Людзі на балоце", рэжысёр Барыс Эрын). У новай інсцэніроўцы рэжысёр звярнуў увагу не на сацыяльныя супярэчнасці, а на адносіны ў трохкутніку закаханых.

• Беларускага драматурга Паўла Пражко, які не так даўно ўвайшоў у шорт-ліст "Конкурсу конкурсаў" Расійскай нацыянальнай тэатральнай прэміі і фестывалю "Залатая маска" з тэкстам "Злая дзяўчына", паставяць у Магілёўскім абласным драматычным тэатры. Рэжысёр Кацярына Аверкава пазнаёміць гледачоў з іншай п'есай Паўла Пражко — "Гаспадар кавярні". Прэм'ера спектакля адбудзецца 23 сакавіка падчас VII Міжнароднага маладзёжнага тэатральнага форуму «M.art.кантакт».

• Спектакль "Пікавая дама" Гродзенскага абласнога тэатра лялек скарыў гледачоў XIX Усерасійскага Пушкінскага тэатральнага фестывалю, які прайшоў у Пскоўскай вобласці Расіі. З-за вялікай колькасці тых, хто жадаў паглядзець спектакль рэжысёра Алега Жугжды, у якім на сцэне адначасова дзейнічаюць і людзі, і марыянеткі, яго давялося іграць двойчы.

• 10 сакавіка ў Канцэртнай зале "Віцебск" адбудзецца юбілейны канцэрт Народнага тэатра-студыі сучаснай харэаграфіі пад кіраўніцтвам Дзіяны Юрчанкі. У праграме — аднаактовыя балеты "Тэрыторыя сну", "Пераклад", "Падарожныя нататкі".

• З 27 лютага па 4 сакавіка Інстытут імя Гётэ ў Мінску і Цэнтр беларускай драматургіі праводзяць серыю сцэнічных чытанняў сучаснай нямецкамоўнай драматургіі. На працягу тыдня акцёры і рэжысёры прачытаюць сем п'ес, што былі надрукаваны ў традыцыйным зборніку "ШАГ-4", выдадзеным Інстытутам імя Гётэ. Пасля чытак плануецца наладзіць адкрытае абмеркаванне.

**Дзмітрый ХВОЙНЫ**

# Вершы прыходзяць самі

**Не так даўно членам Саюза пісьменнікаў Беларусі стала дваццацідвухгадовая магілёўская паэтка Вольга Малянкова-Куляшова. Наколькі адказна гэта: быць афіцыйна далучанай да прафесіяналаў у такім маладым узросце? У што верыць і на што спадзяецца маладое пакаленне нашай літаратуры? Мы выврашылі спытацца пра гэта ў самой Вольгі.**

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Кастуся Дробава

— Калі атрымоўвала членскі білет з рук старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца, надта хвалявалася, — распавядае яна. — У тым асяроддзі, у якім я жыву, вершы людзі практычна не чытаюць. І нават мае знаёмыя, якім я дарыла сваю дэбютную кнігу паэзіі "Пяро і порах", здаецца, не надта разумеюць, навошта я пішу. А я пішу таму, што не пісаць не магу. Вершы прыходзяць самі, калі задумваюся пра жыццё, пра наканаванне чалавека, пра яго месца на зямлі. Ужо ў сем гадоў я рыфмавала радкі. Але пасля быў пэўны перапынак. Штосьці нібыта выспявала, каб у пятнаццаць гадоў раптам выліцца ў паэзію…

Пералічваючы тэмы, яна не называе самую, здаецца, плённую для паэтаў, вечную тэму кахання. Не хвалюе? Не натхняе? Не сустрэла ў жыцці?

— Хвалюе, натхняе. Шчаслівa выйшла замуж. Муж падзяляе мае захапленні, разумее паэзію. І яму падабаецца тое, што я пішу.

**— Не раўнуе да творчых поспехаў?**

— Ды ён сам чалавек творчы, добра малюе. І, дарэчы, зрабіў афармленне маёй другой кнігі — яна павінна выйсці ў гэтым годзе.

**— Дык як жа з вершамі пра каханне?**

— Каханне — гэта асабістае. Абмяркоўваць хочацца іншае.

**— Абмяркоўваць з кім? Якім вы ўяўляеце свайго чытача?**

— Хацелася б, каб гэта была моладзь. Але, здаецца, моладзь у наш час надта аддалілася ад літаратуры. Больш прагматычнай, ці што, стала. Ва ўсялякім разе, гэтак уяўляецца ў Магілёве. Можа, у Мінску інакш? Больш студэнтаў, больш цэнтраў культуры, іншы менталітэт, сталічны. Не ведаю…

І пасля ўсхваляванай паўзы Вольга дадае:

— Крылаў сёння маладым не хапае. Пра зямное думаюць, у жыцці імкнуцца стабільна ўладкавацца. А тое, што чалавеку проста неабходна іншы раз узляцець, узняцца над сабой, забываюць…

Мы гутарым пра літаратуру наогул. Высвятляецца, што, нядрэнна арыентуючыся ў беларускай класіцы, Вольга адчувае недастатковасць ведаў пра сучасных творцаў.

— Мае любімыя паэты — Ганна Ахматава, Юлія Друніна, Эдуард Асадаў, — распавядае яна. — Іх паэзіяй захаплялася з дзяцінства, на іх словы хацелася раўняцца. Але ж іх кнігі былі ў свой час паўсюль. Для таго ж, каб паглыбіцца ў сучасную беларускую літаратуру, трэба рабіць вялікія намаганні ў пошуку інфармацыі пра яе. І не ў кожнай бібліятэцы маладому чалавеку параяць вершы беларускага аўтара. Але цяпер мне і самой надта цікава даведацца, што ж пішуць старэйшыя калегі па Саюзе пісьменнікаў.

Пра Вольгу гавораць: яна ўпартая. І яшчэ: яна правільная. Яна імкнецца да ведаў і да здзяйснення мары. Скончыла Магілёўскі бібліятэчны каледж імя А.С.Пушкіна, цяпер вучыцца ў Мінску ў Інстытуце парламентарызму і прадпрымальніцтва на дакументазнаўцу. І адначасова — паслядоўна ідзе па сцяжыне, якую намеціла для сябе ў літаратуры.

— Вы ведаеце, гэта не мы знайшлі Вольгу. Гэта яна прыйшла да нас. Сама, — кажа старшыня



Магілёўскай абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Дуктаў. — Актыўная, яркая, яна прымусіла загаварыць пра сябе пасля ўдзелу ў літаратурных конкурсах — імя Канстанціна Сіманава і абласным паэтычным. Потым прынесла свае вершы да нас. Мы пабачылі, што гэта сапраўды таленавіта і гэта можа быць ужо нават кніга, дапамаглі з рэдагаваннем. А хутка будзем віншаваць ужо з другім асабістым зборнікам паэзіі. Калі б кожны з юных талентаў так ярка пазіцыяніраваў сябе і так мэтанакіравана ішоў у літаратуру, наша літаратура ўжо была б зусім іншай — больш яркай, свежай, маладой.

# Талент не схаваеш!

**Творцы былі, ёсць і будуць нараджацца на свет, дзякуючы чаму наша літаратура не стаіць на месцы. Пры Гомельскім Палацы творчасці дзяцей і моладзі была створана і паспяхова працуе школа-студыя "Малады літаратар".**

Ала ДАРАШЭНКА

Кіруе школай паэтэса, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Ніна Шклярава. Ідэяй пра стварэнне школы-студыі Ніна Нічыпараўна падзялілася спачатку з Ліліяй Буланавай (у той жа час дырэктар Славянскай спецыялізаванай бібліятэкі). Затым на першым з'ездзе пісьменнікаў Беларусі ў 2006 годзе — з Уладзімірам Гаўрыловічам. Падтрымаў ідэю і старшыня гомельскага абласнога савета дэпутатаў Валерый Сяліцкі. У 2009 годзе школу "Малады літаратар" узяў пад сваё крыло Гомельскі абласны Палац творчасці дзяцей і моладзі, а затым Гомельскі абласны цэнтр турызму і краязнаўства. Цяпер у школу ўваходзяць два гурткі: "Малады літаратар" і "Літаратурнае краязнаўства". Тут праводзяць майстар-класы паэт, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Іван Бісеў (аўтар зборнікаў "Мгновения и звуки", "Время странствий"). Гэта ён заснаваў серыю "АЗ — першая кніга паэта", у якой надрукаваліся Іна Спасібіна, Дар'я Дарошка, Уладзімір Чараухін.

У 2010 годзе ў школе пры падтрымцы паэта Валерыя Вятошкіна была распачата яшчэ адна серыя — "Бібліятэчка школы-студыі "Малады літаратар". Першыя кнігі, якія выйшлі ў гэтай серыі: зборнік лірыкі "Парасон" Стасі Кацюргінай і проза "Время Дракона" Сяргея Прывалава. Дарэчы, кніга "Время Дракона" складаецца з аповесцей Сяргея на рускай мове, перакладаў на беларускую Ганны Новік і Марыі Булавінскай. Секцыя перакладу ў школе таксама працуе досыць актыўна. У выдавецтве "Ковчег" рыхтуюцца да друку кнігі Фёдара Бусела, Святланы Герасіменкі, Наталлі Царанковай, Іны Спасібінай. А гэта значыць, што бібліятэчка школы "Малады літаратар" хутка папоўніцца новымі асобнікамі.

Імёны некаторых вучняў школы ўжо добра вядомыя ў творчым і чытацкім асяродку. Напрыклад, Марыя Маліноўская — таленавітая дзяўчына, якая ў 15 год выдала зборнік вершаў "Луны Печали". Цяпер у выдавецтве "Молодая гвардия" ў Расіі выйшаў зборнік "Под прозрачной рукой". Зноў жа, у выдавецтве "Мастацкая літаратура" рыхтуецца да друку трэці зборнік Марыі. Акрамя таго, нядаўна чытачы змаглі пазнаёміцца з вершамі Марыі Маліноўскай на беларускай мове ў перакладах паэтэсы Ніны Шклярavай. Восенню 2011 года Марыя стала пераможцай у намінацыі "Паэзія" XV Міжнароднага расійскага конкурсу "Сузор'е талентаў" у Пецярбургу.

Ганарыцца школа-студыя "Малады літаратар" і такімі зоркамі, як Алесь Бараноўскі і Іна Спасібіна. Алесь Бараноўскі, аўтар зборнікаў "Чуйнае акно", "Вясляр", "За прамень схаплюся — і жыву", вучыцца ў аспірантуры і таксама з'яўляецца кіраўніком школы.

У 2010 годзе ў серыі "Аз" выйшла першая кніга паэзіі Іны Спасібінай "Обереги", рыхтуецца да друку новыя зборнікі, у тым ліку і для дзяцей. Паэтэса з'яўляецца пераможцай шматлікіх літаратурных конкурсаў, слэмаў. Навучаюцца ў літаратурнай творчай майстэрні і Стася Кацюргіна, Яўген Малевіч, Ганна Новік, Сяргей Прывалаў, Фёдар Бусел, Марына Башурава. Акрамя паэзіі і прозы ў школе можна атрымаць журналісцкія навыкі.

Літаратурная школа — гэта шанс паказаць сябе і распачаць творчы шлях. А пра новыя поспехі нашых вучняў мы будзем распавядаць на старонках "ЛіМа".

# У маладых фантастаў дзень нараджэння

Кацярына ВОЙНІКАВА

**За карыснымі справамі і пры адданым да іх стаўленні час праносіцца імкліва. Неяк незаўважна мінуў год, як было створана моладзевае аддзяленне секцыі "Прыгоды і фантастыка" Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

За першыя дванаццаць месяцаў маладыя творцы паспелі, напэўна, не ўсё, што планавалі, але і шэраг здзейсненага ёсць рэчы, якія варта ўзгадаць. У першую чаргу выпрацаваны фармат правядзення сустрэч. Зроблена гэта было такім чынам, каб кожны змог вынайсці для сябе штосьці цікавае і карыснае. На рэгулярных сходах абмяркоўваліся і дэталёва аналізаваліся творы фантастаў-пачаткоўцаў з мэтай удасканалення і развіцця мастацкага майстэрства. Час ад часу да дыялогу запрашаліся ўжо сталыя ў сэнсе творчага вопыту пісьменнікі. Размовы паміж старэйшым і малодшым пакаленнямі выявілі, што агульных рыс у іх нашмат больш, чым адрозненняў.

Акрамя пастаянных сустрэч у сценах Саюза пісьменнікаў, маладыя фантасты распачалі і самастойную дзейнасць, накіраваную на забаўлянне чытача. Быў створаны і ўжо амаль паўгода паспяхова працуе літаратурны партал "Новыя імёны", які можна знайсці па адрасе **http://fantastics.org.** Сайт існуе дзякуючы энтузіязму суполкі аўтараў і асабліва К. Васільевай, С. Лазюк і В. Шаўцовай. На яго старонках штодзённа з'яўляюцца новыя творы маладых беларускіх пісьменнікаў, рэцэнзіі на кнігі і фільмы, навіны кнігавыдавецтва і іншая цікавая інфармацыя. Асноўная мэта праекта — аб'яднаць літаратурны свет Беларусі і адкрыць яго для чытачоў.

У рамках працы гэтага інтэрнэт-рэсурсу быў паспяхова праведзены конкурс "Зваротная візуалізацыя", удзельнікам якога прапаноўвалася напісаць невялікія апавяданні па шэрагу малюнкаў. Падарункамі пераможцам і найбольш актыўным чытачам конкурсных твораў сталі кнігі Ц. Скарэнкі, В. Грамыкі, У. Кулічэнкі, Я. Дразда і А. Сілецкага з памятнымі подпісамі аўтараў. І арганізатары, і ўдзельнікі конкурсу ў адзін голас адзначаюць, што такі вопыт быў не толькі карысным, але і даволі цікавым. Першае месца на конкурсе заняла А. Поклад з апавяданнем "Той, хто жыве пад ложкам", другое і трэцяе — А. Болатаў ("Гары") і Ю. Калашнік ("Пад маскай анёла"). Пазнаёміцца з конкурснымі работамі можна на сайце "Новыя імёны".

Падчас апошняга сходу моладзевага аддзялення было вырашана пачаць цеснае супрацоўніцтва з парталам **www.litkritika.by**, заснавальнік якога, Аляксандр Новікаў, прысутнічаў шэраг удзельнікаў сустрэчы ў якасці госця.

Вялікі дзякуй трэба сказаць ад імя пачынаючых фантастаў беларускім пісьменнікам Уладзіміру Кулічэнку, Аляксандру Эйпуру і Яўгену Дразду за тое, што паверылі ў моладзь, за іх увагу, сілы і час.

# «Новая гульня» маладзечанцаў

Аксана КАМІНСКАЯ

**Маладзечна… Мой родны гарадок. Невялікі, правінцыяльны, як сказалі б некаторыя. Але… Усё тут прасякнута творчасцю. Выдатная інструментальная музыка і спевы з расчыненых вокнаў музычнага вучылішча імя Агінскага, цікавыя дыскусіі на пасяджэннях мясцовых літаб'яднанняў, арыгінальныя імпрэзы ў залах Палаца культуры… Тут, у маім Маладзечне, проста немагчыма не тварыць.**

Таму невыпадкова, што менавіта тут пад уздзеяннем такой спрыяльнай аўры з'явіўся музычны гурт "Новая гульня". Пачынальнікам і нястомным кіраўніком праекта з'яўляецца маладзечанец Віталь Качаткоў — цікавы чалавек, бацька траіх дзяцей і, як ні дзіўна… бізнесмен і майстар спорту па шахматах. Нягледзячы на свае "празаічныя" заняткі, пісаць музыку Віталь пачаў яшчэ ў часы вучобы ў маладзечанскай дзіцячай музычнай школе. Пасля было мясцовае музычнае вучылішча па класе трубы, потым — служба ва Узорным ваенным аркестры, вучоба ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў. На працягу ўсяго гэтага часу пісалася музыка. Некаторыя рэчы захоўваліся, а нешта і гублялася.

Амаль у 40 год Віталь вырашыў больш сур'ёзна заняцца музыкай, і менавіта песеннай творчасцю. Знайшліся добрыя музыканты Сяргей Башко, Сяргей Урбановіч, Аляксандр Усовіч. Спяваць Віталь вырашыў сам, а жаночы вакал у групе забяспечыла Алеся Кульша. Справа была толькі за паэтам-песеннікам. Да вырашэння гэтага пытання Віталь падышоў вельмі своеасабліва: даў адпаведную аб'яву ў мясцовую газету. Уяўляеце? Сярод звычайных "патрабуюцца цырульнікі-прадаўцы-будаўнікі" раптам з'явілася аб'ява "Шукаю паэта-песенніка". Пасля было шмат тэлефонных званкоў ад мясцовых паэтаў, што яшчэ раз даказвае, які творчы наш гарадок. Патэлефанавала маладзечанская паэтка Аксана Ярашонак, чые вершы неаднаразова друкаваліся ў мясцовых газетах, а таксама рэспубліканскіх літаратурна-мастацкіх выданнях і калектыўных зборніках. А вось як паэт-песеннік Аксана на той момант яшчэ сябе не праяўляла. Вырашыла паспрабаваць — здаецца, усё атрымалася. У выніку кампазітар і паэт знайшлі адзін аднаго. Цудоўныя мелодыі Віталя натхнілі Аксану на стварэнне тэкстаў. Пачалося плённае супрацоўніцтва.

Пра што спявае "Новая гульня"? Пра тое, што цікава і блізка кожнаму: пра сэнс жыцця, прыгажосць прыроды, пра радзіму. Ну і пра каханне, канечне, як без яго?

І гледзячы на актыўную працу музыкантаў, відавочна: спыняцца яны пакуль не збіраюцца.

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

*Слова краязнаўцы*



**Сяргей СТАРЫКЕВІЧ, загадчык навукова-метадычнага аддзела Мінскага абласнога краязнаўчага музея, распавядае пра тое, як даследаванне гісторыі роднай вёскі Краснае Маладзечанскага раёна стала для яго важнай часткай жыцця:**

— Нарадзіўся я ў Красным, таму для мяне цікавыя ўсе падзеі, якія там адбываліся на працягу вякоў, гісторыя помнікаў. Сур'ёзна гэтай тэмай пачаў займацца толькі дзесяць гадоў таму і шкадую, што ўпусціў час. Бо раней, пры Савецкім Саюзе, прасцей было паехаць у тую ж Літву і папрацаваць у архівах. Менавіта ў Вільнюсе захоўваюцца амаль усе дакументы, якія датычаць гэтай мясцовасці, бо пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай Краснае ўваходзіла ў Віленскую губерню. Свае даследаванні праводзіў у асноўным у Мінску і Гродне. Афіцыйна лічыцца, што ў 2003 годзе вёсцы Краснае споўнілася 500 гадоў. Але ў метрыках Вялікага Княства Літоўскага, з якімі я пазнаёміўся ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, знайшоў купчую за 1462 год, у якой разам з Маладзечнам і Радашковічамі ўпамінаецца мястэчка Краснае Сяло. Упэўнены: мая вёска, дзе цяпер пражывае каля чатырох тысяч чалавек, на пяцьдзясят гадоў старэйшая, а само паселішча існавала задоўга да гэтага ўпамінання ў пісьмовай крыніцы.

На жаль, яшчэ ўстанавіў, што ў "Зборніку помнікаў гісторыі і культуры Мінскай вобласці", выдадзеным у 1987 годзе, сустракаецца шмат памылак, якія датычаць Краснага: то дата ўстанаўлення помнікаў не тая, то колькасць загінуўшых не адпавядае рэчаіснасці. Цікавая акалічнасць: у вёсцы маецца два гарадзішчы, але ў гэтым жа выданні памылкова падаецца, менавіта каля якога з іх і ўзнікла Краснае. А яшчэ мне ўдалося ўстанавіць імёны амаль 300 чалавек, якія загінулі падчас Вялікай Айчыннай вайны, але іх прозвішчы нідзе не значацца. Для чаго я ўсё гэта раблю? Хочацца, каб мае землякі больш ведалі пра месца, дзе нарадзіліся, пра людзей, якія аддалі жыццё за радзіму, і ганарыліся багатай гісторыяй сваіх мясцін. Планую ўжо сёлета выдаць свае даследаванні ў выглядзе брашуры.

## Прыцягальны для турыстаў

Больш як 20 тысяч турыстаў з Беларусі і іншых краін свету штогод наведваюць у горадзе над Прыпяццю гістарычны цэнтр "Мазырскі замак". Дэкаратыўна аформлены, ён быў створаны ў 2005 годзе. Гораду са шматвяковай гісторыяй, першы ўспамін пра які адносіцца да 1155 года, ёсць чым ганарыцца. Мазыр заўсёды быў прыцягальным для турыстаў. А "Мазырскі замак" — гэта не проста музей, а месца, дзе праходзіць мноства захапляльных мерапрыемстваў, гучыць класічная і духоўная музыка. Сустракаюць гасцей, як і сотні гадоў таму, Князь і Княгіня — гаспадары замка. Пасля экскурсіі турыстаў частуюць у "Карчме" збітнем і квасам, якія прыгатаваны паводле старадаўніх рэцэптаў. А юныя наведвальнікі з радасцю завітваюць у дзіцячы гарадок з вежамі, лесвіцамі, драўлянымі кампазіцыямі і казачнымі героямі.

**Бажэна СТРОК**

*Музейны ўнікат*

# Паясы вярнуліся

**Раіса МАРЧУК, фота Кастуся Дробава**

**Дарагія для кожнага беларуса рарытэты — чатыры слуцкія паясы са збору Літоўскага мастацкага музея — экспануюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.**

Слуцкія паясы — прызнаная ва ўсім свеце нацыянальная рэліквія беларускага народа, унікальны від ручнога ткацтва і сімвал самавызначэння нацыі. Па-майстэрску выкананыя шэдэўры ствараліся на працягу сярэдзіны XVIII — першай паловы XIX стагоддзя на мясцовых мануфактурах, самай вядомай з якіх была Слуцкая.

Паясы былі важнай часткай мужчынскага касцюма, служылі сімвалам улады і багацця. Узорнымі лічыліся вырабы майстроў з Асманскай імперыі, Персіі (Ірана), Кітая. Прывазныя паясы былі рэдкімі і дарагімі, таму ўзнікла неабходнасць стварэння мясцовых мануфактур ("персіярань"). У 1758 годзе князь Міхал Казімір Радзівіл запрасіў са Станіслава (цяпер горад Івана-Франкоўск ва Украіне) ткача Яна Маджарскага для працы спачатку на Нясвіжскай, а пасля на Слуцкай мануфактуры. Армянскі майстар, родам са Стамбула, перанёс у Рэч Паспалітую ўсходнюю традыцыю вырабу шаўковых паясоў і навучыў свайму рамяству мясцовых ткачоў.

З цягам часу на змену экзатычным усходнім букетам прыходзяць родныя матывы — лёгка распазнавальныя незабудкі, валошкі, макі, званочкі. Пояс упрыгожваўся махрамі, на аблямоўцы змяшчалі ткацкую марку з вытканым імем майстра ("Ян Мажарски", "Лео Мажарски") ці месцам вытворчасці ("Слуцкъ", "Въ грдь Слуцкъ"). З 1781 па 1807 год мануфактуру арандуе сын Яна Маджарскага Лявон, які развіў і ўдасканаліў дэкаратыўнае і колеравае рашэнне паясоў, паспяхова прадоўжыў іх вытворчасць.



— Прадстаўленыя ў Мінску паясы перыяду Яна Маджарскага і Леа Маджарскага — цудоўныя па якасці, затканыя залацістымі і сярэбранымі ніцямі, адметныя вытанчанай колеравай гамай, маюць па канцах тонкі і складаны малюнак з кветкавых букетаў і авальных картушаў, увітых раслліннымі парасткамі з кветкавымі вянкамі ўнутры, — распавяла загадчыца аддзела старажытнабеларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь Алена Карпенка. — Гэтыя шэдэўры ствараліся ў самы бліскучы перыяд дзейнасці слуцкай мануфактуры. На жаль, ва ўсіх нашых музеях захоўваецца ўсяго адзінаццаць падобных цэлых паясоў. Толькі пяць паходзяць са Слуцка, а астатнія зроблены па ўзоры слуцкіх. Каб убачыць хоць адзін з іх, трэба ехаць спецыяльна ў той ці іншы горад. А захоўваць унікальныя рарытэты не так ужо і проста. Матэрыял — вельмі крохкі, "баіцца" яркага асвятлення і патрабуе пэўнай вільготнасці ў памяшканні. На выстаўцы можна ўбачыць яшчэ і два фрагменты пояса, якія знаходзяцца ў нашай экспазіцыі.



Бясспрэчна, слуцкія паясы — унікальная з'ява нацыянальнай культуры. Дзякуючы мастацкаму густу і прыроднаму пачуццю колера беларускія майстры ўнеслі вялікі ўклад у гісторыю еўрапейскага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Гэтыя шэдэўры з іх бездакорнай кампазіцыйнай гармоніяй і своеасаблівай вытанчанай арнаментыкай з'яўляюцца адным з найвышэйшых дасягненняў сусветнай мастацкай культуры.

— У нас вырасла цэлае пакаленне людзей, якія ведаюць пра слуцкія паясы толькі па вершы Максіма Багдановіча, але саміх паясоў ніколі не бачылі, таму не ўяўляюць, што гэта такое, — прадоўжыла Алена Уладзіленаўна. — А па фрагментах, якія мы маем, вельмі складана ўявіць прыгажосць цэльнага пяціметровага ззяючага палатна. Творы мастацтва, прадстаўленыя літоўскімі калегамі для беларусаў, — і своеасаблівы брэнд, і незвычайная ўдача, і радасць ад таго, што ёсць унікальная магчымасць убачыць мастацтва знакамітых слуцкіх ткачоў. Многія нашы наведвальнікі прыходзяць спецыяльна на гэтую выстаўку. Магчыма, яшчэ і таму, што задоўга да адкрыцця экспазіцыі мы праводзім шырокую рэкламную кампанію. І нават нягледзячы на тое, што два гады таму ў нас была падобная выстаўка, калі дэманстраваліся восем паясоў з Дзяржаўнага гістарычнага музея Масквы, адчуваецца: аматары высокага мастацтва засумавалі па такіх шэдэўрах, а магчыма, хтосьці не паспеў паглядзець тую, ранейшую. Некаторыя нават адзначылі, што гэтыя паясы па якасці лепшыя, чым "маскоўскія", — вельмі ўжо вытанчаныя па колеры.

І наогул адчуваецца, што ў апошні час значна ўзрос інтарэс наведвальнікаў да нацыянальнага мастацтва. У рамках гэтай невялічкай выстаўкі дайшоў да нас і партрэт пэндзля Валенція Ваньковіча, які адлюстроўвае маршалка слонімскай шляхты Войцеха Пуслоўскага ў традыцыйным касцюме шляхціца з поясам слуцкага тыпу. Усе ведаюць, што ў Мінску ёсць музей Валенція Ваньковіча — філіял Нацыянальнага мастацкага, але ў Беларусі няма ніводнага яго твора. Безумоўна, гэта яшчэ адно адкрыццё для беларусаў. Арыгінальны партрэт вельмі каштоўны па мастацкіх і прафесійных якасцях. Такое перакліканне паміж прадастаўленымі арыгінальнымі паясамі і адлюстраваннем пояса па карціне — дадатковы штрых, які ўпрыгожвае экспазіцыю.

***На здымках: слуцкія паясы з Вільнюса.***

*Штрыхі жыцця*

# Самабытная асоба

**Герой кнігі Яўгена Гучка "Ах, Родчанка!.." — рэдкая па сваёй натуры асоба. Складнікі роду Рыгора Родчанкі (1929 — 1994) — чалавека, грамадзяніна, слуцкага краязнаўцы, літаратуразнаўцы, фалькларыста, паэта — вельмі цікавыя. Па бацьку ён генеалагічна звязаны са знакамітым Аляксандрам Родчанкам (1891 — 1956) — дызайнерам, графікам, майстрам фотамастацтва, мастаком тэатра і кіно, сябрам Уладзіміра Маякоўскага. Па маці мае адны карані з выдатным беларускім паэтам Уладзімірам Жылкам (1900 — 1933).**

**Яўген ВАРУШЭВІЧ**

Як фалькларыст Рыгор Родчанка ганарыўся сваім зборнікам фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў Случчыны "З вечнага". Яшчэ ў 60-я гады мінулага стагоддзя падчас рэспубліканскага конкурсу гэтаму выданню было прысуджана першае месца за лепшы збор вуснай народнай творчасці. Зборнік меў два выданні (1984 і 1990). Дарэчы, Рыгор Віктаравіч запісаў ад маці Яўгена Гучка, як лепшай захавальніцы фальклору Случчыны, больш як сто песень. Некаторыя з іх — у гэтым зборніку.

Цікава і карысна пазнаёміцца з кніжкай Рыгора Родчанкі "Старая школа Беларусі" ("Народная асвета", 1985). У ёй распавядаецца пра гісторыю стварэння і адкрыцця ў 1617 годзе ў Слуцку навучальнай установы, якая на працягу стагоддзяў мела статус ліцэя, гімназіі, школы і калісьці неафіцыйна называлася "Слуцкімі Афінамі". У ёй працавалі разам з мясцовымі лепшыя выкладчыкі з Заходняй Еўропы, тут атрымалі адукацыю такія выдатныя асобы, як філосаф Уладзімір Ільін (прыбыў з Кіева), Ілья Капіевіч — рэфарматар грамадзянскага шрыфту ў Расійскай імперыі часоў Пятра І, Альгерд Абуховіч, беларуска-польскі паэт Адам Плуг, дырэктар Маскоўскай (Усерасійскай) абсерваторыі Вітальд Цэраскі, пісьменнік, дзяржаўны дзеяч Язэп Дыла, выдатны спецыяліст у галіне авіяцыйных і ракетных рухавікоў Сямён Косберг і многія іншыя не менш знакамітыя асобы. Дарэчы, у гэтай навучальнай установе (СШ № 1) працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры і сам Рыгор Родчанка.



Як перакладчык Рыгор Віктаравіч падрыхтаваў зборнік украінскага гумару "Эліксір маладосці", які ўбачыў свет у 1987 годзе. Дапытлівы чытач не абміне увагай і кніжку "Слуцкая старасветчына", у якой расказваецца пра некаторыя факты з гісторыі і культурнага жыцця Случчыны з часоў Кіеўскай Русі да канца XVIII стагоддзя.

Вядомы Рыгор Родчанка і як літаратурны крытык, навуковец. Так, ім была знойдзена і апублікавана сатырычная паэма Рыгора Скурата "Файнбергада" пра слуцкі бамонд дарэвалюцыйных часоў, сярод якога — дзед Надзеі Крупскай, бацька рускага пісьменніка Рыгора Бярозкі, бацька акадэміка АН СССР Аркадзя Мігдала і інш.

Публікаваўся Р. Родчанка як у раённым друку, так і ў акадэмічных выданнях. І не толькі ў Беларусі, а і далёка за яе межамі. Свае матэрыялы звычайна падпісваў "Р. Родчанка, настаўнік".

Пра ўсё гэта і распавядаецца ў кнізе Я. Гучка "Ах, Родчанка!..", якая выйшла напрыканцы мінулага года ў выдавецтве "Рыфтур". Выданне багата і з густам праілюстравана. Да месца пададзена тут і перапіска аўтара і героя.

Ульяна БЯЛОВА,
фота аўтара

# Вясёлая Масленіца

**Пасля выхадных беларусы зразумелі: зіма пачала адступаць. У паветры адчуўся першы вясновы водар, а ўздоўж тратуараў зацурчалі ручаі. І гэта невыпадкова, калі верыць старажытнай традыцыі. Яшчэ да хрышчэння Русі нашы продкі адзначалі свята, звязанае з культам прыроды — адраджэннем плодных сіл зямлі.**



Назву Масленіца (або Сырніца) гэтаму тыдню далі толькі тады, калі царква ўключыла яго ў лік сваіх свят. Вернікам забаранялася ўжываць мяса, але малочныя стравы дазваляліся. Таму Масленіцу яшчэ называюць сырным або мясапусным тыднем.

Масленіца — гэта пакланенне продкам, культ сям'і і шлюбу. Яна спалучае ў сабе шэраг жывёлагадоўчых і земляробчымі абрадаў, а таксама дзеянні, накіраваныя на ахову сям'і: абыходы, катанне з горак, адведванне бабак-павітух і спальванне чучала. У гэты дзень усе весяліліся.

Многім гараджанам і замежным турыстам, якія выбраліся за чатыры кіламетры ад Мінска ў Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту, асабліва пашчасціла. Там свята разгарнулася з незвычайным размахам. На свежым марозным паветры сярод аўтэнтычных беларускіх хат і гаспадарчых пабудоў гасцей сустракалі ўпрыгожаныя "сялянкі", забаўлялі прыпеўкамі, гульнямі. Яны расказалі, што значыць Масленіца і як яна адзначалася ў старажытнасці, з якіх свят і прысвяткаў складалася, якія стравы падаваліся да стала і каму аказвалі асаблівую пашану.

У святочнай нязмушанай атмасферы гасцям музея асабліва цікава было браць удзел ва ўнікальных абрадах і традыцыйных элементах святкавання Масленіцы. Напрыклад, у абрадзе "Масленічны абыход двароў" — у даўнія часы пасвяточнаму прыбраныя сяляне з музыкай і песнямі хадзілі па вёсках, зазываючы аднавяскоўцаў далучыцца да шэсця. "Выезд бабкі-павітухі" — таксама адзін з атрыбутаў традыцыйнай беларускай Масленіцы. Жанчыну, якая дапамагала дзецям нарадзіцца, асабліва шанавалі ў вёсцы і лічылі яе сімвалам сям'і і здароўя. А каб да сялян не прыйшлі беды і нягоды, трэба было абавязкова іх "зачыніць".

Масленіца заўсёды была самым вясёлым і сытным святам. Яе пяшчотна называлі "касатачка", "вясёлая", "аб'ядуха". Патрапіўшы на свята, гурманы маглі пакаштаваць духмяныя бліны з розным начыннем, да якіх налівалі салодкі збіцень. Але чаму менавіта бліны з'яўляюцца сімвалам Масленіцы? Гэтая традыцыя захавалася з часоў пакланення паганскім багам, калі людзі прасілі бога сонца Ярылу наблізіць прыход вясны. А круглыя жоўтыя бліны вельмі падобны да сонейка, якое так чакалі. Дарэчы, з усімі цікаўнымі гаспадынямі працаўнікі музея падзяліліся некалькімі старажытнымі рэцэптамі.

Асаблівасцю Масленіцы ў музеі народнай архітэктуры і побыту стаў конкурс "Масленічная лялька-2012". Выстаўка аўтарскіх лялек разгарнулася на галоўнай сцэне, пераможцаў вызначылі па дзвюх намінацыях: традыцыйная і арыгінальная лялька. Асабліва вылучыліся Вольга Мядзведзева і Влада Жгірава, якія выйгралі святочны абед у карчме.

— Масленіцу ў нашым музеі мы святкуем другі год, і гэта становіцца ўжо традыцыяй, — распавяла загадчык культурна-адукацыйнага аддзела гэтай установы Лілія Міхайлава. — Летась гасцей сабралася менш, хаця надвор'е ў тую Масленіцу было мякчэйшае. А вось сёлетнія сцюжа і завіруха не перашкодзілі нашым планам. Мы здолелі далучыць людзей да народных традыцый, зацікавіць іх беларускай гісторыяй і фальклорам. Вельмі прыемна было бачыць на нашым свяце шмат сем'яў з дзецьмі, моладзь, замежных турыстаў. Адным словам, традыцыі не забыты і, веру, праіснуюць яшчэ доўга.

Неад'емнай часткай Масленіцы, безумоўна, з'яўляюцца гучныя народныя песні і танцы. Спевы і карагоды ў выкананні лепшых фальклорных гуртоў — народнага ансамбля музыкі і песні "Мінскія музыкі", народных фальклорных калектываў "Мілавіца" і "Дубравіца", ансамбля народнай песні "Сваты", а таксама творчага калектыву "Майстэрня ўражанняў" з гульнёва-забаўляльнай праграмай — дапамаглі правесці матухну-Зіму. Нечаканым падарункам для гасцей стала яскравае фаер-шоу. Але яшчэ больш незабыўнае відовішча — "Спальванне Марэны" — сімвала Масленіцы. Лічыцца, што агонь пазбаўляе людзей ад холаду, зімы, усіх праблем і пакут. У народзе кажуць: на Масленіцу не тужыць — увесь год у шчасці жыць!

***На здымку: весела правялі Масленіцу ў музеі народнай архітэктуры і побыту.***

*Краіна легенд*

# Паданне ад бабулі Максіма Багдановіча

Раіса МАРЧУК,
фота аўтара

**Каля будынка Крупскага гісторыка-краязнаўчага музея аматараў сівой даўніны зачароўвае і прыцягвае незвычайны экспанат — культавы камень, якому калісьці далі назву "Божае крэсла". Прывезлі яго з-пад вёскі Сомры. Мясцовыя жыхары неаднаразова прыкмячалі, што на лясной палянцы, дзе знаходзіўся раней валун, адбываліся незвычайныя рэчы. Калі людзі набліжаліся да гэтага месца ці збіралі непадалёк грыбы-ягады, адчувалі сябе вельмі камфортна. Да ўсяго камень незвычайны і тым, што мае выемку, падобную да крэсла.**

Сомраўскія старажылы некалі расказвалі легенду. У далёкія часы хрысціяне паставілі каля валуна каплічку. Гэта не спадабалася язычнікам, якія вырашылі спаліць яе і пабіць хрысціян. Апошнія даведаліся пра злую задуму і абступілі шчыльным кальцом сваю святыню, гатовыя яе абараніць. Раніцою, калі язычнікі пачалі акружаць хрысціян, раптам на ясным небе з'явілася воблака, якое зззяла ўсімі колерамі вясёлкі, і яно павольна апусцілася на зямлю ў тым месцы, дзе ляжаў вялікі камень.

— Калі воблака рассеялася, усе ўбачылі: на валуне сядзіць чалавек, — распавяла дырэктар Крупскага гісторыка-краязнаўчага музея Тамара Бальбот. — Ён запытаўся ў язычнікаў: "Што дрэннага зрабілі вам хрысціяне?" У адказ пачуў: "Яны не вераць у нашых багоў!" — "Толькі з-за гэтага вы можаце замахвацца на жыццё старых, жанчын, дзяцей?" — здзівіўся мужчына. Наступіла цішыня. "Хто пойдзе са мною, то станьце па правы бок, хто супраць — па левы", — сказаў ён. Людзі раздзяліліся. І тут язычнікі адзін за адным пачалі перацягваца ў камяні, якія і цяпер раскіданы па ўсёй паляне. Мужчына ціха ўзышоў на воблака, якое зноў з'явілася, і знік. Усе прысутныя былі ўражаныя цудам. Азірнуліся, а на валуне адціснулася крэсла. Адсюль і назва пайшла. Калі хворыя людзі дакраналіся да валуна — вылечваліся. Калі загадвалі каля яго жаданне, яно спаўнялася. Пасля таго, як у Сомрах не засталося жыхароў, вырашылі перамясціць гэты камень да музея.

Ужо год дзейнічае ў музеі навучальная праграма "Мой родны кут" для выхаванцаў дзіцячых садкоў і вучняў малодшых класаў. Супрацоўнікі гэтай установы прыкмецілі: дзеці пасля заняткаў любяць пагуляць каля валуна пад назвай "Жаба", які сапраўды нагадвае гэтую істоту і таксама знайшоў пастаянную "прапіску" на музейнай тэрыторыі.



— Нам стала цікава, што ж гэта за камень, — падзялілася Тамара Уладзіміраўна. — Калі пачалі даследаваць, то ўспомнілі пра легенду, якую расказвала Максіму Багдановічу яго бабуля. Многія ж, напэўна, ведаюць, што бацька паэта Адам Ягоравіч нарадзіўся на Крупшчыне — у мястэчку Халопенічы. Дык вось, паводле падання, падчас Узвіжання змеі, рыхтуючыся да зімы, спачатку збіраюцца вакол вялікага каменя, на якім узвышаецца іх цар з каронай на галаве, а потым на чале з царом адпраўляюцца ў дарогу, каб разысціся па сваіх норах. Калі хтосьці ў гэты момант апынецца ў лесе, то неабходна, убачыўшы паўзучы ланцужок, пасцяліць перад ім ручнік ці хустку. Лічылася, што чалавек, які будзе імі пасля карыстацца, авалодае незвычайнымі здольнасцямі: лячыць людзей, тварыць дабро.

Каб яшчэ больш зацікавіць дзяцей гісторыяй і паданнямі, дырэктар музея прапанавала мясцоваму ўмельцу, рэзчыку па дрэве Аляксею Гарбунову вырабіць саву.

— Майстар нашу просьбу выканаў — цяпер мудрая сава сядзіць на пянёчку побач з "Жабай" і ўважліва назірае за ўсімі, хто набліжаецца да валуна, — зазначыла Тамара Бальбот.

А можа, хтосьці знойдзе новае паданне пра "Жабу" ці створыць сваю легенду пра незвычайны валун?

***На здымку: камень "Божае крэсла". Дакрануцца да валуна можна, а вось садзіцца забаронена.***

*Цікава ведаць*

# Забароненае слова

Анатоль ВАЛАХАНОВІЧ

**У канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў мінулага стагоддзя адбыліся значныя і прыемныя змены ў дачыненні да культуры. Але выключна негатыўную і супрацьлеглую пазіцыю ў дачыненні да гістарычнай спадчыны, музеяў і музейнай справы заняў некалі Народны камісарыят БССР.**

Музеі розных профіляў, створаныя дзякуючы магутнаму ўсплёску краязнаўчага руху ў 20-я гады, раптам сталі непатрэбнымі, бо яны актыўна распаўсюджвалі веды пра родны край, паказвалі адметнасці, глыбокія традыцыі, нацыянальныя карані беларусаў, генеалогію вядомых радоў, спрыялі хуткаму аднаўленню інтэлектуальнага патэнцыялу.

Актыўны наступ на беларускія музеі пачаўся ў 1929 годзе. Інстытут беларускай культуры (папярэднік АН БССР) і Цэнтральнае бюро краязнаўства падпарадкавалі Наркаму асветы АН БССР. Усе музеі "мабілізавалі" на ўдзел у палітычных кампаніях па прапагандзе індустрыялізацыі, калектывізацыі і культурнай рэвалюцыі. Да збору, захавання, вывучэння помнікаў гісторыі і культуры, без чаго, зразумела, немагчыма існаванне гэтых устаноў, ставіліся варожа. Музеі, па сутнасці, ператвараліся ў кабінеты палітасветы. На Усебеларускай нарадзе музейных работнікаў (Мінск, 1932) гучалі заклікі перабудаваць экспазіцыі музеяў паводле ўзору "Краткого курса истории ВКП(б)". Прапаноўвалася наваст больш не карыстацца словам "музей", а экспазіцыі выстаўляць на вуліцах гарадоў і вёсак. На працягу 30-х гадоў шматлікія ўстановы былі па-варварску знішчаны і разрабаваны.

Адным з першых зачынілі Слуцкі краязнаўчы музей, дзе захоўвалася шмат каштоўных экспанатаў, дакументаў і матэрыялаў. Ён быў заснаваны ў 1921 годзе беларускім культурна-асветніцкім таварыствам "Папараць-кветка" (арганізатар і кіраўнік А. Бараноўскі). Музей мясціўся ў будынку былой Слуцкай гімназіі і лічыўся адным з найлепшых у Беларусі. Тут захоўваліся ўнікальныя партрэты слуцкіх князёў Алелькавічаў, ва ўладанні якіх у свой час былі Горкі, Залужжа, Ісаевічы, Макарычы, Старыя Дарогі, Слуцк і інш. Экспанаваліся рукапіснае Евангелле XVI стагоддзя, радзівілаўская Біблія, якая была выдадзена ў Брэсце ў 1563 годзе, жывапісныя работы мастака Катарбінскага, посах і сярэбраная рыза XVI стагоддзя, епітрахіль (частка адзення праваслаўнага святара) і шмат іншых музейных экспанатаў. Штодзённа музей наведвала прыкладна 150 чалавек. У сярэдзіне 30-х гадоў яго зачынілі, а шматлікія экспанаты былі знішчаны ці разрабаваны. Вось такія перашкоды ў даваенныя часы перацярпелі музеі і музейная справа ў Беларусі. І толькі ў пасляваенны час іх пачалі па-сапраўднаму адраджаць.

Наноў Слуцкі краязнаўчы музей адкрылі ў кастрычніку 1952 года. Сёння ён мае шэсць экспазіцыйных залаў, каля 14 тысяч экспанатаў у асноўным фондзе. Асобная экспазіцыя прысвечана Слуцкай мануфактуры шаўковых паясоў XVII пачатку XIX стагоддзяў. Тут можна ўбачыць дакументы і матэрыялы пра пісьменнікаў, ураджэнцаў Случчыны: А. Васілевіч, В. Вітку, Я. Скрыгана, Я. Дылу, Ю. Гаўрука, С. Ліхадзіеўскага, а таксама жывапісныя палотны мастакоў С. Бакаева, М. Блішча, У. Садзіна, цікавыя работы народных умельцаў.

# Кветкавы жывапіс



**Майстар-фларыст Таццяна Дземідзенка, работы якой прыцягнулі ўвагу на адной з выставак клуба "Прырода і фантазія", без перабольшання здзяйсняе штохвілінны подзвіг. Нягледзячы на стан здароўя і паважаны ўзрост (амаль 80 гадоў), пастаянна чымсьці занятая. З задавальненнем чытае, піша вершы, успаміны пра цяжкае ваеннае дзяцінства, апавяданні. Шмат часу яна прысвячае любімаму занятку — фларыстыцы.**

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**

У свой час Таццяна Адамаўна закончыла гідрамеліяратыўны тэхнікум і набыла не зусім жаночую прафесію меліяратара, займалася асушэннем балот. Потым працавала ў навукова-даследчым інстытуце меліярацыі, куды такіх практыкаў бралі з задавальненнем. Што датычыць меліярацыі, то тут яна пачувалася як рыбка ў вадзе. Але двое сыноў патрабавалі ўсё большай і большай увагі маці, ёй жа часта даводзілася выпраўляцца ў працяглыя камандзіроўкі. Хаця цяжка было мяняць занятак, усё-такі вырашыла перайсці ў Інстытут цепла- і масаабмену НАН Беларусі на пасаду інжынера. Як кажуць, творчы і таленавіты чалавек усюды сябе праявіць. На рахунку жанчыны — дыплом вынаходніка, яна суаўтар дзесяці вынаходстваў. А дасягнуць усяго гэтага дапамагалі прыродная кемлівасць, невераГодная працавітасць і, безумоўна, залатыя рукі. Ад маці, простай вясковай жанчыны з гомельскага Палесся, яшчэ да школы навучылася ткаць, шыць, вязаць, вышываць, ствараць адмысловыя рэчы для свайго жытла.

— Усё жыццё, як сябе памятаю, мае рукі не маглі трываць без работы, — распавядае майстрыха. — Потым, калі з'явілася прыгожая тканіна, за апошнія капейкі купляла яе літаральна па паўметра, выразала яркія кветкі і прышывала іх на нейкую аснову — атрымлівалася адмысловае пано. Упрыгожвала імі сваю кватэру, дарыла сябрам. Мае сурвэткі, вязаныя кручком, часта бралі на розныя выстаўкі. Шмат вязала пруткамі. Іншы раз удавалася зарабіць і нейкую капейчыну для сям'і. Неяк вясною ўбачыла на дрэвах гронкі вельмі прыгожага насення з крыльцамі. Пачала яго збіраць, сушыць. Адразу ўзнікла ідэя зрабіць штосьці незвычайнае з гэтага звычайнага прыроднага матэрыялу.

Новае хобі па-сапраўднаму захапіла жанчыну, у хуткім часе стварыла шмат прыгожых карцін. Іх таксама раздорвала блізкім і знаёмым. "А як прыйшло захапленне фларыстыкай?" — пацікавілася ў майстрыхі.

— Неяк запрасілі мяне на дачу. Убачыла гэтае прыгожае месца за Вязынкай і адразу загарэлася жаданнем вырошчваць розныя кветкі. У хуткім часе такі кветнік развяла! Спачатку шкада было выкідваць сухацветы, а потым зацікавілася фларыстыкай. Пачынала з нуля, не маючы ніякага ўяўлення пра тое, як правільна засушваць кветкі і лісточкі, як іх захоўваць, каб зберагчы прыродны колер. Многія майстры ведаюць: гэтыя падрыхтоўчыя работы патрабуюць вялікага цярпення і часу. Але калі ўжо матэрыял сабраны і раскладзены, застаецца толькі ўключыць фантазію. Асабліва гэта датычыць спалучэння саміх раслін, колераў, нават фону, на якім будзе стварацца кампазіцыя. Да мяне звярталіся, каб пераняць майстэрства. Пачынаю падрабязна расказваць пра фларыстыку, але яны толькі ўздыхаюць: маўляў, надта ўжо карпатлівы гэта занятак. Патрабуе шмат часу, сіл, цярпення, добрага густу.



Ужо год пасля таго, як зламала руку, Таццяна Адамаўна на дачу не ездзіць і амаль не выходзіць на вуліцу (інвалід другой групы). Як жа робіць нарыхтоўкі? Матэрыял прывозяць і прыносяць блізкія людзі, а іх у жанчыны нямала. Сама ўсё засушвае. Тэхналогію асвойвала вопытным шляхам, абапіраючыся на інтуіцыю. А некалькі гадоў таму ў рукі Таццяны Адамаўны трапіла кніга, у якой расказвалася, як займацца фларыстыкай.

— У асноўным мае прыёмы супадаюць з выкладзенымі рэкамендацыямі, а здараецца, нашы метады адрозніваюцца. Прынамсі, у кнізе напісана, што немагчыма захаваць пры сушцы белы колер ландыша, таму прафесійная фларыстыка прапануе выразаць бутончыкі з лушпіння часнаку. Я ж паступаю інакш: рыхтую спецыяльную сумесь і танюсенькай кісточкай падмалёўваю кожную кветачку. Дарэчы, у фларыстыцы гэта дапушчальна. З пялёсткаў адной расліны можна стварыць другую, з лісця трэцяй выкласці вазу.

Апошнім часам работы Таццяны Адамаўны можна ўбачыць на розных выстаўках. Майстрысе вельмі прыемна, што людзі знаёмяцца з яе творчасцю, ацэньваюць, набываюць карціны ў падарунак. У кожнай з іх адчуваецца душа майстра. Жанчына не перастае верыць, што добрых людзей на гэтым свеце больш. Такое жыццёвае крэда Таццяны Дземідзенкі.

***На здымках: Таццяна Дземідзенка; кветкавая кампазіцыя майстрыхі.***

*Экскурс у мінулае*

# Узоры майстэрства тысячагадовай даўнасці

**Міра ІЎКОВІЧ**

**Сапраўдныя вырабы рамеснікаў XI — XIII стагоддзяў прадстаўлены на выстаўцы "Гомель старажытны — горад рамеснікаў" ў палацы Румянцавых і Паскевічаў. Экспазіцыя, якую падрыхтавалі супрацоўнікі дзяржаўнай гісторыка-культурнай установы "Гомельскі палацава-паркавы ансамбль", прысвечана 870-годдзю першай згадкі Гомеля ў летапісных крыніцах і 25-годдзю рэдкай археалагічнай знаходкі — зброевай майстэрні.**

Вырабы гомельскіх рамеснікаў, як і прадметы са зброевай майстэрні, былі знойдзены на тэрыторыі гістарычнай часткі горада над Сожам. На выстаўцы можна ўбачыць таксама рэканструкцыі прадметаў побыту, касцюмаў, пласцінчатага даспеха, халоднай зброі, якія прадставілі члены гомельскага клуба гістарычнага мадэліравання і фехтавання "Грыдні Мсціслава Глебавіча".

Дарэчы, Гомель — летапісны Гомій — адзін са старажытнейшых гарадоў на тэрыторыі нашай краіны. Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе каля 1142 года, хаця існаваў задоўга да гэтага запісу. У пачатку XIII стагоддзя горад вызначаецца як значны палітычны, гандлёвы, культурны і рамесніцкі цэнтр паўночна-заходняй часткі Чарнігаўскай зямлі. У гэты час тут пражывала, па падліках гісторыкаў, больш як пяць тысяч чалавек. Менавіта столькі жыхароў налічвалася ў тыя часы ў гарадах сярэдніх памераў. Пасяленні такога кшталту прыкметна адрозніваліся ад больш малых гарадоў перш за ўсё развітымі гандлем і рамёствамі. Пацвярджэнне таму — шматлікія знаходкі вырабаў гомельскіх майстроў, якія змаглі стварыць самабытную гарадскую культуру.

*З глыбінкі*

## У школу, да брата паэта

У свой час Алесь Пісьмянкоў нярэдка з сябрамі-паэтамі завітваў у Лапіцкую сярэднюю школу Асіповіцкага раёна, дзе дырэктарам працуе яго брат Мікалай Уладзіміравіч. Аднак пасля смерці паэта гэтая традыцыя парушылася. Сёлета па ініцыятыве дырэктара і яго жонкі, настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Таццяны Канстанцінаўны, правядзенне своеасаблівых Дзён паэзіі было адноўлена.

На першы з іх запрасілі сябра Алеся Пісьмянкова Анатоля Зэкава, які пры жыцці паэта ўжо наведваў школу. Вучні чыталі вершы беларускіх аўтараў, слухалі госця, задавалі яму пытанні. Асабліва кранулі школьнікаў і настаўнікаў успаміны А. Зэкава пра А. Пісьмянкова, якія пасля смерці паэта былі выдадзены асобнай кнігай "Алесь", а таксама ўвайшлі ў празаічную кнігу пісьменніка "Генеральскі нумар", што выйшла сёлета ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Апошнюю, як і кнігі госця "Зязюля Гулюля", "Мянтуз сярод мядуз" і "Каханне на снезе", удзельнікі сустрэчы змаглі набыць з аўтографам.

**Анатоль ПАТАПАЎ,**
**Асіповіцкі раён**

## Навука патрыятызму

Сёння кніжкі Аляксея Бабкова можна пабачыць у любой бабруйскай бібліятэцы. Выдадзеных з 2006 года, іх ужо пяць. І калі першая, "Усё жыццё на відавоку", задумвалася аўтарам як выніковая праца да ўласнага 80-годдзя і 60-годдзя журналісцкай творчасці, то наступныя літаратурна-публіцыстычныя зборнікі з'явіліся як даніна павагі людзям і падзеям. Галоўная тэма, якой яны прысвечаны, патрыятызм.

Кніга "Героі і ветэраны 5-й танкавай" з'явілася ў 2007 годзе. Задума пра літаратурны помнік легендарнаму вайсковаму аб'яднанню проста павінна была ажыццявіцца ў горадзе на Бярэзіне, дзе з пасляваенных часоў і да расфарміравання дыслацыраваліся яе часці і штаб. Манаграфіяй, прысвечанай выхаванню патрыятызма на прыкладах гераічнага жыцця абаронцаў Радзімы, я б назваў зборнік "Горад на Бярэзіне памятае аб вайне". У кнізе "Расстралянае дзяцінства" на кожнай старонцы — боль душы нашых суайчыннікаў, землякоў, самога літаратара.

Даўно ведаючы Аляксея Сяргеевіча, не перастаю здзіўляцца сіле яго пераканання. За гады супрацоўніцтва не раз лавіў сябе на думцы: ён, як танк, ідзе праз усе перашкоды дзеля перамогі грамадскіх інтарэсаў, б'е з гарматы газетных выступленняў па заганах, абараняючы паплечнікаў-ветэранаў. Памятаю, як, усхваляваны, ён прыйшоў у рэдакцыю і ўзняў пытанне пра невядомыя пахаванні на ўскрайку гарадскіх могілак: "Кажуць людзі, што там могуць быць і ўдзельнікі вайны". Давялося ехаць, высвятляць, прычым з ім, ветэранам, якому пайшоў ужо 85-ы...

Даводзілася чуць пра яго занадта патрабавальную пазіцыю, непрымірымую прынцыповасць. Але, мяркую, патрабавальны ён таму, што вельмі любіць наш горад, краіну і хоча, каб яны станавіліся лепшымі.

**Аляксандр КАЗАК,**
**г. Бабруйск**

*Афарызм*

*Зямлі — зямное, неба — небу,*
*Што маеш, ты і даражы.*

**Міхась Стральцоў**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856

Кошт у розніцу — 2300 рублёў

Наклад — 2835
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 01.03.2012 у 11.00

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.

Заказ — 967

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686